бібліятэка Свабоды

XXI стагодзьдзе

Вінцэсь Мудроў

# альбом сямейны



радыё свабода

*Лепш успомні і паглядзі,*
*Чым паглядзі ды ўспомні.*

Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода

Вінцэсь Мудроў

# альбом сямейны



Няхай фатакартачка гэта
Папоўніць „Сямейны альбом"!

Як сьціплая песьня паэта,
Як першы раскошысты гром-

**Вінцэсь Мудроў. АЛЬБОМ СЯМЕЙНЫ.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.

Рэдактар *Аляксандра Макавік*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Галіна Рабянкова*
Іншае *Аляксандар Лукашук*

У афармленьні кнігі выкарыстаныя фатаграфіі Асвальдо Саляса, Альбэрта Мэрыёна, здымкі зь сямейных альбомаў Вінцэся Мудрова, Надзеі Полех і фота з шуфляды Генадзя Мацура.



ISBN 978-0-929849-13-3



# Як В.Мудроў разваліў С.Саюз*

Першы водгук на перадачу Вінцэся Мудрова «Летні альбом» прыйшоў з Вашынгтону. Мне пераслалі скаргу пільнага слухача, які абураўся: да чаго скацілася «Свабода», калі такое даюць у этэр! Аўтар патрабаваў ужыць меры й падпісаўся: «Патрыёт Беларусі».

Сярод сотні страшных, сьмешных і забытых словаў, якія складаюць гэтую кнігу, слова «патрыёт» няма. Але ці мала чаго там няма — напрыклад, такіх жыцьцёва важных словаў нягрэцкага паходжаньня, як «данос», «панос» і «засос». А, дарэчы, шкада: як без апошняга апісаць барацьбу за мір паміж таварышам Брэжневым і іншымі таварышамі, якіх спачатку баяліся, зь якіх потым сьмяяліся й на якіх цяпер забыліся?

Мы баімся, сьмяемся й забываем — чым ня формула жыцьця, калі б жыцьцё само гэтак часта не сьмяялася з тых, хто спрабуе зьвесьці яго да формулы. Калі ў чэрвені 2006-га перадача выйшла ў этэр, мы думалі, яна скончыцца ў жніўні. І памыліліся двойчы — апошнія, восеньскія старонкі былі перагорнутыя ажно ў лістападзе, а сам альбом з сэзоннага стаў сямейным.

Альбом не давалі закрыць слухачы, якія паставіліся да новай перадачы хаця й патрабавальна («Патрабуем працягу!»), але некрытычна (адзін апалягет нават заявіў: «Хоць бы дзень пажыць у гэтым «Альбоме»!» Верагодна, ён ня быў патрыётам.).

---

* Гл. с. 211.

Некалі француcкі філёзаф Агюст Рэнан зазначыў, што найлепшы сродак падкрэсьліць важнасьць якой-небудзь падзеі ці зьявы — прыбраць яе й паказаць, чым сьвет зрабіўся б безь яе.

Вінцэсь Мудроў зрабіў адваротнае — ён вярнуў рэчы, безь якіх сьвет існуе.

Усясьветная літаратура вяртаньня, якую цьмяна імянуюць то рэалізмам, то мадэрнізмам, займаецца адной справай — пошукамі страчанага часу. Марсэль Пруст знаходзіў яго праз смак піpожнага мадлен, Мудроў — праз цукеркі падушачкі, Джэймз Джойс аднаўляў ва «Ўлісе» плынь сьвядомасьці аднаго дня, Мудроў сьвядома пераслухоўвае плыўкі гук з разблытаных магнітафонных стужак, 10-гадовы Леў Талстой прачынаецца жнівеньскім ранкам у ложку «Дзяцінства», 10-гадовы Мудроў — у «Ложку з панцырнай сеткай». Яны абодва ня хочуць уставаць, толькі над першым гайдаецца абразок анёла, а другі думае, як скруціць бліскучыя стальныя шарыкі зь нікеляванай сьпінкі панцырнага ложка.

Дыстанцыя — неабходная функцыя бачаньня. Пытаньне, аднак, у яе велічыні й ягонай сіле. Некаму не хапае жыцьця, каб пабачыць, што яно прайшло ў люстраным пакоі з крывымі сьценкамі. Нехта прымае за рэальнасьць ружовы туман. А нехта, нават народжаны ў турме, чуе гукі іншай музыкі, вычытвае сваё ў газэтных абрыўках, сьмяецца з таго, чым ганарацца астатнія, і раптам бачыць самога сябе — каб ужо ніколі не забыцца.

І аказваецца не цаглінай у маналітнай сьцяне, і сьцяна не вытрымлівае.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

P.S. Перадача «Летні альбом» выклікала жвавую рэакцыю слухачоў, якія дасылалі пытаньні, прапановы, парады, просьбы й пагрозы. Рэдакцыя адказвала як умела.

# любімыя картачкі

Ключ у соседа



Раніцай у маленстве прачнесься, пацягнесься й абавязкова памацаеш пальцамі шарыкі на сьпінцы мэталёвага ложка. На кожнай сьпінцы было пяць шарыкаў: два збоку й тры пасярэдзіне, на нікеляванай папярочыне. Мне ўвесь час карцела іх адкруціць, і бацька, ведаючы пра такую жарсьць, прыхапіў шарыкі абцугамі.

## Ложак з панцырнай сеткай

Ложак меў панцырную сетку: некалькі соцень мэталёвых колцаў лучылі сагнутыя з бакоў сталёвыя пруткі. **Сетка добра спружыніла, і калі маці здымала з ложка сяньнік і выносіла на прасушку, я любіў паскакаць на ім, як на батуце.**

Удзень маці звычайна засьцілала ложак пакрывалам, а падушкі ўзьбівала ды клала адну на адну. У сябра, што жыў у суседняй кватэры, маці клала ня дзьве, а чатыры падушкі й накрывала цюлевай накідкай. На сьпінках мэталёвага ложка віселі белыя фіранкі, а там, дзе яны прывязваліся да білы, агнём гарэлі чырвоныя банты. Мне такое ўбраньне страшэнна падабалася.

Яшчэ ў суседзкай кватэры стаяла канапа з круглымі валікамі, якая называлася атаманкай. Калі на ёй паскакаць (што мы зь сябрам і рабілі), спружыны азываліся жаласьлівым гудам. **Я заўсёды пытаўся ў маці, чаму ў нас няма такой атаманкі, і яна адказвала: няма грошай.** Была ў сябруковай кватэры яшчэ адна адметная рэч — палічка для ручніка. Пасярэдзіне палічкі было акенца з намаляванай кабетай у купальніку. Мы ўзлазілі на ўслон і, наблізіўшы насы да акенца, зь непазбыўнай цікавасьцю глядзелі на кабету*.



Што ў нашых кватэрах было аднолькавае, дык гэта вялізныя фікусы ў квадратных кадках (бацька любіў тушыць у іх папяросы, і маці з тае нагоды ўвесь час сварылася).

У сярэдзіне 1960-х усяму гэнаму патрыярхальнаму абсталюнку прыйшоў канец. Надарылася сапраўдная інтэр’ерная рэвалюцыя. Замест жалезных ложкаў ды атаманак, круглых дубовых сталоў, чырвоных абажураў, непад’ёмных казармавых услонаў з выразанай на седале дзіркай у малагабарытных кватэрах зьявіліся драўляныя ложкі з паліраванымі сьпінкамі, раскладныя канапы, часопісныя столікі, элегантныя таршэры й лёгкія ўслоны на трох раскірэчаных ножках. Наагул, у новым абсталюнку ўсё было раскірэчанае, прысадзістае, як бы прыціснутае да падлогі стольлю, якая рабілася ўсё больш нізкай.

Фікусы, кітайскія ружы, мядзьведжыя лапы ды іншыя хатнія расьліны вынесьлі на сьметніцы, а мэталёвыя сьпінкі ад ложкаў сталі выкарыстоўваць як агароджы на загарадных дзялянках.

Там, сярод хмызоў і чэзлага бульбянішча, скончылі век славутыя ложкі з панцырнай сеткай.

- - - - - - - - - - - -

* *Слухачка Ж.:* А ў якія яшчэ акенцы падглядаў аўтар?.. *Рэдакцыя*: Пра гэта будзе новая кніга. З ілюстрацыямі.

На навагоднім ранішніку (сустракалі 1962 год) **Дзед Мароз спытаўся: «Каго ведаеце з касманаўтаў?» — і адзін хлопец голасна крыкнуў: «Юры Гагарын, Герман Цітоў, Фідэль Кастра!»**

## Кастра Фідэль

Лідэр кубінскай рэвалюцыі — магутны барадач у барэце й з цыгарай у зубах — быў ня менш папулярны за касманаўтаў.

Разгул савецка-кубінскага сяброўства прыпаў на 1963 год. Таго году Мікіта Хрушчоў ганараваў Фідэля зорачкай Героя Савецкага Саюзу, а радыёэтэр скаланула песьня «Куба, любовь моя».

*Слышишь чеканный шаг?*
*Это идут барбудос.*
*Небо над ними как огненный стяг —*
*Слышишь чеканный шаг?*

Для тых, хто ня ведае: **«барбудас»** па-гішпанску «барадачы».

У 1963 годзе савецкія людзі душыліся ў чэргах па хлеб, аднак на далёкіх сяброў не забываліся. Той жа кубінскі цукар Савецкі Саюз набываў у некалькі разоў даражэй, чым астатні сьвет. Праўда, савецкая дапамога, як гэта часта бывае пры дыктатурах, на карысьць кубінцам не пайшла. **На Высьпе Свабоды немагчыма было набыць бутэльку малака для дзіцёнка.**

Фідэль Кастра на кароткі час стаў заканадаўцам моды. Страшэнную папулярнасьць займелі чорныя барэты. Іх можна было купіць толькі ў Маскве й Ленінградзе. Прычым, да макаўкі быў прышыты караценькі пампон, які адразу ж, скрывіўшы вусны, адразалі. Сёй-той адпусьціў бараду, аднак такія праявы грамадзтва не вітала. У нашым пад’езьдзе завёўся адзін барбуда й адразу ж атрымаў мянушку Кастра. Сустракаючы яго ля пад’езду, суседзі заўсёды пыталіся: «Іван, калі паголісься?» Урэшце, аднаго разу Іван заснуў недзе п’яны, сябрукі перапэцкалі бараду гудронам, і барбуду давялося пагаліцца.

**Пасьля таго як зьнялі Хрушчова, буяньне савецка-кубінскага сяброўства ачэзла. Пра Кубу рэгулярна згадвалі ў друку, але без ранейшага імпэту.** Па радыё ўжо не сьпявалі «Куба, любовь моя». На той час існаваў іншы, народны тэкст, які пачынаўся словамі: «Куба, отдай наш хлеб»*.

Што зь сябе ўяўляе кастраўскі рэжым, стала вядома з кнігі кубінскага паэта й дысыдэнта Арманда Вальядарэса «З надзеяй у сэрцы...». Паэт дваццаць два гады правёў у камуністычных катоўнях, і яму было што распавесьці людзям. Кубінскі варыянт «Архіпэлягу ГУЛАГ» пераканаў, што ўсе таталітарныя рэжымы і ўсе дыктатары аднолькавыя.

Сёньня прозьвішча Кастра мала хвалюе беларусаў. Адно што жанкі сярэдняга веку, пачуўшы яго, сьвятлеюць з твару. Аднак думаюць яны пра Вэроніку Кастра, выканаўцу галоўнай ролі ў сэрыяле «Багатыя таксама плачуць» — а не пра Кастра Фідэля.

---

* *Слухач Д.:* Чаму не далі ўсяго тэксту?!.
*Рэдакцыя:* Цэнзура не пусьціла.

Мець фотаапарат было прэстыжна. У 1950—1960-я яго называлі «фоцікам». І ў каго на плячы вісеў запаветны футарал, таго любілі дзяўчаты й паважалі хлопцы.

## Фоцікі

Фотаапарат на плячы быў элемэнтам моладзевага стылю. Клясычны мачо тае пары: высокі, стрыжаны пад польку шатэн у сьветлым гарнітуры (каўнер кашулі абавязкова выцягнуты наверх) — а на баку вісіць славуты «ФЭД-3». На той час ён лічыўся шыкоўным фоцікам.

Гэта ўжо потым, на пачатку 1970-х, зьявіўся «Зэніт-Е» ў экспартным выкананьні, які каштаваў 100 рублёў і лічыўся найлепшым савецкім фотаапаратам. А мае аднагодкі завіхаліся са «Сменами» й «Зоркими», на якіх нават фахоўцы не давалі рады атрымаць якасных здымкаў. Самымі прасунутымі лічыліся фотаапараты з уштукаваным у іх экспанометрам.

З фоцікам звычайна ішлі на сьвяты. Ці не таму старыя здымкі, якія захоўваюцца ў сямейных архівах, зробленыя ў асноўным на першатравеньскіх ды кастрычніцкіх дэманстрацыях? Пабачыўшы хлопца з фотаапаратам, дзяўчаты міжволі пачыналі папраўляць прычоскі й гукаць: «Лёша, нас здымі!»



Лёша здымаў, а потым, пазьней, калі дзяўчаты пыталіся: «Калі дасі фоткі?», адводзіў вочы й бурчэў: «Плёнка засьвяцілася». Рабіць усе фоткі, што былі на плёнцы, было дарагавата.

Цяпер маладыя ўладальнікі лічбавых «кодакаў» і ўявіць ня могуць, колькі часу й грошай вымагала фотааматарства. У мяне фоціка не было, аднак ён быў у майго сябра Анатоля Рыбікава, і я добра ведаў, што такое зрабіць якасныя здымкі. Суботнім вечарам Толік залазіў у цёмную шафу, праяўляў там плёнкі, потым сушыў іх, падвешваючы да люстры, а ноччу мы зачыняліся ў ванным пакоі і ў крывавым сьвятле чырвонага ліхтара рабілі здымкі. Пры гэтым сябар даручаў мне толькі дзьве апэрацыі: пабоўтаць фоткі ў начовачках з вадою й пакласьці ў фіксаж.

Былі фотааматары, якія рабілі на гэтай справе бізнэс: пераздымалі з замежных часопісаў дзявотак і, дадаўшы нязграбны надпіс: «Люби меня как я тебя» (коску ніколі ня ставілі), прадавалі ў цягніках далёкага кіраваньня. Прадавалі ня самі — наймалі глуханямых інвалідаў. Міліцыя калі й затрымлівала нямка, дык неўзабаве, нічога ад таго не дабіўшыся, адпускала.

Прадавалі (праўда, са страшнай аглядкай) і эротыку — здымкі перазьнятых з трафэйных нямецкіх картак голых дзевак*. Гэта была крымінальшчына, за якую ў найгоршым выпадку пагражала вязьніца, а ў найлепшым — штраф з канфіскацыяй фоціка.

-------------

* *Слухач К.:* Пасылаю калекцыю дзяўчат, якую зьбіраў 50 гадоў.
*Рэдакцыя:* Гэта вам на тэлебачаньне трэба, на Першы канал.

Калі на беларускіх экранах зьявіўся гэты фільм, ён пабіў усе рэкорды папулярнасьці. Гэта быў знакаміты «Человек-амфибия»*, зьняты ў жанры **фэнтэзі**. Зрэшты, кінагледачы ў 1962 годзе ня ведалі такога слова, як ня ведалі й шмат чаго іншага.

## «Чалавек-амфібія»

Мала хто ведаў, як жывуць людзі за мяжой, у якіх-небудзь тропіках, якая там прырода й як там здабываюць жэмчуг. Усё гэта пабачылі ў згаданай **карціне** — так на той час называлі мастацкія фільмы. І не бяда, што на экране фігураваў перафарбаваны ў экзатычны колер ЗіЛ-157, а дзея разгортвалася на вуліцах старога Баку й на тле пазнавальных крымскіх краявідаў.

**Але самым адметным доказам нетутэйшасьці пабачанага быў галоўны герой — Іхтыяндар. Смуглявы доўгавалосы прыгажун у белых шортах.** Дарма што актор, выканаўца галоўнай ролі, меў тутэйшае прозьвішча Коранеў.

---

* *Слухач І.:* А «Фантамас» лепш!!!
*Рэдакцыя:* Добра-добра, толькі не забягайце наперад і не глядзіце с. 34.



Першыя паказы фільму ў Менску зьбіралі вялізныя натоўпы. Усе праглі трапіць на сэанс. У адным з кінатэатраў выламалі дзьверы, у іншым на ўваходзе прыдушылі дзяўчыну, давялося рабіць штучнае дыханьне. У маскоўскім кінатэатры «Расея» падчас прэм'еры разьбілі шкло, былі параненыя. У Піцеры экзальтаваныя дэвоткі перакулілі шапік, дзе прадавалі фатаздымак актора Ўладзімера Коранева. **Маладыя маці называлі Іхтыяндрамі сваіх першынцаў**, а гарадзкія падлеткі падбіралі на гітарах мэлёдыю зь фільму (гэтую: «Нам бы нам бы нам бы всем на дно...»).

Адна мая знаёмая тады вучылася ў пэдынстытуце й распавядала, як павесіла ў інтэрнацкім пакойчыку маленькі, выцяты з «Советского экрана» фатаздымак Іхтыяндра. Здымак правісеў да вечара. Хтосьці зь сяброўак прыбраў яго да рук, і сьлёзныя просьбы вярнуць сакрамант не далі плёну.

У чым жа сакрэт колішняй папулярнасьці фільму? Відаць, ня толькі ў зьнешнасьці галоўнага героя. «Человек-амфибия», бадай, першы савецкі фільм, стваральнікі якога рашуча адышлі ад савецчыны, стварыўшы (хай і дарэшты фантастычны) вобраз сацыяльна свабоднага чалавека.

Дагэтуль, як і Іхтыяндра ў фільме, кінэматограф трымалі прывязаным да ідэалягічнай катвігі. Кінагероі Іхтыяндар і Гуціерэ вырваліся на паверхню й прадэманстравалі сьвету рамантычнае каханьне — і ўжо не на тле доменных печаў, і не ў працэсе перавыкананьня вытворчых плянаў.

Таму на пытаньне: «Які ваш улюбёны фільм?» — многія беларускі, якім цяпер за пяцьдзясят, не задумваючыся адкажуць: «Чалавек-амфібія».

Слова «стыляга» прыдумалі журналісты «Комсомольской правды». Надарылася гэта на пачатку 1950-х, у прыпар барацьбы з касмапалітызмам. **«Не вытыркайся!» — пісалі тады на вагонных вокнах. Гэты заклік стаў нормай паводзінаў савецкіх людзей.**

# Стылягі

Маладыя людзі ў гаматных пінжаках, вузкіх портках (так званых «дудачках») і з устаўбуранай чупрынай першыя адкінулі тую норму — і былі бітыя як на яве, так і на старонках друку. Гаматны пінжак і стаўбурысты кок савецкія ідэолягі кваліфікавалі як антыграмадзкія праявы. Слова «стыляга» было з таго ж шэрагу, што й «дармаед», «распусьнік» ды «здраднік».

*Жилет «какаду»,*
*и стильная обувь,*
*и брючки,*
*и юбочка клином*
*«держи-упаду»*
*у свежеокрашенной*
*сучки.*

Гэта з выкрывальніцкай паэзіі таго часу. Але зьяўленьне стылягаў было заканамернае: па сьмерці Сталіна грамадзкая атмасфэра пацяплела, і адразу зьявіўся брадзільны элемэнт.

Я ўпершыню ўбачыў стылягаў у 1963 годзе, у Піцеры. Яны стаялі ля рэстарану «Садко», і на іх былі вузкія нагавіцы, стракатыя кашулі навыпуск і цёмныя акуляры.



Мая цётка Вольга, якая жыла ў Піцеры й прывяла нас з маці паглядзець на стылягаў, паведаміла, што гэта скрозь дзеці прафэсараў ды іншых уплывовых людзей. Каб пазьбегнуць скандалаў, са стылягамі разьбіраліся не работнікі міліцыі, а адмыслова створаныя камсамольскія дружыны. У 1950-я гады гэта былі брыгадмільцы — брыгады судзеяньня міліцыі, а ў 1960-я — камсамольскія апэратыўныя атрады.

Асабліва лютавалі брыгадмільцы. **Яны мелі шырокія паўнамоцтвы й, затрымаўшы якога стылягу, часьцяком давалі таму кухталя ды распорвалі скальпэлем вузкую калашыну.** Аднаму майму знаёмаму брыгадмільцы разьдзерлі штаны да каленяў. Нагавіцы мелі шырыню 17 сантымэтраў — каб іх надзець, даводзілася намыльваць пятку*. Самым праблемным элемэнтам стыляжнага прыкіду былі чырвоныя шкарпэткі. Купіць іх можна было толькі ў замежнікаў.

На барацьбу з вэстфільскай заразай мабілізавалі ня толькі паэтаў («Таму і глядзім так сувора на хліпкіх стыляг і пралаз» — гэта ўжо наш Пімен Панчанка), але й майстроў ды чаляднікаў выяўленчага мастацтва.

У сярэдзіне 1960-х слова «стыляга» састарэла, і вэстэрнізаваных маладзёнаў спачатку ахрысьцілі піжонамі, а потым — валасацікамі. Гэта былі ня проста стракатa апранутыя маладыя людзі, а стыхійныя нонканфармісты. Дый прыкід у іх быў іншы, і чырвоныя шкарпэткі былі апошнім элемэнтам, які лучыў іх са стылягамі.

---

* *Слухачка С.:* Наш унук, наслухаўшыся вашай перадачы, ужо тры дні сьпіць у штанох, бо зьняць немагчыма! *Рэдакцыя:* Зьвяртайцеся ў ААН. Ці АМАП.

Цяпер шасьцігодкі й слова такога ня ведаюць — фільмаскоп. А іхныя дзяды ды бабулі, пачуўшы яго, міжволі пасьміхнуцца, згадаўшы цёмны пакой, падзёртую прасьціну на сьцяне, пах мокрай вопраткі — глядзелі фільмаскоп, прыйшоўшы з вуліцы, — ды стоены голас маці: «Посадил дед репку. Выросла репка больша-ая-пребольшая...»

## Фільмаскоп

У мяне зь фільмаскопам зьвязаныя яшчэ й перажываньні інтымнага характару.

Фільмаскоп разам з алюмінавай пушачкай, на якой было напісана «Дыяфільм «Рэпка», мне падаравала на дзень нараджэньня (стукнула тады шэсьць) родная цётка. І хаця маці выставіла пачастунак — торт зь дзьвюма пляшкамі ліманаду, — ніхто з запрошаных на дзень нараджэньня за стол ня сеў. Упрасілі дарослых закрыць вокны коўдрамі, павесілі на сьценку прасьціну, уключылі фільмаскоп, і маці, памружыўшыся на экран, прачытала пра дзеда, які пасадзіў у гародзе рэпку.

Фільмаскоп быў чорны, шурпаты навобмацак, з даўгім аб'ектывам і лямпачкай усярэдзіне. У яго ўстаўлялася стужка, і дзятва, разявіўшы раты,



глядзела на дзеда-мічурынца, на паветраны шар зь Нязнайкам у кашы ды на іншых пэрсанажаў. **Маім улюбёным дыяфільмам была дзьвюхплёначная эпапэя пра Васька Трубачова.** Асабліва падабаўся кадар, дзе піянэры білі шворнам па галаве нямецка-фашыстоўскага акупанта. З наступных кадраў выяўлялася, што гэта быў пераапрануты ў эсэсаўскую форму партызан — іхны школьны настаўнік.

Перад паказам дыяфільму заўсёды спрачаліся, каму круціць плёнку. Звычайна, на правах гаспадара, круціў я. А чытаць тытры ніхто не жадаў, і прасілі пачытаць маю маці. Праглядалі толькі дзьве плёнкі. Калі ж мы прасілі крутнуць яшчэ адну, маці казала, што фільмаскоп нагрэўся й можа перагарэць. Ён і сапраўды быў гарачы. **Уключаць фільмаскоп без дарослых** нам **рашуча забаранялася.**

Глядзелі дыяфільмы хлапечай кампаніяй. Дзяўчаткі зьбіраліся асобна. Аднойчы, калі я ўжо вучыўся ў другой клясе, мне перадалі цыдулку, у якой шчыгульным почыркам было напісана: **«Витя приходи смотреть фильмоскоб в 7 часов».** Напісала цыдулку дзяўчынка з суседняга пад'езду, а перадала яе малодшая сястра. Мяне, прызнаюся, апанавала нэрвовая дрыготка. Пайсьці да дзяўчынкі, сядзець зь ёю поруч у цёмным пакоі... А раптам палезе цалавацца?!*

Я тады нікуды не пайшоў, пра што цяпер шкадую, і міжволі ўздыхаю, згадаўшы забытае сёньня слова «фільмаскоп».

---

* *Слухачка Ў.:* А я так чакала цябе, Вінцэсь!
*Рэдакцыя:* Малы быў, дурны...

У кожнага з маіх аднаЛеткаў была ў дзяцінстве мара — «Орлёнок». Так называўся падлеткавы ровар коштам 38 рублёў. Мы яго менавалі велікам.

## Велік

Бацькі купілі мне велік, калі я вучыўся ў пятай клясе. Ганяў на ім цалюткі дзень, аж да ночы. Была фішка: езьдзіць бяз рук, не трымаючыся за руль. Езьдзілі гэтак ня толькі ляснымі сьцежкамі, але й гарадзкімі вуліцамі. **Хадзілі чуткі, што міліцыя за такую язду выдзірае з колаў ніпэлі.** Калі ж і трымаліся за руль, дык не за ручкі, а за нікеляванае біла. Такую моду перахапілі ў спартоўцаў-ровараў. У гоначных ровараў ручкі месьціліся вельмі нізка, таму спартоўцы, каб ня гнуць сьпіну, часьцяком трымаліся за верх руля.

Гойсалі на веліках гуртом. Пры гэтым адны мелі «Орлёнки», а другія — «Школьники». Мы ўвесь час спрачаліся, які ровар лепшы. **«Орлёнки» выраблялі на Шаўляйскай фабрыцы, і на раме быў надпіс па-летувіску: «Ereliukas». Наяўнасьць лацінскіх**



**літараў аўтаматычна выводзіла яго на першае месца.** Дый канструкцыйна «Ereliukas» быў дасканалейшы, і многія дэталі ў ім былі пазычаныя ў дарослага ровара.

**Былі яшчэ й дзявочыя «Орлёнки». Рама ў іх была не папяровчная, а ішла на скос. Езьдзіць на іх хлопцам не выпадала. Праехацца на «бабскім» ровары — зьняславіць сябе на ўвесь двор*.**

Самы круты наварот быў — паставіць на велік ліхтар. Сілкаваўся ён ад «дынама» й даваў вельмі кволае сьвятло. У нашым двары ліхтар быў толькі на адным ровары. Увечары, калі сутоньвалася, мы перакульвалі яго коламі ўгору й круцілі понажы рукамі — спаборнічалі, хто запаліць ярчэйшае сьвятло.

Нашыя вясковыя аднагодкі езьдзілі на бацькавых роварах. Дзіцёнку сем гадоў, а ён ужо гойсаў на дарослым веліку, разганяючы сваіх ды суседзкіх курэй. Да руля бэйбус ледзь дацягваўся. Але мала таго што сам ехаў, дык яшчэ вёз на рулі й багажніку тузін боханаў чорнага хлеба: хлеб бралі ў крамах у неверагодных колькасьцях.

Не адставалі ад малечы й старыя кабеты. **Бабці пад восемдзесят, а яна круціць понажы, сьвецячы голымі лыткамі.**

Праўда, на роварах васьмідзесяцігадовыя жанкі езьдзілі толькі ў Заходняй Беларусі. На ўсходзе старыя кабеты ўважалі за лепшае хадзіць пехатой і заўсёды абураліся, калі нехта з малечы, бзынкнуўшы званком, абганяў іх на веліку.

-------------

* *Слухачка Ў.:* А я езьдзіла на раме!
*Рэдакцыя:* А ён пад рамай. Разьмінуліся…

Тысячы твараў прамільгнулі перад вачыма, мільёны словаў скаланулі вушныя мэмбраны, памяць атачыў імглісты туман, але **тэнарыста-звонкі голас футбольнага камэнтатара Альфрэда Мітрафанава** буду памятаць да скону.

## Чэмпіянат 1963 году

На двары была восень 1963-га. Тае пары футбалісты менскага «Дынама» змагаліся за мэдалі, і ў нашай кватэры зьбіраліся бацькавы сябры, каб паслухаць рэпартаж аб футбольным матчы. **Завадатарам радыёвячорак быў сусед з восьмай кватэры***. У маладосьці ён сам гуляў у футбол, потым, у рангу рэфэры рэспубліканскай катэгорыі, судзіў матчы заводзкіх каманд, потым (пра тое казалі суседзі) прапіў нейкі спартовы рыштунак і быў адхілены ад судзьдзёўства. Аднак захапляцца футболам ня кінуў.

Сусед ведаў процьму розных каляспартовых плётак. З усіх гэных гісторыяў мне запомніліся дзьве: як бразылец Гарынча забіў мячыкам гарылу, якую паставілі ў футбольную браму, і як Эдзік Стральцоў «уставіў» дачцэ польскага вайсковага аташэ, пасьля чаго трапіў у вязьніцу. Я, дзе-

\- - - - - - - - - - - - -

* *Слухач Г.:* Падводзіць цябе памяць, сусед, — я жыў у дзявятай!
*Рэдакцыя:* У восьмай. Непрыгожа выйшла: абяцаў, калі пяты гол заб'юць, скрыню піва — і што?..



сяцігадовы бэйбус, цьмяна ўяўляў, куды й што там устаўлялі, але гісторыя гэтая мяне ўражвала, і я слухаў яе, разявіўшы рота.

Падчас футбольнага рэпартажу сусед звычайна хадзіў з кута ў кут, у момант дынамаўскай атакі на імгненьне спыняўся, гукаў, перакрыкваючы Мітрафанава, каму аддаць пас. **А калі менчукі забівалі гол, падбягаў да прымача й захоплена выдыхаў: «Пр-рыгожа!»**

З тае пары мяне таксама апанаваў футбол. Апанаваў дарэшты, да сьвербу ў пятках. Я стаў весьці футбольны дзёньнік і павесіў каля ложка выцяты з газэты «Физкультурник Белоруссии» партрэт свайго куміра — лідэра дынамаўскай атакі Эдуарда Малафеева. Напісаў таксама ліста ў Менск з просьбаю паведаміць, якім чынам ажыцьцяўляецца набор у групу падрыхтоўкі менскага «Дынама». **І, эканомячы на школьных абедах, набываў за 10 капеек патрыманыя нумары тыднёвіка «Футбол».** Насамрэч ён каштаваў 5 капеек, але набыць яго ў шапіку альбо выпісаць было немагчыма.

У 1963 годзе менскае «Дынама» заваявала бронзавыя мэдалі. Запомнілася гумарыстычная перадача, што прагучала тады на Беларускім радыё. Апавядалася, як бацька карміў маннай кашай двухгадовае дзіцё. «Як, ты ня хочаш глынуць кашы за Ігара Роміна? Гэта ж не абаронца, гэта бэтонны мур! А цяпер лыжку за фэтыш каманды — Леанарда Адамава. Яшчэ лыжачку — за Юру Пагальнікава. Гэта ж не гулец, гэта спружына!»

Гульцоў тых ужо няма, але я згадаў іх, калі надоечы карміў кашай двухгадовага ўнука. У памяці беларускіх заўзятараў яны заўсёды жывыя — героі чэмпіянату 1963 году.

Прыглядацца да дзявочых прычосак я пачаў у першай клясе. Тады ў старшаклясьніц у модзе былі важкія, з руку таўшчынёй косы. Іх перакідвалі праз левае плячо й насілі наперадзе. Такі варыянт называўся **«пакахай мяне, фэзэвушнік»**.

## Прычоскі жаночыя

Самыя адчайныя асьмельваліся насіць прычоскі «конскі хвост». Цяпер гэта звычайная зьява. А на пачатку 1960-х, калі яшчэ ня выпетрыўся дух сталінізму, такая прычоска падлягала грамадзкаму ганьбаваньню. **У часопісе «Вожык» малявалі карыкатуры на дзвотак з «конскімі хвастамі», называючы такія прычоскі «я ў мамы дурніца» альбо «пацалуй мяне з разьбегу».**

Потым пачалося страшнае: школьніцы сталі фарбаваць валасы й рабіць завіўкі. Завіваліся ў хатніх умовах. Тады ніякіх лякаў ды пенак не існавала, таму валасы пры завіўцы змочвалі півам альбо моцна насаладжанай вадой*. Пасьля таго валасы пару гадзін трымалі форму.

Настаўнікі й школьная адміністрацыя нястомна змагаліся з новымі фрызурамі. Я сам чуў, як адна

---

* *Слухачка Ц.:* Ці праўда, што на Захадзе завіўку рабілі на шампанскім?
*Рэдакцыя:* Прапаганда.



настаўніца, пабачыўшы, што вучаніца абрэзала касу, у прысутнасьці хлопцаў заявіла: **«Такія прычоскі носяць прастытуткі».**

У 1966 годзе многія дзяўчаты зрабілі дакладна такую прычоску, як у Натальлі Варлей у фільме «Кавказская пленница», а неўзабаве сталі насіць на галаве вялізныя куксы. Называлася такая фрызура «тульпан». Першай такую прычоску прадэманстравала Элізабэт Тэйлар. Валасы галівудзкай дзівы былі сабраныя на патыліцы й адмыслова скручаныя. Такую фрызуру магла сабе дазволіць толькі кабета з густымі й даўгімі валасамі. Каб надаць валасам аб'ём, у сярэдзіну куксы падкладалі падзёртую капронавую панчоху ці нешта мяккае ды элястычнае.

**А вясковыя дзеўкі выкарыстоўвалі дзеля гэтай мэты конскі волас, і коні тае пары хадзілі з куртатымі хвастамі й парадзелымі грывамі.** Папярэдне конскі волас выпарвалі ды фарбавалі пад колер валасоў.

Хадзіла показка, што ў Віцебску нейкая кабеціна падклала ў фрызуру паўлітровы слоік і праз тое загінула. Ехала нібыта таксоўкай, машыну падкінула на калдобіне, і небарака стукнулася галавой аб столь.

Бліжэй да 1970-х у моду ўвайшлі даўгія распушчаныя валасы. Іх рашуча пазбаўлялі колеру, панурваючы ў перакіс вадароду. Мода на распушчаныя, пэргідролем тручаныя валасы датрывала да нашых дзён, хаця на кароткі час і перарывалася.

У 1971 годзе была модная прычоска гаўрош, а ў 1977-м многія падстрыгліся пад Мірэй Мат'ё. Паж — так называлася гэная арыгінальная жаночая прычоска.

Адзін зь яркіх успамінаў юнацтва — чэмпіянат сьвету па футболе 1966 году ў Англіі. Калі ішлі трансьляцыі матчаў, наша кватэра нагадвала вясковы клюб.

## Футбольны Альбіён 1966 году

Паглядзець футбол прыходзіла процьма народу. Хварэлі за савецкую дружыну. А яшчэ больш — **за менскага форварда, сябра зборнай Эдуарда Малафеева**. Першая гульня была з камандай Паўночнай Карэі. На пятнаццатай хвіліне кумір беларускіх заўзятараў уварваўся ў штрафную пляцоўку карэйцаў, прабіў па браме, але мячык паляцеў ня толькі вышэй папярочкі, але й сігануў праз трыбуны. І ўсё ж першы гол у той гульні забіў Малафееў. Радасьці не было межаў. **«Эдзік! Хто ж яшчэ можа забіваць?!»** — гукаў сусед з восьмай кватэры* на ўвесь пад'езд, і за сьценкай змучана ўздыхала ды варочалася ў ложку мая маці. Ёй балела галава, яна не цярпела галасу. У самым канцы матчу Малафееў забіў яшчэ адзін гол, і сусед пабег абмываць перамогу.

Менскі дынамавец вызначыўся потым у гульні з партугальцамі: дабіў мячык пасьля ўдару Славы Мэтрэвэлі.

* *Слухач Г.:* Зь дзявятай кватэры! А півам пазаўчора папікалі дарма — той гол быў яўны афсайд.
*Рэдакцыя:* Мы верым Мудрову — ён сядзеў зьлева ад тэлевізара.



Тэлетрансьляцыі ішлі зь перашкодамі. **Раз-пораз карцінка зьнікала, і з маскоўскай студыі паведамлялі, што перашкоды ўзьнікаюць па-за межамі краіны.** Тэлесыгнал ішоў праз Заходнюю Нямеччыну, і ўсе былі перакананыя, што гэта немцы не даюць паглядзець футбол. Іх тады інакш як фашыстамі не называлі.

Футбольны лёс склаўся так, што СССР і Заходняя Нямеччына сустрэліся ў паўфінале. Калі абвясьцілі склады каманд і прозьвішчы рэфэры (а судзіў матч італіец Лё Бэля), сусед з восьмай кватэры, які сядзеў поруч са мной на падлозе, аўтарытэтна заявіў: **«Усё, можна не глядзець. Засудзяць».**

Матч для саветаў склаўся няўдала: спачатку атрымаў траўму паўабаронца Ёжэф Саба, а потым **«падкавалі»** (было такое папулярнае слова) і форварда Ігара Чысьленку. У апошняга здалі нэрвы, ён даў немцу пад зад і быў выдалены з поля. Матч савецкая дружына прайграла, і няўдачу сьпісалі на недысцыплінаванасьць Чысьленкі. Гулец гэты неўзабаве павесіў буцы на цьвік і скончыў жыцьцё ў галечы.

Несамавіты быў лёс і некаторых іншых удзельнікаў чэмпіянату. Валеры Воронін, якога ўважалі за найлепшага паўабаронцу Эўропы, загінуў пад коламі машыны, калі перапаўзаў, упіты, праспэкт Андропава ў Маскве, а адзін зь лепшых абаронцаў краіны Ўладзімер Панамароў зьвёў рахункі з жыцьцём, кінуўшыся ў лесьвічны пралёт.

За ўсю гісторыю выступаў на чэмпіянатах сьвету зборная СССР толькі аднойчы заваявала мэдалі. Здарылася гэта (атрымала яна тады бронзу) на палях футбольнага Альбіёну 1966 году.

Хто з нас ня прагнуў у дзяцінстве халоднай слодычы — марозіва? І сёньня, пакаштаваўшы ў летняй кавярні плямбіру з сочывам, здаецца, што за часамі дзяцінства марозіва было смачнейшае.

## Марозіва

У Полацку марозіва было трох гатункаў: малочнае за 9 капеек, зь вяршкоў — за 13, і **эскімо, якое каштавала 11 капеек.** Эскімо нам найбольш смакавала. Прадавалі звычайна нейкі адзін гатунак. Яшчэ да адкрыцьця шапіка, дзе прадавалі марозіва, зьбіраўся гурт дзятвы, і мы гучна маракавалі — якое сёньня прывязуць, а таксама спрачаліся, колькі можна зьесьці за раз. Хаця больш за адну порцыю ніхто з нас ня еў. Лічылася, калі зьясі дзьве, адразу захварэеш на ангіну.

**Дарэчы, падыходзячы да шапіка, дарослыя прасілі даць ім менавіта «порцыю» марозіва. Пры канцы 1960-х слова «порцыя» ўжо ніхто ня згадваў.**

Марозіва прывозілі ў вялікіх зялёных скрынях. Унутры ляжаў сухі лёд, і калі скрыню адкрывалі, зь яе ішла белая пара. Кожная порцыя была загорнутая ў паперу, якую належала аблізаць і павесіць на куст. Вецер потым ганяў паперкі па вуліцах.



І калі гарадзкая дзятва спрачалася, колькі хто порцыяў можа агараць, нашыя раўналеткі зь вёсак і мястэчак, дзе марозіва не прадавалі, хваліліся адно перад адным, колькі разоў за жыцьцё яны каштавалі марозіва. **Калі вясковага мальца бацькі бралі ў горад набыць абновы да новага навучальнага году, ён ужо дарогай пачынаў енчыць: «Мамка, купі-і марожана».** А потым, шчасьлівы, сядзеў з маці на лаве й лізаў эскімо, пэцкаючы кроплямі талай смакаты новыя чаравікі. (Марозіва мы заўсёды лізалі. Бо, паводле бацькоўскай вэрсіі, будзеш хапаць ротам — ізноў-такі захварэеш*.)

Іншым разам, змучаная сьлёзнымі просьбамі маці якога падшыванца, едучы ў горад, прыхоплівала двухлітровы бітон і прывозіла ў ім — ужо дарэшты расталае — марозіва. Яго вылівалі ў талерку, і малы сёрбаў таяніну, папярэдне вылавіўшы лыжкай вафэльныя ашмёткі.

У некаторых райцэнтрах, дзе працавалі малочныя заводы, марозіва прадавалі раз на тыдзень. Прадавалі непасрэдна ля заводзкай прахадной, з адчыненага акенца, і звычайна там выстройвалася вялізная чарга. Рухалася яна паволі, бо **смакоцьце накладалі ў папяровыя альбо вафэльныя кубачкі і ўзважвалі.** Сто грамаў каштавалі 10 капеек. Хапала ня ўсім, і акенца ля прахадной урэшце зачынялася пад здушаныя ўсхліпы дзяцей, якім не давялося пакаштаваць халоднай слодычы — марозіва.

-------------

* *Слухачка Ф.:* Кусаць ці лізаць — вечнае гамлетаўскае пытаньне для мастака і ўлады, літаратуры й холдынгу, кантралёра й зайца...
*Рэдакцыя:* Галоўнае — не падавіцца.

У дзясятай клясе я ўгледзеў у польскім часопісе фатаздымак Джорджа Гарысана ў квяцістай кашулі. З выгляду яна нагадвала касаваротку, і мы — Валер Шлыкаў, Анатоль Рыбікаў ды Вінцэсь Мудроў — вырашылі пашыць такія ж.

## Кашулі фірмовыя

Першы ў атэлье выправіўся Валер Шлыкаў. Касаваротку там шыць адмовіліся — сказалі, няма адпаведных лякалаў, таму пашылі звычайную кашулю з каўняром. Сябрук заявіўся ў ёй на заняткі, і яго выставілі са школы. **Настаўнікі заявілі: «Мы не допустим, чтобы ученики приходили в школу в таких кричащих рубашках!»** Калі ішлі дахаты, Валер, з пранонсам вясковай цёткі, пачаў гукаць: «Сьціхні... Я табе сказала — сьціхні!» Мы ўважліва паглядзелі на сябра, і той растлумачыў, што сунімае сваю «кричащую» кашулю.

Займець такую абнову мне не давялося: маці не дала грошай на пашыў. Сумаваў я нядоўга. Неўзабаве патэлефанаваў Анатоль Рыбікаў і загадаў тэрмінова, прыхапіўшы белую сарочку, бегчы да яго. Калі я прыбег, у яго сядзеў Валер Шлыкаў і круціў палкай у медніцы, што поўніла-



ся цёмнай вадкасьцю. «Анілінавы фарбавальнік дасталі. Завязвай кашулю вузламі ды кідай, пакуль вада не астыла». Кашулі фарбавалі цэлую гадзіну, потым выцягнулі зь медніцы, разьвязалі вузлы. Атрымалася тое, што трэба*. **Расфарбоўка была такая, што, калі мы ўвечары выйшлі на брод, мінакі кідаліся ўбакі.** У такой кашулі я хадзіў больш за год і згубіў недзе ў студэнцкім будатрадзе.

Студэнцкая пара запатрабавала не саматужна фарбаваных сарочак, а польскіх кашуляў у палоску і з плянкай. Кашулі трэба было ўшываць, каб яны былі ўваблiпку да цела. Ушывалі з двух бакоў, крыху бліжэй да сьпіны. Пасьля такой апэрацыі кашуля абцягвала, ды так, што паміж гузікаў утвараліся прарэхі.

**Улетку 1974 году на кароткі час у моду ўвайшла кашуля, як бы пашытая з газэты: набіванка была ў выглядзе газэтных палосаў.** А потым прыйшла пара крымплену. Цела ня дыхала, затое матэрыял быў мяккі й не камечыўся. Адно што мэталёвыя бранзалеты на гадзіньніках давялося замяніць на звычайныя, цыратавыя. Край манжэціны цёрся аб мэтал і хутка зашморгваўся.

На зьмену крымплену прыйшла сапраўдная **«фірма́»** — кашулі з тонкай джынсападобнай тканіны й з мэталёвымі кнопкамі. І шчасьлівец, які меў джынсы, мусіў для камплекту й яшчэ большай паўнаты шчасьця набываць фірмовую кашулю.

-------------

* *Слухачка Ш.:* На вараныя джынсы трэба 150 грамаў хлёркі на 10 літраў вады.
*Рэдакцыя:* А потым пэмзай, пэмзай!

Газваду (так у 1960-я называлі газіроўку) прадавалі з адмысловых вазкоў. Усярэдзіне вазка быў сатуратар, тут жа стаяў балён з вуглякіслым газам, і дзяўчына-прадавачка поўніла шклянкі салодкай шыпучкай.

## Газвада з сыропам

Шклянка вады без сыропу каштавала адну, а з сыропам — тры капейкі. Сыроп звычайна быў двух гатункаў — малінавы й грушавы. Ён быў наліты ў прадаўгаватыя мэнзуркі й меў вельмі прыемны колер. Да таго ж, адрозна ад навачасных сынтэтычных прадуктаў, сыроп быў натуральны й пахнуў сапраўднай малінай і сапраўднымі грушамі. Прадавалі яшчэ газваду з пладова-ягадным экстрактам. Я пару разоў яе пакаштаваў, і яна мне не спадабалася: з сыропам была саладзейшая.

Бацька заўсёды браў мне газіроўку з двайным сыропам. Яна каштавала 6 капеек. Сам жа піў чыстую газваду, сьцьвярджаючы, што яна лепш наталяе смагу.

Працу прадавачкі газвады ўскладнялі восы, якія роем віліся вакол мэнзурак. Адагнаць іх было немагчыма, і ў бедных жанчын былі пакусаныя рукі. Перападала й тым, хто наталяў смагу. Аднаго майго сябра, калі той піў газіроўку з двайным сыропам, аса куснула ў вуха. Аднак восы — яшчэ ня самае страшнае. У жніўні паласавацца



сыропам прылятаалі шэршні. Іхны ўкус дужа балючы, і калі шэршань кусаў чалавека ў галаву, магло скончыцца шпіталізацыяй*.

У сярэдзіне 1960-х у буйных гарадах пачалі ставіць аўтаматы для продажу газаванай вады — чырвоныя мэталёвыя буды. Тады іх часьцяком паказвалі ў савецкіх кінафільмах — яны ўвасаблялі тэхнічны поступ. Вось жа й знакаміты Шурык з «Операции «Ы» паліваў пасьля іспытаў патыліцу газіроўкай з аўтамата.

Каб напоўніць шклянку, трэба было ўкінуць у шчыліну 3 капейкі. Аднак дэфіцыт грошай і агульнай культуры меў вынікам масавае пашкоджаньне аўтаматаў. Спачатку, каб напіцца бяз грошай, па іх білі кулаком. Здаралася, што пасьля хвацкага ўдару шклянка поўнілася. Потым сталі кідаць у шчыліну адмыслова вытачаныя мэталёвыя шайбы з трохкапеечную манэту. Нарэшце дадумаліся выкарыстоўваць адну й тую ж шайбу. Прывязвалі яе да лёскі, кідалі ў шчыліну, а потым выцягвалі назад. Да таго ж з аўтаматаў кралі шклянкі, і каб папіць газіроўкі, даводзілася прыхопліваць з дому свой посуд.

Улетку 1970 году ў Астрахані была ўспышка халеры. Каб пазьбегнуць распаўсюду хваробы, забаранілі рэалізацыю піва, квасу й газіроўкі з шклянак і кухляў. Аўтаматы цэлы год не працавалі, потым наагул зьніклі з вуліц, пакінуўшы па сабе добрую памяць у тых, хто налаўчыўся піць задарма газваду з сыропам.

---

* *Слухач Ю.:* Цікава ведаць:Vespa crabro — шэршань — адносіцца да атраду Hymenoptera — перапончатакрылых, сямейства Vespidae — восаў папяровых.
*Рэдакцыя:* Можа быць.

Ці не найадметнейшая праява палітычнай адлігі — зьяўленьне на экранах французска-італійскага фільму «Фантамас»*.

## Фантамас

Зьняты па матывах бульварных раманаў фільм ашаламіў як падлеткавую, так і дарослую аўдыторыю. У 1967 годзе, пасьля першых паказаў, падлеткі толькі пра Фантамаса й гаманілі, а **ў партфэлі аднаклясьніц падкідвалі цыдулкі: «Цябе ўкрадзе Фантамас»**. Яшчэ была фішка: прайсьціся па школе, разгарнуўшы плечы, махаючы рукамі й здушана, па-фантамасаўску выдыхаючы: «Ха-ха-ха».

Сьпісвалі на зеленатварага злодзея й рознае шкодніцтва. **Абтрасуць яблыні ў садзе, а на плоце напішуць: «Фантамас».** А то яшчэ абрэжуць слухаўку ў тэлефоне-аўтамаце — і выдрапаюць на сьценцы лацінскую літару F. Пужалі жанчын у цёмных пад'ездах, нацягнуўшы на твары зялёныя панчохі.

Асабліва ўсіх уразіў у фільме палёт галоўнага героя на рэактыўным аўтамабілі, а таксама тое,

- - - - - - - - - - - - -

* *Слухачка І.:* А «Чалавек-амфібія» лепшы!!!
*Рэдакцыя:* Чаму вы кнігу не з пачатку чытаеце? Гл. с. 14.



што ролю Фантамаса й журналіста Фандора выконваў адзін і той жа актор. Я чуў палкую дыскусію, якая разгарэлася паміж мужчынамі сярэдняга веку. Яны высьвятлялі: ёсьць на Захадзе такія аўтамабілі ці гэта прыдумка стваральнікаў фільму?

«Фантамас» ратаваў фінансавыя пляны раённых кантор кінапракату. І не было выпадку, каб на паказе фільму былі вольныя месцы.

У 1970-м, праз тры гады пасьля першых паказаў, я глядзеў «Фантамаса» ў вясковым клюбе Гарадоцкага раёну. Народу ў залю набілася — як завязаць. Каму не хапіла месцаў, стаялі ля сьцен, малеча ляжала на сцэне, мала не ўваткнуўшы насы ў экран. Такой заежджанай кінакопіі я дагэтуль ня бачыў. На экране мітусіліся рухавыя пісягі, гук раз-пораз рабіўся невыразны, а стужка рвалася празь дзесяць мэтраў. Пасьля кожнага парыву гледачы сьвісталі, тупалі нагамі, кідалі ў праектарныя адтуліны яблычныя агрызкі, **і кінамэханік з абурэньнем гукаў у адтуліну: «Чаго ўсхадзіліся! Фільм трэцяй катэгорыі!»**

«Фантамас» апанаваў савецкага гледача ня толькі бзікамі ды хохмамі Люі дэ Фюнэса. Людзі, якія жылі ад зарплаты да зарплаты й елі смажаную бульбу з гарачай патэльні, убачылі іншае жыцьцё. Убачылі рымскія й парыскія краявіды, гатэлі, утульныя кавярні, сучасныя машыны й тэлефоны з даўжэзнай антэнай.

І нездарма на пачатку 1970-х фільм зьнялі з пракату, а ў друку зьявіліся артыкулы, аўтары якіх наракалі на тое, што замест высокаідэйных твораў мастацтва гледачу прапануюць **кінападробкі** кшталту «Фантамаса».

Тэлік, нават у Менску, быў вялікай раскошай на пачатку 1960-х. Старыя цёткі, разгаварыўшыся ў чарзе з аднагодкамі, звычайна пыталіся: **«А целевізер у вас ёсьць?»**

## Тэлік

Я яшчэ засьпеў **тэлевізары маркі «КВН» з вадзяной лінзай** перад экранам. Потым зьявіліся так званыя камбайны, у склад якіх уваходзілі, апроч тэліка, прымач з прайгравальнікам. Урэшце ніводзін зь іх нармальна не працаваў.

Самым распаўсюджаным камбайнам быў «Беларусь-5» Менскага радыёзаводу. Масава набываць тэлевізары пачалі толькі ў сярэдзіне 1960-х. Найбольш папулярны быў айчынны «Нёман» коштам 288 рублёў. Таньней каштаваў толькі «Рекорд», але ў яго быў зусім малы экран. Папулярныя былі таксама тэлевізары «Маяк-2» і «Старт-3». А самымі шыкоўнымі тэлікамі лічыліся «Темп-7» ды «Сигнал» коштам 348 рублёў. Яны былі на раскірэчаных ножках, што ўважалася за **апошні крык моды**.

Набыць тэлевізар (скрыню, як тады казалі) многім было не па кішэні, таму куплялі ў растэрміноўку.

Мае бацькі купілі тэлік у 1965 годзе. У нашым пад'езьдзе тэлевізараў на той час было толькі два, і вечарамі, калі трансьлявалі футбол ці хакей, да нас прыходзілі суседзі. Маці потым ужо й шкадавала, што набыла тэлік, бо пазбавілася спакою.



Тэлевізары былі лямпавыя і ўвесь час псаваліся. Тэлемайстры тады раскашавалі. «Та-ак... 6П14П паляцела, — казаў тэлемайстар, выцягнуўшы з тэленутра перагарэлую лямпу, — а іх цяпер і няма-а». Пасьля таго як на стале зьяўлялася пляшка гарэлкі, патрэбная лямпа дзіўным чынам знаходзілася*.

Каб лямпы не перагаралі, набывалі стабілізатары напружаньня. Яны былі цяжкія й злавесна гулі на нізкіх частотах. Потым, пераканаўшыся, што напруга ў сетцы практычна не вагаецца, ад стабілізатараў адмовіліся. **Была яшчэ завядзёнка накрываць тэлевізары адмысловай сурвэткай. Гэта дзеля таго, казалі, каб не выгараў экран.**

Дзесьці на пачатку 1967-га чорна-белыя тэлікі сталі перарабляць на каляровыя, прымацоўваючы да экрана паліхромную рэнтгенаўскую плёнку. Зьверху была блакітная, пасярэдзіне чырвоная, на доле зялёная. Тэледыктары паўставалі перад тэлеаўдыторыяй з блакітнымі валасамі, чырвоным носам і зялёным падбародзьдзем.

**У сярэдзіне 1960-х усе трызьнілі каляровым тэлебачаньнем. А яшчэ казалі, што тэлікі свойчас будуць такія вузкія, што можна павесіць на сьценку.** І глядзець можна будзе ня толькі Менск ды Маскву, але й Парыж зь Нью-Ёркам.

А пакуль той Нью-Ёрк, глядзелі на менскую дыктарку Тамару Бастун, якая апавядала, колькі трактароў сталі на лінейку гатоўнасьці й колькі выпусьцілі звыш пляну чорна-белых тэлікаў.

------------

* *Слухач М.:* Гэта ня факты, а факцікі.
*Рэдакцыя:* Ня факт.

Дафантамасаўскай парой юначая аўдыторыя найбольш любіла фільмы пра шпіёнаў. Асабліва ўражваў там абсталюнак варожых рэзыдэнтураў — бамбукавыя жалюзі на вокнах, нізенькі столік, на які галоўны рэзыдэнт усьпіраў ногі, круцёлка-вэнтылятар пад стольлю.

## Фільмы пра шпіёнаў

Звычайна ў офісах знаходзіліся два рэзыдэнты: стары й малады. Стары сядзеў, раскінуўшыся ў фатэлі, а малады хадзіў з кута ў кут і паліў цыгарэты «Кэмэл» альбо нэрвова жаваў гумку. У офіс абавязкова заходзіла маладзіца ў страшэнна кароткай спадніцы: прыносіла віскі з содавай. Малады казеліў на яе вокам, а стары, заўважыўшы гэта, сіпла прамаўляў што-небудзь накшталт **«Шэф вамі не задаволены»**.

Неўзабаве з прыцемнага й задушнага, атручанага гукамі джазу пакою дзея пераносілася ў разьлеглы кабінэт. «Дазвольце ўвайсьці, таварыш палкоўнік», — пытаўся ад дзьвярэй каржакаваты, падобны да браняванага сэйфа вайсковец, і заля азывалася стрыманым шэптам: «Нашы!» Пры гэтым не было розьніцы, хто сядзеў у кабінэце. І ўсходнія немцы, і паўночныя карэйцы — для нас усе яны былі «нашыя».

Не пасьпявалі заходнія агенты разгарнуць дзейнасьць, як іх ужо здымалі на камэру. Нашы палкоўнікі потым уважліва праглядалі зьняты кінаматэрыял. **Шпіёнскую агентуру часьцяком выяўлялі й абясшкоджвалі простыя савецкія піянэры.** У фільме «Акваланги на дне»



варожы агент спрабаваў у тым самым аквалянгу й зь фінкай за поясам прыхавацца ў нэўтральнай вадзе. Не атрымалася! За ім нырцануў піянэр, дагнаў, зьдзёр з дарослага бугая, выпускніка шпіёнскай школы, аквалянг і надаваў пад вадой кухталёў. І паджылыя цёткі, якія таксама забрыдалі ў кіно, радаваліся разам з намі й захоплена выдыхалі: «А ці будзеш?»

Самай захапляльнай карцінай гэтага жанру была «Операция «Кобра» Сталінабадзкай кінастудыі. Кінадзея адбывалася дзесьці на мяжы з Аўганістанам, і там заходні агент паўстаў у асобе Карлсана (таго самага, што жыў на даху). Ён спрабаваў пераляцець дзяржаўную мяжу з дапамогаю прымацаванага да галавы прапэлера, які круціўся цішэй ад вэнтылятара ў офісе галоўнага рэзыдэнта. **Патрапіць незаўважаным на савецкую тэрыторыю зладзюгу не давялося: ён быў зьбіты чаргой з АКМа.** Нягоднік загарэўся й паляцеў долу, тузаючыся ў паветры.

А тым часам на нашай тэрыторыі завіхаўся пад выглядам школьнага вартаўніка яшчэ адзін агент. Ён нацкоўваў на простых савецкіх людзей кобраў. У апошніх кадрах яго прывялі на допыт і кінулі на стол фатаздымак, дзе гэты нібыта вартаўнік быў у форме эсэсаўскага афіцэра*.

І калі гурма падшыванцаў навыперадкі, ня слухаючы адно аднаго, на ўсю вуліцу апавядала, як нейкі злодзей дастаў пісталет, а наш сабачка схапіў яго за руку, гэта азначала, што ў кінатэатры круцілі фільм пра шпіёнаў.

---

* *Слухач Б.:* Прыкрая недакладнасьць: гэта была не эсэсаўская форма, а гестапа!
*Рэдакцыя:* Не, эсэсаўская.

Масавая матарызацыя насельніцтва пачалася ў сярэдзіне 1960-х. Тады шмат хто завёў мапэды. Былі яны дзьвюх марак: «Riga» й «Верховина». Падшыванцы ўздымалі ўзровень адрэналіну ў крыві, гойсаючы на бацькавых мапэдах па тратуарах ды вясковых праселіцах. Шмат было тады прыдушана свойскіх гусяў ды качак.

## Байкеры 1970-х

**Неўзабаве сталі набываць і матацыклы. На іх езьдзілі на працу, на рыбалку й нават на адпачынак у Крым.** Купіць добры матацыкл маглі далёка ня ўсе, бо каштаваў ён 600—700 рублёў. Таму асаблівым попытам карысталіся аднацыліндравыя, малой магутнасьці й адносна недарагія: «Ковровцы», ІЖ-«Планеты», менскія М-104*, вугорскія «Паноніі». «Паноніі» хутка псаваліся й пасьля году эксплюатацыі ляжалі разабраныя ў дварах.

* *Слухач Ч.:* Бачыў рэкляму, што на матацыкле «Мінск» можна заехаць на Эйфэлеву вежу.
*Рэдакцыя:* Лепш на Пізанскую. Калі даедзеце да Пізы, вядома.



Моладзь захапілася матацыкламі на пачатку 1970-х. Гарадзкія байкеры гойсалі на чэскіх «Явах» ды «Чэзэтах», а ў вёсцы папулярныя былі ІЖ-«Юпитеры». Прэстыжна было мець «Урал-3», на ім можна было езьдзіць па любой дарозе.

Шмат маладзёнаў калечыліся альбо наагул разьбіваліся. А ўсё праз зухаватасьць. **Пад'яжджаючы да клюбу, трэба было жартам наехаць на гурт дзяўчат. А спыніўшыся, крутнуць ручку газу, ды так, каб клюбныя вокны здрыгануліся.** Кранаючыся зь месца, трэба было газануць, каб пярэдняе кола адарвалася ад зямлі. А спыніцца так, каб задняе кола праехалася бокам. Дый езьдзілі часьцяком нападпітку. Матацыклы вырываліся з рук, а то й валіліся ды прыцiскалі няўдалага байкера. І пераломы былі, і галёнкі аб гарачы цыліндар прыпякалі.

У сярэдзіне 1960-х зьявіліся першыя матацыклетныя шлемы — белыя кацялкі са скураным нізам. **Такі шлем быў у Маргунова ў фільме «Кавказская пленница».** Потым зьявіліся шлемы з вушамі, якія ў народзе называлі «гончымі». Іх упрыгожвалі — выцінал з ізастужкі якое-небудзь ангельскае слова й ляпілі на баку. Яшчэ адна фішка — даўгія самаробныя брылі, якія прымацоўвалі да шлема. Іх рабілі ўсё больш даўгімі, аж пакуль не пачаліся аварыі: на вялікай хуткасьці матацыклісту ад ветру задзірала голаў, і ён залятаў у кювэт.

Сёньняшнія хлопцы ў скураным прыкідзе, якія гойсаюць на «хондах» ды «гарлі-дэвідсанах», павінны ведаць, што ў іх былі папярэднікі — байкеры 1970-х.

За часам майго юнацтва, прыкладна раз на год, у вёсках зьяўляўся нетутэйшага выгляду чалавек з пацёхканым партфэлем у руках. Ён хадзіў па хатах і пытаўся: **«Фатаздымкі павялічыць не жадаеце?»**

## Фотагалерэя хатняя

Гэта быў работнік раённага прамкамбінату, які зьбіраў замовы на выраб фотапартрэтаў. Звычайна ён зьвяртаўся з такім пытаньнем да старых бабуляў. Павагаўшыся, якая старая бабця запрашала госьця ў хату й даставала з шуфляды пажоўклыя здымкі: мужоў, што былі высланыя за калектывізацыяй у сібірскую невараць; сыноў, што загінулі на франтах Айчыннай вайны; дачок, што зьехалі ў горад і ленаваліся напісаць маці кароткага ліста. З гэтых несамавітых здымкаў і рабіліся партрэты.

Фотамайстры актыўна выкарыстоўвалі рэтуш і, на просьбу замоўцы, падмалёўвалі замест касаваротак шыкоўныя гальштукі, а зрэбныя жаночыя апранахі аздаблялі белымі валянамі.

Партрэтамі родных і блізкіх упрыгожвалі сьвятліцу — вешалі іх не ўсутыч да сьцяны, а пад невялікім вуглом. Твары на партрэтах былі цёмныя, і выяўна прагляданіся толькі картузы на галовах ды падмаляваныя гальштукі на шыях.

**На ганаровым месцы вісеў партрэт гаспадароў. Зроблены ён быў зь вясельнага здымку, і на ім маладыя тулілі адно да аднаго галовы.** У нашай кватэры таксама вісеў такі партрэт — бацька там выглядаў пятнаццацігадовым малойчыкам, а маці — кабетай-саракоўкай. «Маці з сынам», — любіў казаць бацька. У хатах сяброў мне даводзілася бачыць вясельныя партрэты, на якіх маладая выглядала дзесяцігадовай дзяўчынкай, а жаніх — пяцідзесяцігадовым мужланам*.



На пачатку 1960-х партрэты сталі размалёўваць, выкарыстоўваючы атрутныя блакітную, ружовую й чырвоную фарбы. Расфарбоўвалі, у асноўным, бабуліных дачок. І хаця майстры, фарбуючы бант, часам перапэцквалі валошкавым блакітам палову галавы, бабулі пускалі сьлязіну. **Дачка глядзелася як жывая!**

Бабці любілі вешаць на сьцены й гэткія анталягічныя зборкі — сабраныя да кучы фота родных і блізкіх. Той жа бабульчын сын паўставаў там у некалькіх іпастасях: гадавалым дзіцёнкам, воінам Савецкай Арміі, трактарыстам на асваеньні цаліннай ды абложнай зямлі, высокім шатэнам у драпавым палітоне — з папяросінай у зубах і ў абдымачку зь нізенькай кірпаносай жанчынкай (праўдападобна, першай жонкай).

Там жа былі здымкі вясельля, уквечаныя папяровымі кветкамі труны зь нябожчыкамі, а ў левым верхнім куце, непасрэдна пад рамку, быў усунуты **здымак Юр'я Гагарына**.

Першы касманаўт, як ні дзіўна, гарманічна ўпісваўся ў хатнюю фотагалерэю.

---

* *Слухачка З.:* Такі выпадак быў у адным раёне.
*Рэдакцыя:* Не намякайце.

Із кастрычніка 1970 году сьвет абляцела вестка: у ЗША, па абвінавачаньні ў супрацоўніцтве з тэрарыстычнай арганізацыяй, арыштаваная выкладчыца філязофіі Каліфарнійскага ўнівэрсытэту Анджэла Дэвіс.

**Дэвіс Анджэла**

Анджэле было 26 гадоў. Яна была сябрам камуністычнай партыі й актывісткай мурынскага руху.

У Савецкім Саюзе набіраў моцы дысыдэнцкі рух, некаторых актыўных дысыдэнтаў пасадзілі. На Захадзе пачаліся пратэсты, і савецкім кіраўнікам спатрэбілася стрэчная кампанія пад слоганам «А ў іх мурынаў б'юць!». Арышт выкладчыцы філязофіі прыдаўся дарэчы. Фактура была ідэальная: у вязьніцу кінулі камуністку, мурынку, палымяную барацьбітку супраць расавай сэгрэгацыі — нарэшце, проста прыгажуню, з кучмой кучарава-дрымучых валасоў*.

**Анджэлу Дэвіс пасадзілі па «мокрай» справе, і суд павінен быў вызначыць, ці вінаватая яна ў злачынстве.** Савецкая прапаганда адразу ж абвясьціла Анджэлу ахвярай паліцэйскага рэжыму, і па Беларусі пракацілася хваля мітынгаў пратэсту.

Прайшоў такі мітынг і ў нашай школе. Пэўнага дня нас сшыхтавалі на школьным калідоры, і арганізатар пазакляснай працы (з-за доўгай шыі ён атрымаў мянушку Гусак) стаў зычна апавядаць пра злачынствы вашынгтонскай адміністрацыі.

У выкрывальніцкім запале Гусак называў ахвяру расавай сэгрэгацыі ня Дэвіс, а Дэвас. Мяне з той прычыны разьбіраў нястрымны сьмех. Ды яшчэ сябар, які стаяў за сьпінай, тыцкаў пальцамі пад драбы. **Калі прамоўца, прыўзьняўшыся на дыбачкі, выгукнуў: «Свабоду Анджэле Дэвас!» — я, ратуючыся ад козыту, зарагатаў, і мяне выгналі зь мітынгу.** Некалькі аднаклясьнікаў сышлі за кампанію. Сьледам, падумаўшы, што мітынг скончыўся, пайшлі й астатнія, але іх спыніў Гусакоў вокліч: «Стойце, куды вы?!»

Пасьля акцыі салідарнасьці мяне выклікаў дырэктар школы й спытаўся: **«Ты што, сапраўды падтрымліваеш амэрыканскіх цемрашалаў і таму сарваў важнае палітычнае мерапрыемства?»** Мяне і ў дырэктарскім кабінэце разьбіраў сьмех. А тым часам у савецкай краіне ў турмах і лягерах сядзелі сотні такіх анджэлаў, і іхны лёс нікога не цікавіў.

Палымяную змагарку выпусьцілі зь вязьніцы ў лютым 1972 году пад заклад. А яшчэ праз тры месяцы апраўдалі. На яе адразу ж забыліся, і толькі калі якая кабета рабіла завіўку ў дробныя кудзеркі й валасы стаўбурыліся на галаве, сяброўкі — хто з зайздрасьцю, а хто з іроніяй — прамаўлялі: «Ну, ты сёньня як Анджэла Дэвіс».

- - - - - - - - - - - - -

* *Слухачка Ц.:* Што азначае «кучарава-дрымучая кучма»?
*Рэдакцыя:* Тое, што й глокая куздра.

Першае, што прыходзіць да галавы, калі чую слова «палітбюро», — не вярхоўны камуністычны орган, які кіраваў СССР і мог распачаць ці закончыць вайну, насьмяшыць ці нагнаць страху на ўвесь сьвет, а нехлямяжы чырвоны стэнд з фатаздымкамі.

## Палітбюро

Пры канцы 1970-х стэнды такія павесілі на кожным прадпрыемстве і ў кожнай установе. Як і асобы на стэндах «Іх шукае міліцыя», людзі з партрэтаў ніколі не ўсьміхаліся й глядзелі гэтак, што, здавалася, як ні зірні, яны за табой сочаць.

Здымкі членаў і кандыдатаў у члены палітбюро наводзілі на думку пра Дарыяна Грэя: амаль усім пэрсанажам было пад семдзесят, а то й пад восемдзесят, але дзякуючы прафэсійнай рэтушы выглядалі яны гадоў на сорак маладзейшымі. Стваралася ўражаньне, што яны неўміручыя, як вечна жывое ленінскае вучэньне, і таму сьмерць васьмідзесяцігадовага палітбюроўца Міхаіла Андрэевіча Суслава, якая надарылася ўзімку 1982 году, сталася для савецкіх працоўных праўдзівым шокам.

Неўзабаве калегі Міхаіла Андрэевіча пачалі паміраць адзін за адным, зьяўляліся новыя, і гэта дало працы сакратарам нізавых парткамаў: стэнды трэба было пастаянна абнаўляць.



Малявалі ў гонар членаў палітбюро й буйнагабарытныя партрэты. У 1972 годзе мы зь сябрам Анатолем Рыбікавым, спазьніўшыся на пару дзён, прыехалі ў будатрад у Лепель. Жылі будатрадаўцы ў школе, і мы, пакуль усе былі на працы, залезьлі ў школьны падвал ды выцягнулі адтуль вялікія, на палатне маляваныя партрэты членаў палітбюро — прычым як дзейных, так і тых, каго адтуль выгналі: розных там палянскіх, шалепіных ды шэлестаў.

Пашкадаваўшы, што галоўныя партыйныя кадры валяюцца ў падвале, разьвесілі іх — каля дваццаці штук — на надворнай школьнай прыбіральні ды выправіліся знаёміцца зь Лепелем*.

Пабачыўшы на сарціры павешаны дагары нагамі партрэт Леаніда Ільліча Брэжнева, камандзір будатраду спалатнеў, але рэпрэсіяў не ўчыняў. Уздымаць шум было не ў ягоных інтарэсах, таму абмежаваўся выхаваўчай гутаркай. Адвёў нас убок і доўга тлумачыў, чым могуць скончыцца жарты свабодных людзей у несвабоднай краіне. Мы, вядома, апраўдваліся, казалі, што пажартавалі, урэшце рушылі ў краму па «чарніла», каб канчаткова ўлагодзіць з камандзірам гэтую справу.

Наступным днём партрэты, разам зь іншым падвальным хломаздам, некуды зьвезьлі. Спалілі, відаць. Ня ведаю, ці патрэбная была для такога аўтадафэ санкцыя партыйных органаў — бо паліць давялося ня леташнюю лістоту, а партрэты членаў палітбюро!

-------------

* *Слухач Н.:* Жыве Мірон!
*Рэдакцыя:* Сапраўды жыве!

У маленстве я страшэнна любіў слухаць радыёкропку. Прычым слухаў усё без разбору. Асабліва імпанавала перадача, у якой надыктоўваліся тэксты перадавіц для раённых газэт.

## Секунцы з Цэнтральнага камітэту

Ад трэцяй да чацьвертай гадзіны на рэспубліканскім радыё быў перапынак, гэтым часам з радыёкропкі й гучала: «Савецкі народ пад мудрым кіраўніцтвам Камуністычнай партыі дасягнуў вялікіх посьпехаў у асваеньні касьмічнай прасторы (кропка-а)».

Дыктарка чытала паволі, зь вялікімі паўзамі, і мяне апаноўвала сонная замарач. Салодкі голас аддаляўся, глухнуў, і я засынаў, кульнуўшыся ўпоперак ложка.

Работнікам жа раённых газэт было не да сна. Яны ад рукі перапісвалі тэкст і назаўтра давалі яго на першай паласе. Калі ў Маскве ладзіліся партыйныя зьезды, тэксты інфармацыйных паведамленьняў даводзілася перапісваць з тэлефона, ноччу, і ў рэдакцыях арганізоўвалі чуваньні. Наваполацкі журналіст Юрась Касьцюк распавядаў, што дзеля гэтай мэты ў ягоным кабінэце стаяў скручаны сяньнік. На ім спалі падчас такіх дзяжурстваў, прымасьціўшы каля вуха тэлефон.

Партыйныя зьезды, якія былі скрозь гістарычныя, дадавалі раённым журналістам працы. Найперш трэба было сабраць водгукі на гістарычную падзею. Пісалі іх, ад імя паважаных людзей, сярод якіх абавязкова мусіў быць Герой сацыялістычнай працы, самі журналісты.



У кожнай газэце зьмяшчалі здымак, на якім перадавая комплексная брыгада знаёмілася з матэрыяламі партыйнага форуму. На здымку брыгадзір трымаў разгорнутую газэту «Правда», а яму на сьпіну лезьлі, выцягнуўшы шыі, сябры брыгады. Усім не цярпелася азнаёміцца з рашэньнямі зьезду. Калі добра прыгледзецца, можна было ўбачыць, што сёй-той з рабацягаў падступна пасьміхаўся. Былі выпадкі, што праз недагляд друкавалі здымкі, на якіх газэту трымалі дагары нагамі.

Рэдактары мусілі сачыць, каб у нумары з інфармацыйным паведамленьнем суседзілі палітычна вытрыманыя матэрыялы.

Аднойчы наваполацкая газэта «Химик» побач з паведамленьнем пра абраньне новага складу Цэнтральнага камітэту надрукавала аповед згаданага ўжо Юрася Касьцюка «Секунцы». У гаркаме палічылі гэта палітычнай правакацыяй і выклікалі, як тады казалі, «на ковер» рэдактара й аўтара твору. Аўтар доўга тлумачыў, што секунцы — гэта ня члены ЦК, а катлеты, якія еў герой апавяданьня.

Цяпер рэдактар на пэнсіі, але й дагэтуль хмурыць бровы, калі яму нагадваюць гісторыю пра секунцоў з Цэнтральнага камітэту*.

---

* 很抱歉 : Се Кун Цы — дзеяч эпохі Цынь, пакараны за падслухоўваньне імпэратара дваццацю рэзаньнямі: яму адсеклі левыя й правыя бровы, грудзі, кісьці, локці, плечы, стопы, калені, ягадзіцы, яйцы й вушы.
*Рэдакцыя:* Мама дарагая!

Упершыню слова «хунвэйбін» прагучала сорак гадоў таму. Дзіўнае слова, трывожнае. Усё адно як вогненны цмок прыляцеў — такі ж, як на кітайскім тэрмасе. І даволі рызыкоўнае слова. Нездарма дыктарам радыё й тэлебачаньня загадалі ўцямна прамаўляць першы склад.

## Хунвэйбіны

«Хунвэйбін» азначае **«чырвоны ахоўнік»**. Так назвалі сябе вучні адной з пэкінскіх школаў, што ў траўні 1966-га выдалі маніфэст, у якім пакляліся да апошняй кроплі крыві служыць рэвалюцыі й асабіста вялікаму правадыру Мао Дзэдуну. У Кітаі пачалася **«вялікая пралетарская культурная рэвалюцыя»**. Яна ставіла за мэту палітычную санацыю грамадзтва праз ачышчэньне ад буржуазных рэвізіяністаў. Ударнай сілай гэтай палітычнай кампаніі сталі зграі вучнёўскай і студэнцкай моладзі — хунвэйбіны.

У 1966 годзе я вучыўся ў пятай клясе і ўважліва сачыў за падзеямі ў краіне вогненнага цмока. Газэты рэгулярна зьмяшчалі артыкулы пад рубрыкай **«Падзеі ў Кітаі»**. Зьяўляліся й цьмяныя фатаздымкі, на якіх юнакі ў зрэбных, паўвайсковага крою куртках трымалі над галовамі цытатнікі Мао альбо давалі кухталёў сівагаловым унівэрсытэцкім выкладчыкам. Культурная рэвалюцыя спарадзіла процьму показак, прымаўку **«Ў цябе розуму — як у вагона хунвэйбінаў»** ды гарэзьлівую прыпеўку:



*Полюбила хунвэйбина*
*и повесила портрет,*
*а наутро просыпаюсь...*
(Далей па тэксьце*.)

Адгукнуўся на падзеі культурнай рэвалюцыі й кумір прасунутай моладзі Ўладзімер Высоцкі. «Не ходите, дети, в школу, приходите бить крамолу», — сьпяваў ён.

А ў беларускай вёсцы хунвэйбінамі кароткі час называлі малалетніх зладзюганаў, што трэсьлі чужыя сады, а таксама нехлямяжа апраненых маладзёнаў. **У адной вёсцы на Гарадоччыне Хунвэйбінам назвалі дваровага сабаку.** Мянушку заслужыў за тое, што шчанюком учапіўся зубамі ў нагавіцы калгаснага старшыні.

Хунвэйбіны ладзілі суды над рэвізіяністамі амаль год, балазе ад заняткаў у школе яны былі вызваленыя. Пры гэтым шмат каго зьнявечылі, а некаторых і выправілі на той сьвет. 7 сакавіка 1967 году выйшаў загад, паводле якога ў кітайскіх школах мелі пачацца заняткі.

Аднак, адчуўшы вольніцу, «чырвоныя ахоўнікі» працягвалі змаганьне з рэвізіянізмам, і ўрэшце самыя актыўныя й няўрымсьлівыя былі высланыя з гарадоў на перавыхаваньне. І ўжо ім давялося перавыхоўвацца на рысавых чэках, атрымліваючы, у духу вучэньня вялікага правадыра, бамбукавай палкай па сьпіне пад пагрозьлівы вокліч: **«Варушыся, хунвэйбін!»**

---

* *Слухач Я.:* Што, спадар Мудроў, зноў цэнзура перашкаджае?
*Рэдакцыя:* Не, словы забыў.

Апагей цалiннай лiхаманкi прыпаў на сярэдзiну 1950-х. Тады дзясяткi тысяч беларусаў выправiлiся, на пакліч партыі ды камсамолу, разворваць казахстанскі ды алтайскі стэп. Выпраўляліся па аргнаборы, цэлымі радзінамі.

## Цаліна

Яшчэ й на мае малечыя вочы патрапілі маладыя энтузіясткі ў шараварах і з фанэрнымі валізамі ў руках. **«На цаліну!» — гукалі дзяўчаты, і вецер далёкіх вандраваньняў матляў кудзеркі моднага тады пэрманэнту.**

Пра **цалінных энтузіястаў** не стамляліся пісаць газэты, пра іх дзень да ночы бубнелі талеркі радыёкропак. Тое, што выдавала ідэалягічна рэглямэнтаваная журналістыка, надта розьнілася ад таго, што было наяве. Людзей прывозілі ў непадрыхтаваныя для жытла мясьціны. Таму праз два-тры месяцы энтузіясткі вярталіся дадому — хворыя, вашывыя, а некаторыя й цяжарныя. Адзін мой знаёмца распавядаў, што нарадзіўся на невялічкай станцыі пад Акмолінскам. Маці вярталася, цяжарная, з цаліны, і была падчас родаў зьнятая зь цягніка.

**Многіх цаліньнікаў на зваротнай дарозе рабавалі. Майго крэўнага, калі ён вяртаўся з цаліны, абрабавалі ўжо ў родным мястэчку.** Ён паўстаў на парозе хаты ў адных кальсонах, і быў празваны з тае



нагоды Джавахарлалам Нэру: індыйскі кіраўнік прыяжджаў у Маскву ў белых споднiках*.

Цікава было слухаць аповеды тых, хто пабываў на цаліне. Самае страшнае, як вынікала з аповедаў, былі не маразы ды бураны й не адсутнасьць дарог, а тамтэйшая вада. «Цёплая, саланаватая, — апавядаў знаёмы журналіст, — вып'еш, і, як сьпяваў Антонаў, «Несёт меня... течение».

Лекавацца таксама не было магчымасьці. Нават асьпірын быў дэфіцытам. Папулярную песьню «Вьётся дорога длинная, здравствуй, земля целинная» цаліньнікі сьпявалі на новы лад: «Здравствуй, жена тифозная, тёща туберкулёзная».

Распавядалі вусьцішныя гісторыі пра тое, як падчас бурану гінулі цэлыя партыі перасяленцаў, як правальваліся пад лёд трактары, як людзі, зьбіўшыся з дарогі, блукалі безь пітва й ежы бяскрайнім стэпам. Савецкія мастакі й літаратары шмат папрацавалі, услаўляючы чарговае «гераічнае зьдзяйсьненьне камуністычнай партыі й савецкага народу». Рэалістычных рэчаў кшталту «Сьмерці перасяленца» мастака-перасоўніка Сяргея Іванова ніхто зь іх тады не пісаў.

На асваеньне цалiннай зямлi выехала больш як дзьвесьце тысяч беларусаў. Многія вярнуліся, але шмат хто абжыўся на новым месцы.

Казахстанскі стэп урэшце разаралі, а родныя палеткі, скажам, на Гарадоччыне ды Расоншчыне, скрозь парасьлі хмызьняком. І сёньня ўжо няма каму разворваць беларускую цаліну.

---

* *Слухач Ю.:* Цікава ведаць: Джавахарлал Нэру — першы прэм'ер-міністар Індыі, у народзе быў вядомы як *Panditji* — навукалюбны.
*Рэдакцыя:* А крэўнаму таксама добрая навука была!

**1968** год асабліва яскрава адбіўся ў памяці. Магчыма таму, што гэта быў год Праскай вясны. Там, у Празе, пасьля доўгай зімы людзі расчынілі вокны й дыхнулі халаднаватага, працятага пахам талай зямлі й маладой травы паветра. Яны дыхнулі паветра свабоды.

## Праская вясна

Дыхалі, праўда, нядоўга: на сыходзе лета ў іхныя вокны зірнулі **жаролы танкавых гарматаў**.

Дагэтуль гучыць увушшу патасны голас дыктара з сымптаматычным прозьвішчам Хмара. Гэта той Хмара, які ў сакавіку 1953-га камэнтаваў па радыё паховіны Сталіна, а празь пятнаццаць гадоў камэнтаваў на тым жа радыё паховіны чэскай дэмакратыі. **«Для спасения социалистических завоеваний пять союзных государств были вынуждены временно ввести в Чехословакию свои войска».** Потым, калі савецкія жаўнеры вярнуліся на радзіму, яны ўголас казалі, што тае начы на паўгадзіны апярэдзілі амэрыканцаў — тыя зьбіраліся акупаваць братнюю Чэхаславаччыну. Такую інфармацыю ім давялі нампаліты.

Без залішняй сьціпласьці скажу, што і ў нашай затурканай, палітычна прыдушанай Беларусі былі людзі, якія спачувалі памкненьню чэхаў да свабоды й дэмакратыі. Тымі жнівеньскімі днямі мне карцела апынуцца на Вацлаўскай плошчы й стаць поруч з праскімі студэнтамі, а начамі я слухаў **«варожыя галасы»** й нават спрабаваў занатаваць знакаміты зварот «Дзьве тысячы словаў», які перадавала «Радыё Канада»*.



І ўсё ж савецкая прапаганда далася ў знакі, і чэхаў узьненавідзела нават мая родная маці. **Аднойчы, калі па тэлевізіі паказалі Прагу й ахопленыя полымем савецкі танк, бацька сувора выдыхнуў: «Што робяць, сволачы! І ўсё твае валасацікі!»** Я ў даўгу не застаўся. «Нас у Прагу ніхто не запрашаў», — прамовіў, не адрываючы вачэй ад экрана. Бацька на той час ужо звыкся з маёй антысаветчынай, таму толькі асуджана ўздыхнуў. А маці, якая ў душы не любіла камуністаў і палітыкай ніколі не цікавілася, абурылася — прычым ледзь не да сьлёз. «Ты ведаеш, колькі там у вайну нашых людзей загінула?!»

І без таго бедныя крамы ўлетку 1968-га канчаткова спустошылі. Чэргі паўсталі пасьля таго, як на вайсковыя зборы пачалі браць кіроўцаў. **Людзі хапалі мыла, запалкі, папяросы.** Аднойчы закацілася пад канапу асадка. Палез яе даставаць і натыкнуўся на груд гаспадарчага мыла. На мае зьедлівыя камэнтары маці сказала як адрэзала: «Ты яшчэ вайны ня бачыў». Бацька ж кінуўся ствараць стратэгічныя запасы папяросаў, але спазьніўся: іх ужо разабралі. Давялося купляць махорку.

Бацька паліў махорку цэлы год — дзеля гэтага выходзіў на лесьвічную пляцоўку. А потым ёю труцілі тлю на лецішчы. І сёньня, калі раптам нос кранае паўзабыты пах махорачнага дыму, мне згадваецца Праская вясна 1968 году.

---

* *Слухач Р.:* А ці не савецкая школа навучыла стэнаграфіі містэра Мудрова?
*Рэдакцыя:* Каб навучыла, дык напэўна пасадзілі б.

На тэлетайпных стужках інфармагенцыяў у сакавіку 1969 году замільгацела назва востраву Дамансі*. Там, на лапіку зямлі, **пасярод скутай лёдам ракі Ўсуры**, надарыўся ўзброены канфлікт паміж савецкімі й кітайскімі войскамі.

## Даманскі

Час быў трывожны — кажу без іроніі. Нават старыя цёткі, што сядзелі на лаўках пры нашым пад'езьдзе, гаманілі пра Даманскі й пра тое, колькі «маладых салдацікаў там пабілі». А васьмідзесяцігадовая бабця, што жыла пад намі, кожнага разу паўтарала: **«Пойдзе Кітай — усё кідай!»**

Жарсьцяў паддавала й тэлебачаньне: паказвалі хунвэйбінаў з цытатнікамі Мао ды сьпісаныя герогліфамі савецкія вадаплавы, якія кагадзе наведалі кітайскія порты.

Адгукаючыся на трывожныя выклікі часу, у школе арганізавалі заняткі па праграме пачатковай ваеннай падрыхтоўкі. Праводзіў іх лейтэнант памежнай службы. Ён атрымаў мянушку **Лясьнік** за тое, што хадзіў у форме. На першым уроку вывучалі адгазьнік. Лясьнік адразу перасьцярог нас ад ракавой памылкі: **«Некаторыя недарэкі забываюцца выцягнуць гумовую пробку й праз тое падчас газавай атакі могуць загінуць».** Намаляваўшы на дошцы схему адгазьніка, сьпісаны з войска лейтэнант нацягнуў шлем-маску, застыў нерухома, потым тузануўся, маска пачала спарадычна разьдзімацца, і Лясьнік зьдзёр яе з барвовага твару. Мы азваліся дружным сьмехам: недарэка забыўся выцягнуць гумовую пробку.

Наступныя заняткі праводзілі на школьным стадыёне. «А цяпер — разгрупоўваемся й бяжым у бок агароджы», — загадаў Лясьнік. Мы пабеглі, пераскочылі цераз агароджу й павольнай хадою рушылі купляць марозіва. Вярнуліся хвілін праз дзесяць. Лесьніка на стадыёне не было. «Пабег да дырэктара», — падумалі, але памыліліся. Да гонару Лесьніка, ён да дырэктара не пабег, адно запісаў у журнале паводзінаў загадкавую фразу: **«Мыч., рев. как жив.»**. Цалкам гэтая па-вайсковаму ляпідарная фраза мусіла гучаць так: «Мычали, ревели как животные».

У траўні пачалі вяртацца на дэмбель навапалачане, якія служылі на Далёкім Усходзе. Адзін зь іх, брат майго сябра, распавядаў, што кітайцаў разьмяжджулілі «градамі» й што ён зьбіраў пасьля бою спражкі з кітайскіх рамянёў — такім чынам падлічвалі страты варожага боку.

Праз чвэрць стагодзьдзя, у выніку ўдакладненьня мяжы, частка спрэчных тэрыторыяў адышла да Кітаю. Закаціўся на кітайскі бок і колішні яблык разладу — востраў Даманскі.

---

* 很抱歉: Ад дынастыі Цынь гэтая спрадвечна кітайская зямля называлася Чжэньбао — востраў скарбаў. Просім надалей не ўжываць няправільнай назвы.
*Рэдакцыя:* Што ж вы адразу не сказалі, што ад Цынь! Больш ня будзем.

Традыцыя выступаць з трыбуны (па-беларуску — з моўніцы) узьнікла ў старажытным Рыме. Глупствы можна казаць і з касьцельнай катэдры, і з кірмашовай бочкі. Але калі яны прамаўляюцца з упрыгожанай дзяржаўным гербам трыбуны, з глупстваў не сьмяюцца, а перарываюць іх **бурнымі воплесками**.

## Трыбуна

За хрушчоўскім часам любая грамадзка-палітычная імпрэза, нават на вёсцы, пачыналася з усталяваньня трыбуны. Яе зьбівалі з фанэры й абцягвалі чырвонай матэрыяй. Гэта была прадаўгаватая скрыня са скосам і нешырокай палічкай нагары. На палічку ставілі графін альбо, у крайнім выпадку, шклянку з вадой.

У вялікіх залях моўніцы былі проста неверагодных памераў. Выраблялі іх з каштоўных пародаў дрэваў, у тым ліку з моранага дубу.

Сур'ёзнай праблемай было тое, што **калі выступаў нізкарослы прамоўца, з моўніцы вытыркалася толькі галава**. Вядома, можна было штосьці падставіць пад ногі, але тады б рослы аратар вытыркаўся да пояса.

**На трыбуне апроч графіна й мікрафона была яшчэ настольная лямпа. Прамоўца ня проста стаяў пры трыбуне, а заходзіў у нутро — і з бакоў было відаць толькі яго пагрудзьдзе.** Гэта было вельмі



зручна. Скажам, можна неўпрыкмет, незаўважна для ўсіх, пачухаць пахвіньне. Калі сьверб не мінаў, можна было ўвогуле запусьціць руку ў трусы й пачухаць як мае быць. І пры гэтым выгукнуць здравіцу ў гонар камуністычнай партыі*.

За Брэжневым моўніцы сталі больш сьціплыя. Скажам, у славутай авальнай залі менскага Дому ўраду замест неабдымнай гаргары паставілі куды меншую. Потым і тую замянілі, паменшыўшы габарыты. Аднак і ў яе можна было схавацца з галавой.

Малагабарытныя трыбуны — фарбаваныя чырвоным скрынкі — былі ва ўсіх, нават самых дробных установах. Падчас сходу іх ставілі на сталы. Заўважым, што дзесьці ад сярэдзіны 1960-х на трыбуну ўжо не выстаўлялі графіна. Замянілі бутэлькай ліманаду. Праўда, калі хто з прамоўцаў падчас выступу прыкладаўся да шклянкі, гэта выклікала шум у залі. **І хтосьці з задніх радоў прытоена выдыхаў: «Смажыць!»**

На Захадзе без трыбун таксама не абыходзіліся. Але былі яны шкадобы вартыя. Паліраваная труба, а наверсе пляскатая скрынка. Ні дзяржаўнай значнасьці, ні патрэбнага аб'ёму, і пахвіньня не пачэшаш... — прамоўца ўвесь навідавоку.

І, што самае дзіўнае, гэтая заходняя пачвара прыжылася і ў нас. Пабачыш яе на БТ, і сэрца сьціскаецца ад крыўды. Вось да якой недарэчнасьці зьвялася дзяржаўная трыбуна!

-------------

* *Слухачка П.:* Ад каросты дапамагае бэнзылбэнзоата эмульсія 20%.
*Рэдакцыя:* І чыстыя рукі. Гл. с. 173 і с. 176.

Бясспрэчным фаварытам тэлеэкрану было фігурнае катаньне. **Па тэлевізіі паказвалі ня толькі фінальныя часткі спаборніцтваў, але й папярэднія выступы, і нават разьмінкі спартоўцаў.**

## Белавусава й Пратапопаў

І цяпер гучыць увушшу занудлівы голас камэнтатара Віктара Кананыхіна ды прозьвішчы фігурыстаў: Габі Зайфэрт, Гана Машкава, Пэгі Флэмінг, Ондрэй Нэпэла, Патрык Пэра.

Як высьветлілася пазьней, фігурнае катаньне любіла жонка Леаніда Ільліча Брэжнева Вікторыя. Таму на тэлевізіі й панавала фігурыстыка з усімі яе падтрымкамі, двайнымі тулупамі ды скачкамі на два з паловаю абароты.

Народнымі ўлюбёнцамі была сямейная пара — Людміла Белавусава й Алег Пратапопаў, шматразовыя чэмпіёны сьвету. Спадарыня Белавусава — зграбная бляндынка з прычоскай тульпан была сэкс-сымбалем эпохі. **«Файф-найн, файф-найн, файф-эйт, файф-найн...»** — гучала ў лядовых палацах пасьля выступу згаданай пары, і Віктар Кананыхін зь лёгкай крыўдай у голасе тлумачыў: «Пяць і восем дзясятых бала савецкім фігурыстам паставіў судзьдзя зь Вялікабрытаніі». **І тэлегледачы, прыліпнуўшы да чорна-белых «Нёманаў» ды «Рэкордаў», выдыхалі словы абурэньня на адрас туманнага альбіёнца.** Зрэшты, абурэньне тут



жа й сьціхала, бо Белавусавай і Пратапопаву судзьдзі дадавалі **бал за артыстызм**, і яны чарговы раз станавіліся чэмпіёнамі.

Гэты дадатковы бал прыдаўся потым у жыцьці. Калі які апівуда глытаў гарэлку, не варухнуўшы кадыком, субяседнікі дружна гарлалі: «Ну, табе бал за артыстызм!»

Белавусава з Пратапопавым стала перамагалі, але ў 1969 годзе, на чэмпіянаце Эўропы, іх абышла пара Радніна — Уланаў.

**А неўзабаве надарылася страшная прыгода: куміры савецкіх заўзятараў засталіся на Захадзе.** Газэты апэратыўна адгукнуліся на такую падзею. Пісалі, што Белавусава з Пратапопавым, маючы шыкоўную кватэру ў Ленінградзе, не плацілі за жытло, паводзілі сябе фанабэрыста й з маладых гадоў былі прагныя да нажывы. Мая цётка, што жыла ў Ленінградзе, казала, што пасьля таго выпадку мужа з жонкаю разам за мяжу не пускалі, толькі паасобку.

Кумірам і сьцяганосцам савецкага спорту стала фігурыстка Ірына Радніна, якая памяняла партнэра. **Яе любілі паказваць па тэлевізіі дарэшты зарумзаную падчас уручэньня чарговага залатога мэдаля*.**

Калі абрынулася жалезная заслона, Ірына, адставіўшы ўбок сьцяг савецкага спорту, таксама падалася на Захад, паўтарыўшы, ужо ў іншых гістарычных умовах, подзьвіг Белавусавай і Пратапопава.

---

* *Слухачка Е.:* І я плакала!
*Рэдакцыя:* Ня плач, дзяўчонка, прайдуць дажджы! Жарт.

Паміж запускам першага спадарожніка й палётам Гагарына вельмі папулярныя былі загарадныя маёўкі. Афіцыйна яны называліся сьвятамі працы й адпачынку й ладзіліся ня толькі ў траўні, але і ўлетку, і ўвосень.

# Маёўка

Гэта быў пікнік савецкага ўзору, і на яго прыхоплівалі не чырвонае віно з сырам ракфор, а гарэлку, вараныя яйкі й кансэрвы «Часьцік у таматным соўсе». Дый ехалі на пікнік ня свойскай кампаніяй, а працоўным калектывам, а то і ўсім горадам. Пачыналася маёўка імправізаваным мітынгам, падчас якога перадавікам вытворчасьці ўручалі ганаровыя граматы.

Мне было сем гадоў, калі я ўпершыню патрапіў на маёўку. Ехалі на яе ў адкрытай, упрыгожанай бярозавымі галінкамі машыне. Мітынговыя прамовы казалі таксама з машыны, адкінуўшы барты. Нейкі дзядзька ў капелюшы чытаў з паперкі пра палёт трэцяга штучнага спадарожніка Зямлі й пра посьпехі ў выкананьні плянаў сямігодкі. Потым гралі гімн, і ў бубнача пасьля кожнага ўдару булавешкай падскоквала кепурка.

Пасьля мітынгу быў канцэрт: тры цётухны ў чырвоных сарафанах сьпявалі пад акампанэмэнт баяна. Неўзабаве аркестар зайграў «Кракавяк», і некалькі параў пусьціліся ў скокі. Танчылі на паляне, уздымаючы пылюку. На мужчынах былі



шырокія нагавіцы з манжэтамі, і калі хто рэзка спыняўся, калашыньне абкручвалася вакол нагі. Я глядзеў на танцораў і марыў прыдбаць сабе такія ж нагавіцы. Зрэшты, скакалі ў асноўным жанчыны. Мужчыны тым часам гуртаваліся ля машыны, зь якой прадавалі бочкавае піва. Піва пампавалі ручной помпай. Каб дапамагчы прадаўцы й паскорыць працэс, на кодаб залазілі дзядзькі й налягалі на помпу.

Неўпрыкмет людзі зьбіліся ў купкі, паселі вакол цыратавых абрусаў, сталі выкладаць з хатулёў пляшкі з гарэлкай ды розную спажыву. Нейкі дзядзька прынёс патэфон, і мне даверылі накручваць патэфонную корбу. Прайгралі некалькі кружэлак, але ніхто на тое не зьвярнуў увагі. І толькі калі загучала «Называют меня некрасивою», жанкі схамянуліся й зычнымі галасамі падхапілі песьню*.

Што было потым — ня памятаю, бо ўладальнік патэфона, калі маці адвярнулася, наліў мне паўшклянкі віна, я кульнуў і ачуўся ўжо ў машыне. Мы ехалі ўхабістым бальшаком. Дзядзькі, што стаялі наперадзе, білі далонямі па даху кабіны й галёкалі: «Лёша, ня менш ста!» Жанчыны плакалі, крычалі, каб кіроўца ехаў цішэй.

У гэты момант я ўгледзеў пад нагамі ганаровую грамату — адну з тых, што ўручалі на мітынгу. Цішком, азірнуўшыся, падняў яе, скруціў у трубку й потым доўга захоўваў — як памяць пра маёўку.

* *Слухачка Ё.:* Ой, а прышліце словы гэтай песьні!
*Рэдакцыя:* Пасылаем вам тэлефон Мудрова. Ён сьпяе.

У людзей майго пакаленьня грамадзянская абарона асацыюецца з выцьвілымі плякатамі, што віселі ў фае інтэрнатаў.

## Абарона грамадзянская

З тых заседжаных мухамі малявідлаў паўставала тэрмаядравая ідылія. **Людзі ў адгазьніках сядзелі радком у заваленых бітай цэглай бамбасховішчах і чыталі газэты.** Паўзьверх адгазьнікаў у іх былі капелюшы з высокім верхам альбо кепкі-шасьціклінкі.

На іншым плякаце была намаляваная карова зь мехам на пысе. Подпіс тлумачыў: «Свойскіх жывёлаў неабходна забясьпечыць торбамі-рэсьпіратарамі». Яшчэ на адным грамадзянска-абаронным малявідле цёмны тыпус сыпаў у калодзеж белы парашок, а ягоны падзельнік выпускаў з валізы заражаную сьмяротнай хваробай жамяру.

Яскрава адбіліся ў памяці фільмы па грамадзянскай абароне, якія круцілі ў школе. У кіналіках быў сапсаваны гук, і цяжка было штосьці разабраць. Там увесь час паказвалі, як трэба рыхтавацца да эвакуацыі напярэдадні ядравага ўдару.

Вось нейкая жанчына перакрывае ў кватэры газ, кладзе ў кішэню дакумэнты, прыхоплівае невялічкую валізку й падаецца да дзьвярэй. **Голас за кадрам грамападобна, з брэжнеўскай інтанацыяй камэнтуе: «Пр-руавильно!».** Сьледам нейкі лысы мужчына нацублівае капялюш, хапае аграмадную валізу, на плячо ўскідае



галоўку швейнай машынкі, падаецца да дзьвярэй, валіза расчыняецца — і зь яе сыплюцца бублікі, кніжкі й яблыкі. Голас за кадрам крахтае: «Непр-руавильно!».

Мы глядзелі на такія жарсьці з іранічнай усьмешкай, і адно пытаньне не давала спакою: **няўжо праклятушчыя імпэрыялісты будуць чакаць канца эвакуацыі й толькі тады скінуць атамную бомбу?**

Пэўны час мой бацька завіхаўся на грамадзкіх пачатках пры гарадзкім штабе грамадзянскай абароны. Аднойчы нават паказаў нібыта сакрэтную мапу, на якой былі намаляваныя чырвоныя стрэлкі, — плян эвакуацыі. Калі я пацікавіўся станам гэтай самай абароны, ён махнуў рукой і незадаволена прабурчэў: «На ўвесь горад трыццаць адгазьнікаў, і тыя мышы пагрызьлі».

Якраз тым часам пайшла гуляць показка-пытаньне: што рабіць пры ядравым выбуху? Адказ: спавіцца ў прасьціну й павольна ісьці на могілкі. **А чаму павольна?** Каб не ствараць панікі*.

Як засьведчыла чарнобыльская катастрофа, грамадзянская абарона была інстытутам працаўладкаваньня адстаўнікоў. «Ляцім засыпаць рэактар, а на доле людзі бульбу садзяць. Глядзяць з-пад рукі — што гэта там да верталёта прывязана?» — з жалем распавядаў мне адзін зь ліквідатараў.

У чарнобыльскім агні згарэла вера савецкіх людзей у тое, што іх нехта абароніць, і першымі там заняліся полымем плякаты грамадзянскай абароны.

* *Слухач Ж.:* Недаацэньвае паважаны аўтар грамадзянскай абароны!
*Рэдакцыя:* Недаацэньвае.

У 1978 годзе шматнацыянальная савецкая літаратура папоўнілася творам, які нёс велізарны зарад ідэйнай моцы. Гэта была славутая «Малая зямля» — **дакумэнтальны аповед Леаніда Ільліча Брэжнева**. Яна стала першай часткай брэжнеўскай трылёгіі: неўзабаве выйшлі «Адраджэньне» й «Цаліна».

## «Малая зямля»

**Па чутках, непасрэдна «Малую зямлю» ад імя дарагога Леаніда Ільліча пісаў прыдворны пісьменьнік Аляксандар Чакоўскі.** Спачатку «дакумэнтальныя» зацемкі надрукаваў часопіс «Новый мир», а неўзабаве іх перадрукавалі цэнтральныя беларускія газэты.

Што тут пачалося! Не чакаючы адпаведнай дырэктывы, пісьменьнікі кінуліся пісаць жарсныя водгукі.

«Інтанацыя аповеду Леаніда Ільліча... дапамагае ўбачыць мужнага героя вайны, чалавека надзвычайнай душэўнай дабрыні, камуніста ленінскага гарту, выдатнага арганізатара мас, — пісаў тымі днямі народны пісьменьнік Беларусі Іван Шамякін. — **«Малую зямлю» хочацца цытаваць і цытаваць, сваімі словамі цяжка перадаць яе дух, яе незвычайны, я б сказаў, нутраны патас».**



І Іван Пятровіч разам зь іншымі пісьменьнікамі цытаваў і цытаваў чалавека, зь якога ўжо даўно сьмяяўся ня толькі савецкі народ, але і ўвесь сьвет; які любіў лісьліўцаў і ўзнагародную біжутэрыю; які прыгрэў вакол сябе цэлую армію злодзеяў ды хабарнікаў, якія ўрэшце дабілі краіну да абуха. І пісьменьнікі ведалі пра гэта, але ўсё адно — цытавалі, цытавалі, цытавалі*.

Не адставалі ад літаратараў і творцы іншых сфэраў. У маскоўскіх тэатрах (з аншлягам, вядома) пайшлі п’есы па матывах трылёгіі, мастак Дзьмітры Налбандзян напісаў вялізнае палатно «Л.І.Брэжнеў на Малой зямлі», а кампазытар Аляксандра Пахмутава, апярэдзіўшы іншых творцаў, перадала Чырванасьцяжнаму ансамблю імя Аляксандрава песьню «Малая земля, товарищи-друзья».

Наступнага году Леанід Ільліч Брэжнеў быў ганараваны Ленінскай прэміяй у галіне літаратуры. На парадным, скрозь завешаным ордэнамі ды мэдалямі брэжнеўскім мундуры ледзь знайшлося месца для мэдаля з профілем ленінскай галавы.

Ад той пары друкаваная непатрэбшчына, якой былі заваленыя кнігарні, атрымала зборную назву. І калі які наведнік, перабраўшы тузін кніжак, ставіў апошнюю назад на крамную паліцу, з грудзіны часьцяком вырываліся іранічныя словы: «Малая зямля».

* *Слухачка К.:* А Шамякін усё ж харошы пісацель, што б вы ні казалі!
*Рэдакцыя:* Ня спорым.

На пераломе 1960-х і 1970-х самым масавым захапленьнем беларусаў (прынамсі, іх мужчынскай паловы) быў хакей. Момантамі захапленьне набывала характар гістэрыі.

## Хакей з чэхамі

Увэртурай масавага хакейнага шаленства 1960-х сталі зімовыя Алімпійскія гульні 1968 году. Там, у францускім Грэноблі, савецкая лядовая дружына саступіла зь лікам 4:5 чэхаславацкай зборнай. Матч гэты трансьляваўся ўначы, але ў нашым доме мала хто спаў. **Я таксама хварэў за «нашых» і таксама, разам з усім савецкім народам, хапаўся за галаву пасьля кожнага праходу Галонкі.** Гэты чэскі нападнік закінуў тады шайбу й зрабіў галявую перадачу.

Пасьля матчу маскоўскія камэнтатары Мікалай Озераў ды Ян Спарэ зьмянілі тон рэпартажаў і ўжо не называлі чэхаславацкіх хакеістаў сябрамі-супернікамі. Гэная перамога мела далёкасяжныя наступствы, стаўшы пачаткам Праскай вясны.

Наступны двубой хакейных дружын прыпаў на сакавік 1969 году. Да таго часу савецкія танкі праехаліся па Празе, і матчы з чэхамі (славакаў у простай мове ніхто ня згадваў) мелі палітычную падкладку. Я ўжо чуў пра «Бітлз», спрабаваў, насуперак бацькавым пагрозам, адрасьціць даўгія валасы і ўпотай хварэў за чэхаславацкую дружыну.



Першы матч у Стакгольме саветы прайгралі зь невялікім, але сухім лікам 0:2. Шайбы тады закінулі Сухі й Чэрны, і прозьвішчы гэтых хакеістаў вомігам увайшлі ў фальклёр. Нарадзілася показка пра алькаголіка, якая складалася з прозьвішчаў знакамітых хакеістаў. **У алькаголіка ў роце адранку было Сухі, а ўваччу Чэрны.** Пацямнела і ўваччу беларускіх заўзятараў: былых сяброў-супернікаў сталі называць фашыстамі, якія дваццаць гадоў **«елі наша сала, а цяпер прадаліся Захаду»***.

Падключыліся да выкрывальніцкай кампаніі й газэты. «Советский спорт» абураўся тым, што на саколках чэхаславацкіх хакеістаў замест назвы сацыялістычнай Радзімы зьявіўся драпежны леў. Гэта быў дзяржаўны сымбаль Чэхаславаччыны.

Наступны матч адбыўся 28 сакавіка. Чэхі зноў перамаглі зь лікам 4:3. У тым матчы дыхту давала тройка Клапач — Чэрны — Недаманскі. Апошні са згаданай тройкі закінуў пры канцы першага пэрыяду шайбу й таксама ўвайшоў у фальклёр. Якраз у сакавіку 1969-га надарыўся савецка-кітайскі канфлікт на востраве Даманскі, і жартаўнікі наракалі, што канчатковай перамозе камунізму замінае той самы **востраў Даманскі й чэскі хакеіст Недаманскі.**

Многае выпетрылася з памяці, але ёсьць падзеі, якія запомніліся назаўсёды. Вось і беларускія заўзятары, хто з сумам, а хто й з сорамам, дагэтуль згадваюць колішні хакей з чэхамі.

-------------

* *Слухач Ж.:* Усё-ткі ня ясна, што хацеў сказаць аўтар. Ён за ці супраць?
*Рэдакцыя:* Згодны.

У 1980-я гады ў гарадах і мястэчках лютавала наглядная агітацыя, і ўсё наўкол было завешана манумэнтальнымі пано. Манумэнталістыка мела мабілізаваць савецкіх людзей на новыя працоўныя зьдзяйсьненьні. Апроч таго, пано мелі ўтылітарную мэту — прыкрывалі пашарпаныя тарцы будынкаў.

## Агітацыя наглядная

Галоўным героем наглядна-агітацыйных малявідлаў быў правадыр усясьветнага пралетарыяту. Звычайна яго малявалі ў расхлістаным палітоне, з выцягнутай рукой. У другой руцэ Ільліч трымаў скручаную газэту «Правда», і здалёк здавалася, што ён трымае пляшку «чарніла». «Верной дорогой идёте, товарищи!» — ляцеў уздоўж пано размашысты надпіс. **Цікава, што Ільліч заўсёды паказваў альбо на могілкі, альбо на вінна-гарэлачную краму.**

Другім папулярным героем (прынамсі, у Наваполацку) быў **будаўнік камунізму з валявымі квадратнымі сківіцамі**. Ён насіў рабочую спэцоўку й мантажную каску, на якой ляжалі водбліскі нязгаснага сьвятла камунізму. Каску будаўнікам камунізму сталі нацубліваць толькі брэжнеўскай парой. Дагэтуль іх малявалі зь непакрытай галавою. Валасы ва ўсе часы былі арыйскага кшталту: русявыя й абавязкова зачасаныя назад. Мне ніколі не патрапляў на вочы кучаравы камуняка*.



У паставе і ў адкрытым, пад трафарэт маляваным твары **скразіла ідэйнасьць, рашучасьць, гатовасьць да самаахвяраваньня дзеля высокіх ідэалаў**. Увасабленьнем ідэалаў была таўшчэзная таміна, на якой было напісана: «Праграма КПСС» — яе будаўнік камунізму трымаў перад сабою.

У 1980-я хваля нагляднай агітацыі захліснула й вёску. Калгас убіўся ў даўгі, на фэрме рыкалі галодныя каровы, трактарысты ляжалі, упітыя, пад плотам, а перад уваходам у праўленьне сталі **фанэрныя шчыты з выявай даяркі ў беласьнежным халаце й маладога мэханізатара з разводным ключом у руцэ.** Здолу гвардзейцаў пяцігодкі падпіралі дыяграмы шалёнага росту сельгасвытворчасьці, а нагары надпіс: «Харчовую праграму — выканаем!».

Наглядная агітацыя была прыбытковай справай, і займаліся ёю ня толькі халтуршчыкі, але й таленавітыя мастакі. Сярод іх былі й мае сябры. З надыходам лета яны хапалі бляшанкі з фарбай, трафарэты з выявамі камуністычных големаў ды падаваліся на вёску, каб аздобіць будынкі праўленьняў калгасу.

І калі нейкі мастак, што нядаўна гібеў без капейкі, пад'яжджаў да сваёй майстэрні на новых «жыгулях», **калегі з зайздрасьцю й дакорам канстатавалі: сеў на наглядную агітацыю.**

- - - - - - - - - - - - -

* *Слухач М.:* Гэта бытавы антыкамунізм, апартунізм і рэвізіянізм — у Маркса нават барада кучаравая!
*Рэдакцыя:* Проста хуліганізм!

За саветамі кінапракат меў квоту на дэманстрацыю фільмаў пра Леніна, таму фільмы такія круцілі даволі часта.

## Фільмы пра Леніна

**Мне асабліва падабаўся Ільліч у маладосьці.** У «Сердце матери» Валодзю Ўльянава граў Радзівон Нахапетаў, які цяпер здымаецца ў Галівудзе. «Крестьяне Симбирской, Уфимской, Самарской губерний — голодают!» — гукаў малады адвакат Ульянаў, пры гэтым у судзьдзі, які судзіў галодных сялянаў, ад абурэньня падала пэнснэ з глюгастага носа. Пазіраючы на экраннага Ільліча, можна было падумаць, што той ня еў, ня піў, а толькі думаў пра ўсясьветную рэвалюцыю. **«Наденька, газет! Ради бога, газет!» — крычаў Ільліч з акна цюрыхаўскай кватэры жонцы, якая ішла на кірмаш.**

І толькі аднойчы, у «Человеке с ружьём», правадыр еў бульбу ў мундурах ды яшчэ ў адным фільме прасіў Надзею Канстанцінаўну запарыць гарбаты — «и покрепче!». А потым, пасуравеўшы з твару, дадаваў: **«А сахар — детям!»**

Спаць правадыру не было калі. Вось ён, напярэдадні кастрычніцкага перавароту, хаваецца на канспіратыўнай кватэры. Сядзіць цёмнае начы й нешта піша. Гаспадар кватэры сьцярожка, паціраючы потныя ад хвалянваньня рукі, кажа, што час, Уладзімер Ільліч, класьціся спаць. «Ах



да!» — падхопліваецца пастаялец і на вачах гаспадара кватэры й ягонай жонкі пачынае расьсьцілаць на падлозе газэты. «Спать, спать, спать!» — выдыхае Ільліч, пстрыкнуўшы накрыўкай гадзіньніка. Правадыр здымае пінжак, зьбіраецца класьціся, ды замірае, утаропіўшыся ў газэту. Ну вядома: убачыў артыкул Каменева ды Зіноўева. Наступным імгненьнем Ільліч сьціскае газэціну ў кулаку, бярэ рукі ў бокі й пачынае бегаць з канца ў канец пакою.

Кіналенініяна ўбілася ў памяць адрывістымі маналёгамі, у якіх яе герой штосьці пытаецца, абураецца, а потым заразьліва, закінуўшы галаву, сьмяецца. **«А как кулак? Шалит?»** — пытаўся Ўладзімер Ільліч у фільме «Ленин в 1918 году». «Инженер Забелин торгует на Блошином рынке спичками! — абураўся правадыр у «Кремлёвских курантах». — В то время, как мы Россию вздыбили. Стыд, батенька!»

**«А не мешало бы и расстрелять!»** — заўважаў самы чалавечны чалавек падчас тэлефоннай размовы зь Дзяржынскім. Нарэшце, стаміўшыся ад усіх гэтых размоваў, выходзіў на сярэдзіну кабінэту, прымружваў вочы й, засунуўшы вялікія пальцы пад пахі, пранікнёна прамаўляў: «Чертовски хочется работать!»*

Папрацавалі бальшавікі ад душы. Яны разбурылі стары сьвет, скасаваўшы рэлігійныя, этычныя й юрыдычныя нормы. Краіна вярнулася ў архаічна-дакультурніцкі стан, што й засьведчылі савецкія фільмы пра Леніна.

---

* *Слухачка Ц.:* Скажыце, а ці праўда, што Ленін думаў пра Беларусь?
*Рэдакцыя:* Такая праўда, што вош кашляе.

Пачатак 1960-х прайшоў пад сьцягам антыкаляніяльнай барацьбы афрыканскіх народаў.

## Люмумба Патрыс

Мастакі-афармляльнікі поруч з выяваю першага спадарожніка налаўчыліся маляваць пад трафарэт мурына, што рваў цяжкія ланцугі. Адно такое ланцужна-разрыўное пано вісела недалёка ад полацкага кірмашу, і, калі мы з бацькам праходзілі міма, я заўсёды пытаўся: «Гэта хто? Люлюмба?» — «Люмумба, — папраўляў бацька й ці то жартам, ці то ўсур'ёз дадаваў: — Дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху».

У 1960 годзе былая бэльгійская калёнія Конга здабыла незалежнасьць. Урад ачоліў былы камэрцыйны дырэктар піўной кампаніі Патрыс Люмумба, які адразу заявіў пра сымпатыі да навуковага камунізму. Прэм'ерыў ён два месяцы і ў сьнежні таго ж году быў захоплены ў палон, як тады пісалі газэты, «лёкаямі бэльгійскіх калянізатараў»*.

------------

* *Слухач Ю.:* Цікава ведаць: тэлефонны код Конга + 243. *Рэдакцыя:* Гм-м, правільна…



Паланеньне палымянага змагара за свабоду Афрыкі, калі верыць газэтам, «болем і абурэньнем адгукнулася ў сэрцах савецкіх людзей». Пры гэтым апошнія не маглі дабраць розуму, дзе тое Конга знаходзіцца й хто там з кім ваюе. Няўцямнай была й роля ў гэтай гісторыі амэрыканскіх імпэрыялістаў, якіх не стамлялася выкрываць прапаганда. Дый само прозьвішча палымянага барацьбіта пісалі з памылкай. Я неяк праглядаў старыя газэты й бачыў здымак мітынгу, удзельнікі якога трымалі плякат «Рукі прэч ад Патрыса Люлюмбы!». Так што праблемы ў гэтым пляне мелі ня толькі сямігадовыя падшыванцы.

Люмумбу забілі й, магчыма, зьелі правадыры варожага племені. Нашы людзі зьлёгку, хутчэй дзеля прыліку, пабедавалі й горача віталі рашэньне ўраду надаць маскоўскаму ўнівэрсытэту Дружбы народаў імя ахвяры канібалізму. (Савецкі народ увадначас употай радаваўся. У Конга перамаглі стаўленікі імпэрыялізму, і цяпер гэтай краіне ня трэба было аказваць братняй дапамогі.)

Імем Патрыса Люмумбы ахрысьцілі таксама вуліцы гарадоў і мястэчак. Была такая вуліца і ў Смаргоні, побач зь ёю якраз жыў мой цесьць. Гадоў пятнаццаць таму нязручнае для языка прозьвішча прыбралі з шыльды, назваўшы вуліцу ў гонар земляка, які загінуў у Аўганістане.

Гэта не была ініцыятыва мясцовых уладаў. Прыйшла дырэктыва з цэнтру, бо адначасова і ў іншых мясьцінах з гарадзкой тапанімікі зьнікла прозьвішча палымянага барацьбіта за свабоду Афрыкі, сёньня ўжо амаль забытага Патрыса Люмумбы.

Я пачуў гэтую песьню на школьным агеньчыку — правобразе сучаснай моладзевай дыскатэкі. Спачатку з прайгравальніка вырываўся мерны рып — усё адно як карова жавала храбусткое сена, потым аднекуль здалёк даляцелі гітарныя акорды, і нарэшце загучаў надрыўна-прыдушаны голас:

*Льёт ли тёплый дождь,*
*Падает ли снег...*

## Абадзінскі Валеры

Пры канцы 1960-х песьня гэтая ня толькі апанавала прастору, але стала кампанэнтам навакольнага паветра*. Голас выканаўцы, Валер'я Абадзінскага, вырываўся з вокнаў інтэрнатаў, гучаў на танцпляцоўках, заежджана сіпеў і заікаўся ў аддзелах грампласьцінак культтаварных крамаў. **Ля аддзелаў заўсёды тоўпіліся вясковыя дзяўчаты, якія кожнага разу пыталіся: «Абадзінскага прадаяце?»** І прадаўшчыца, соты раз на дзень заводзячы «Восточную песню», адказвала: «Гэта мая пласьцінка».

---

* *Слухачка З.:* Каб вы ведалі, як яе сьпявае адзін чалавек!..
*Рэдакцыя:* Вы зноў намякаеце. Ведаем.



У 1969 годзе папулярнасьць Абадзінскага сягнула апагею. Ягоныя запісаныя на саракапятках гіты разьляталіся па краіне, і пад гэтую музыку маё пакаленьне любілася-кахалася, таўклося на танцпляцоўках і білася ў ваколіцах вясковых клюбаў. Абадзінскі сьпяваў пра «глаза напротив», пра «неотправленное письмо», пра экзатычную Анжэлу, і маладыя бацькі давалі гэтае імя сваім дочкам.

У жніўні 1970-га я быў на танцах у вясковым клюбе. І там ня менш як дваццаць разоў пачуў «Неотправленное письмо». Саракапятка была заежджаная, у адным месцы сьпявак пачынаў заікацца. І таму ля прайгравальніка сядзеў падшыванец, які перасоўваў гуказдымальнік у заікастым месцы.

**Наступным годам я наведаў канцэрт Абадзінскага. І на ўласныя вочы пабачыў, як шалелі жанчыны, калі сьпявак, выконваючы «Восточную песню», сыходзіў са сцэны і ўкленчваў перад якой-небудзь кабетай зь першага раду.**

А потым ён зьнік. Песьні ягоныя яшчэ круцілі на вечарах і танцпляцоўках, але рабілі гэта, хутчэй, па інэрцыі. На сьпевака пачалі забывацца. Хадзілі чуткі, што ён сьпіўся. Іншыя сьцьвярджалі, што Абадзінскі сьпявае ў адным з сочынскіх рэстаранаў.

Апошні раз беларуская публіка ўбачыла Абадзінскага на «Золотом шлягере» 1996 году. Тады многія жанкі майго веку, пазнаўшы ў дарэшты распаўнелым мужчыну куміра маладосьці, змахнулі сьлязіну. І на пытаньне дачок: «Хто гэта?» — з сардэчным клёкатам у горле адказалі: «Валеры Абадзінскі».

Калі й была ў школьнікаў культавая рэч — дык гэта, безумоўна, магнітафон. **Гэта быў ня проста апарат для запісу й перадачы гуку. Гэта было акно ў сусьвет, праз якое мы пачулі бітлоў, ролінгаў ды іншых сваіх куміраў.** І называлі мы магнітафон па-свойску ляпідарна: маг.

## Магі

Да самага канца 1960-х магі, асабліва ў правінцыі, былі рэдкасьцю. У нашай клясе толькі ў аднаго хлопца дома стаяў магнітафон — лямпавы «Дніпро». Пайсьці зь ім кудысьці ды штосьці перапісаць было немагчыма, бо важыў ён 25 кіляграмаў.

Першы маг бацькі мне набылі ў 1970 годзе. Ехаць па яго давялося ў Менск. Называўся маг «Дайна» й каштаваў 130 рублёў. Неўзабаве ў продажы зьявіліся «Юпитеры», «Вільмы», «Яузы», «Кометы». Самы танны маг, «Aidas», каштаваў 110 рублёў. Была яшчэ прыстаўка «Нота», на дваццаць рублёў таньнейшая, але ў яе не было дынамікаў і трэба было падключацца да прымача.

Самыя прасунутыя мэляманы хадзілі па вуліцах зь пераноснымі магамі на батарэйках. У іх плаваў гук і пастаянна зрываўся тросік. Правая бабіна пасьля таго не круцілася, і стужка зьбівалася ў ком, утвараючы так званую бараду. Уладальніку «Весны» (так называліся пераносныя магі) даводзілася круціць бабіну пальцам, каб разматаць бараду.



Самымі шыкоўнымі магамі лічыліся «Грундыгі» й «Соні». Пра іх было шмат размоваў, але на ўласныя вочы замежную тэхніку мала хто бачыў.

У магах увесь час нешта трэба было падцягваць ды падкручваць, таму зь іх здымалі накрыўку. Колькі ведаю сяброў — ва ўсіх магнітафоны працавалі з аголеным нутром. Да таго ж клявішы, асабліва ў «Дайны», часьцяком не ўключаліся, і каб выправіць дэфэкт, іх закліньвалі запалкамі. Сур'ёзнай праблемай было тое, што **магнітафонная стужка бязьлітасна рвалася.** Склейвалі яе воцатам. У пакоі, дзе стаяў маг, панаваў густы пах воцату й адэкалёну — апошнім працíралі гуказдымальныя галоўкі. Магнітафонныя стужкі былі трох тыпаў: другога, шостага й дзясятага. Дзясяты быў самы трывалы, бо вырабляўся на ляўсанавай аснове. Праўда, і каштаваў адпаведна.

**Лічылася, што якаснага гучаньня можна дасягнуць пры хуткасьці запісу 19 сантымэтраў на сэкунду.** У сярэдзіне 1970-х зьявіліся гаргарыстыя шматдарожкавыя магнітафоны зь вялізнымі бабінамі й са згаданай хуткасьцю. Ставілі іх вэртыкальна.

Праўда, мода на гаргары хутка мінула, бо неўзабаве сьвет апанавалі кампактныя й зручныя касэтныя магі*.

- - - - - - - - - - - - -

* *Слухачка Ф.:* Я думала, гэта перадача пра магічныя сілы чалавека!
*Рэдакцыя:* Хто ж думаў, што вы думаеце.

Хто б зь югаслаўскіх пеюноў ні завітаў на гастролі ў Менск ці Маскву, іх абавязкова менавалі зоркамі. Ня раз даводзілася бачыць вулічныя расьцяжкі з надпісам «Зоркі югаслаўскай эстрады» ды пералікам нікому не вядомых выканаўцаў.

## Зоркі югаслаўскай эстрады

Зрэшты, прыяжджалі зь берагоў Адрыятыкі й праўдзівыя зоркі. І зоркай першай велічыні быў **Джорджэ Мар'янавіч**.

«Дэвойка мала» — хто з маіх аднагодкаў не памятае гэтай песьні, адной з самых папулярных у сярэдзіне 1960-х. Сьпяваў яе памянёны Джорджэ Мар'янавіч. Песьню запісалі на кружэлку, і яе круцілі да зьнямогі. Шлягер меў таксама некалькі рэмэйкаў з рознымі тэкстамі. Найбольш запомнілася «Дэвойка» ў выкананьні Эміля Гараўца: «Ночным Белградом шли мы молча рядом».

Неўзабаве зорка Мар'янавіча прытухла, і на музычным небасхіле зазьзяла імя Радмілы Караклаіч. **Усё замежнае ўваччу савецкіх гледачоў было пазначанае асаблівым флёрам.** Калі ж сьпявак ці сьпявачка зьяўляліся на экране ў авантажных апранахах, гэта выклікала



сапраўдны фурор. Выступ Радмілы Караклаіч на «Голубом огоньке», дзе яна прасьпявала песеньку «Караблік», стаўся падзеяй у жыцьці савецкіх людзей. **Караклаіч была ў сукенцы на тонкіх лямках, і ўсе былі перакананыя, што гэта ніжняя бялізна. «Во дае дразда! — захоплена выдыхаў мой бацька. — У панталёнах выйшла!»**

У 1969 годзе талент Джорджэ Мар'янавіча зыркнуў новымі фарбамі. Сьпявак завітаў з гастролямі ў Маскву, і ягоны выступ паказалі па тэлевізіі. «Шалёнае сэрца», «Рамана», «Мірза» — гэтыя песьні, як ніякія іншыя, убіліся ў памяць маіх аднaлеткаў. Іх круцілі перад пачаткам тэлетрансьляцыяў, і шкаляры, вярнуўшыся з заняткаў, адразу ўключалі тэлевізары. «Шалёнае сэрца» потым выконвалі самадзейныя артысты. Я нават чуў яго ў выкананьні трыё баяністаў. А песеньку «Мірза» пачалі сьпяваць на свой лад: «Зовут меня Мирза, работать мне нельзя. Работает Иван: он выполняет план».

Згадаю й саліста гурта «Загрэб» Івіцу Шэрфэзы. У сярэдзіне 1970-х песьні ягоныя круцілі ў рэстаранах правінцыйных гарадоў, і іх адразу замілавалі жанчыны. **«Нелюбимая, нелюбимая...»** — сьпяваў малады харват, і вочы жаночыя вільгатнелі*.

Так, сярод цыгарэтнага дыму ды кухоннага чаду, прасьпявала сваю лебядзіную песьню апошняя зорка югаслаўскай эстрады.

-------------

* *Слухачка Ё.:* Прышліце мне словы гэтай песьні, і не прысылайце зноў тэлефона Мудрова. Яму слон на вуха наступіў.
*Рэдакцыя:* Затое які голас!

Калі я вучыўся ў восьмай клясе, сябрук прапанаваў завітаць да стрыечнага брата: той вучыўся ў Маскве й прывёз адтуль кружэлку з запісам ансамблю «Бітлз».

## Бітлы

Пра бітлоў* я ўжо чуў шмат плётак, чытаў пра іх у «Комсомольской правде» й нават бачыў на кінаэкране. На нашай дваровай агітпляцоўцы круцілі фільм з цыклю «В странах капитала», і тамака мільгануў сюжэт: нечыя голыя ногі калацілі па клявіятуры піяніна — **і суворы голас за кадрам тлумачыў, што гэта вычваруюцца куміры заходняй эстрады, сумнавядомыя бітлы.**

Мы прыйшлі да сябруковага брата сярод белага дня, але той, адчыніўшы дзьверы, быў заспаны й незадаволены. «Ізноў...» — прастагнаў студэнт, і стогн выдаваў на тое, што я быў далёка ня першы, хто прыцёгся паслухаць кружэлку. Сябра матлянуў галавой — не зьвяртай увагі, і мы на цырлах прайшлі ў пакой. На прайгравальніку аграмаднай радыёлы ўжо стаяла кружэлка-саракапятка.

\- - - - - - - - - - - - -

* *Слухач Б.:* Правільна гаварыць «The Beatles», што азначае «жукі».
*Рэдакцыя:* А газэта «Правда» азначае «truth».



«Усе іх лаюць, а між іншым, прыемная музыка», — заўважыў сябрук, шапятнуў францускае імя Мішэль, і ў нетрах радыёльных брынкнула гітарная струна.

Я слухаў шчымлівую мэлёдыю з глыбокім перакананьнем, што сябар нешта пераблытаў, паставіў ня тую кружэлку. **Зьверападобныя істоты, якіх паказвалі ў «кіне», не маглі сьпяваць такіх песень.** «Michelle, ma belle», — гучала з дынаміка, і цёплая хваля падымалася ў грудзёх, і мне карцела некуды бегчы, і здавалася, што гэтая песьня заўсёды жыла ўва мне, ды толькі цяпер набыла голас.

**Бітлы. Гэтае слова стала для нас, падлеткаў, своеасаблівым сымбалем, знакам сьветлага й недасяжнага сьвету, поклічам да супраціву цёмнай і тупой саветчыне, якой аж па край поўнілася жыцьцё.** Начамі, з насьцярогаю азіраючыся на сонных бацькоў, мы круцілі ручкі настройкі гламаздаватых радыёл у спадзеўцы пачуць «Бітлз», тымі ж начамі, зачыніўшыся ў ванным пакоі, рабілі цьмяныя, сто разоў пераздымкі сваіх куміраў, а пятніцамі сядалі да тэлевізараў, каб зноў пачуць «Can't Buy Me Love»: яе круцілі як музычную застаўку да перадачы «В объективе — Америка».

Даўно прамінула юнацтва, а песьні лівэрпульскай чацьверкі гучаць і дагэтуль. Прайдзіся тым жа Наваполацкам — і абавязкова іх пачуеш. Яны вырываюцца з адчыненых фортак, з крамаў кампакт-дыскаў, іх мадэлююць мабільныя тэлефоны.

І па-ранейшаму далёкім рэхам сьветлага й недасяжнага сьвету, поклічам да супраціву ўсяму тупому й цёмнаму гучыць музыка бітлоў.

Маё пакаленьне ўваходзіла ў жыцьцё ў эпоху заваёвы бязьмежнай касьмічнай прасторы. Пра космас пісалі газэты, пра яго дудукала радыё, а перапынкі паміж дудуканьнем поўніліся песьнямі й маршамі касьмічнай тэматыкі.

## Песьні пра космас

**І нават поклічам «Последних известий» маскоўскага радыё былі сыгналы, якія перадаваў у этэр першы штучны спадарожнік Зямлі.**

Паэтам і кампазытарам, якія пісалі песьні пра космас і касманаўтаў, нейкім чынам удалося высьлізнуць з абцугоў партыйнасьці й народнасьці. «Давайте-ка, ребята, закурим перед стартом», — сьпявалі на пачатку 1960-х. **Песьня гэтая паказвала савецкіх касманаўтаў звычайнымі хлопцамі. Адно што дзеля поўнага зьліцьця з простым людам ім трэба было яшчэ кульнуць перад стартам кухаль піва ці чаго мацнейшага.** Песьня стала неафіцыйным гімнам савецкіх касманаўтаў. Адно што радок «закурим перед стартом» зьмянілі на «споёмте перед стартом», бо касманаўтам паліць не выпадала*. Адначасова песьня стала гімнам тадышніх зладзюганаў.

-------------

* *Слухач В.:* Нашы героі космас прайшлі, а Бога не знайшлі!
*Рэдакцыя:* Тады ракетаў не асьвячалі… Разьмінуліся, як Мудроў на веліку. Гл. с. 21.



Тэкст, праўда, быў зь іншым рэфрэнам: **«Я верю, друзья, что милиция спит».** Лёс гэтай песьні, якую выконваў Уладзімер Трошын, быў незайздросны: яна зьнікла з этэру. Прычынай таму стаўся ад’езд на Захад аўтара тэксту Ўладзімера Вайновіча.

І ўсё ж такі бяз зонгаў грамадзянскага гучаньня й тут не абышлося. «Я Земля, я своих провожаю питомцев: сыновей, дочерей», — з галасавым вібратам барытоніла Вольга Варанец. Выканаўцы ролі сыноў і дачок стаялі на сцэне за ейнай сьпінаю. **На галовах у іх былі круглявыя, падобныя да матацыклетных, шлемы з двума мэталёвымі пруткамі — нібыта антэнамі.** Глынуўшы паветра, сыны й дочкі Зямлі туравалі сьпявачцы ў маршавым тэмпе: «Долетим мы до самого Солнца и домой возвратимся скорей».

Прыдаўся й фальклёрны вакал Людмілы Зыкінай. Сьпявачку любілі жанчыны сярэдняга й старэйшага веку. «Давай, космонавт, потихонечку трогай», — з фальклёрнай інтанацыяй, у суправаджэньні двух баяністаў, сьпявала Людміла Зыкіна, на касьмічную вышыню ўздымаючы песенныя ідэалы савецкага мастацтва.

Нарэшце, знайшлося месца й сьпевам, стылістычна блізкім да мінорнага рамансу. «Утверждают космонавты и мечтатели, что на Марсе будут яблони цвести», — мне **гэтая песьня вельмі падабалася. Слухаючы яе, быў перакананы, што ў наступнай пяцігодцы на далёкім Марсе, з рыдлёўкамі на плячах, зьявяцца садаводы-мічурынцы.**

Садаводы да Марсу не даляцелі. А мінорны раманс гэты стаўся сымбалем прамінулай эпохі й найлепшай, як на мой густ, песьняй пра космас.

Савецкія журналісты-міжнароднікі ад душы папрацавалі на ніве выкрыцьця й ідэйнага абясшкоджваньня бугі-вугі — тэмпавага амэрыканскага танцу 1950-х. Яго зьяўленьне журналісты й паэты той пары зьвязвалі з агрэсіўнай палітыкай Захаду.

*И когда буги-вуги идёт на эстраде —*
*Танки движутся по автостраде.*
*И когда для хозяев старается джаз —*
*Загудел истребитель, кружась...*
*А когда плясуны попадают в такт —*
*Это их Атлантический пакт!*

Гэтак жарсна пісаў клясык савецкай паэзіі Павал Антакольскі.

## Бугі-вугі

**Мне пашчасьціла пабачыць бугі-вугі ў віцебскім цырку-шапіто.** Было гэта ў 1960 годзе. Два клоўны (адзін зь іх быў у спадніцы) вычвараліся пад грукатлівы амэрыканскі музон, і гледачы ад сьмеху спаўзалі з крэслаў.

Тым жа годам стылягі пачалі скакаць яшчэ адзін заходні, а таму **ідэалягічна шкодны танец — твіст**. Нарадзіўся ён за акіянам, і ягоным «бацькам» быў малады кампазытар Чабі Чэкер, аўтар тэмпавага зонгу «Twist Again». Танец, які ў савецкім друку згадвалі з эпітэтам «малпіны», вымагаў мінімуму прасторы, і галоўным элемэнтам было матляньне з боку ў бок сьціснутымі й сагнутымі каленямі. Дзяўчаты актыўна жэстыкулявалі ўказальнымі пальцамі, а таксама імітавалі скіданьне начной сарочкі.



Танцавальная культура майго пакаленьня была на нулі*. Мяне ніхто танцам не вучыў, калі не лічыць, што ў піянэрскім лягеры давялося танцаваць **«Вальс дружбы»**. Зрэшты, гэта быў ня вальс, і нават ня танец, а нейкая рухавая гульня — з плясканьнем у далоні, матляньнем рук і паваротамі на 180 градусаў.

Гэта здаецца неверагодным, аднак партыйныя ідэолягі, якія напачатку паспрабавалі прыгваздаць твіст да ганебнага слупа, нечакана аціхлі. Больш за тое, твіст пачалі скакаць героі савецкіх кінафільмаў. **Апагеем разгулу заходняй танцкультуры стала «Каўказская пленніца»**, дзе гэты твіст танчылі Яўген Маргуноў, Фрунзык Мкртчан і Натальля Варлей. Праўда, дэманстраваць яго дазвалялася не пад зонгі караля твісту Чабі Чэкера, а пад музыку Арно Бабаджаняна ды іншых савецкіх кампазытараў.

Мая ж маладосьць прайшла пад тупат шэйку. У гэтым танцы ніякіх усьвядомленых рухаў і структурных канонаў не існавала. Кожны вытоптваў квадратны мэтар танцпляцоўкі, падпарадкоўваючыся дынамічнаму рытму. **Хтосьці, як смаргонскі мядзьведзь, пераступаў з нагі на нагу, іншы біў сябе ў бакі сагнутымі локцямі, нехта махаў у паветры рукой, імітуючы кручэньне мясарэзкі.** Былі й такія, што імпэтна тузалі ў такт музыцы кудлатымі галовамі. Іх выводзілі з пляцоўкі.

На пачатку 1970-х трэсьці на танцах кудламі было тое самае, што пры канцы 1950-х скакаць бугі-вугі.

- - - - - - - - - - - - -

* *Слухач Р.:* Затое мы будавалі БАМ!
*Рэдакцыя:* Зусім забыліся.

Прайдзіся нядзельным ранкам 1970 году па вуліцы — і абавязкова пачуеш з расчыненай форткі поклічы «Радыё Швэцыя». У нядзелю можна было паляжаць лішнюю гадзінку ў пасьцелі, толькі нам не ляжалася. У гэты час згаданае радыё перадавала музычную праграму.

## «Радыё Швэцыя»

«Швэцыю» не глушылі, да таго ж якасьць трансьляцыі была даволі добрая, і мы падключалі да прымача магнітафоны, каб запісаць бітлоў, ролінгаў ці крыдэнсаў — папулярны тады амэрыканскі гурт «Creedence Clearwater Revival».

Мадэратарамі музычных праграмаў былі Ульф Цэдэніюс і Тамара Юхансан. Тамара мела прыемны голас, і мае сябры, слухаючы замежную дыктарку, уголас ёю захапляліся. **У дыктаркі была парушаная дыхальная маторыка, але гэта толькі надавала ёй флёру.**

Швэды круцілі музыку па заяўках. Прычым называлі толькі імя замоўцы й горад, зь якога надасланы ліст. **«Для вас, Лінда з эстонскага гораду Кохтла-Ярвэ, перадаем песьню «Venus» гурту «The Shocking Blue»**, — прамаўляла Тамара Юхансан, і гэтай



хваляй сотні аматараў біт-музыкі націскалі клявішы сваіх «Дайнаў» ды «Вільмаў».

Імя эстонкі Лінды гучала ў кожнай музычнай праграме. Гэтая самая Лінда й падбіла мяне напісаць на «Радыё Швэцыя». У першым лісьце замаўляў, памятаю, «I Put A Spell On You» крыдэнсаў. А неўзабаве хлопец з паралельнае клясы пацікавіўся, ці не пісаў я на заходняе радыё. Паводле ягоных зьвестак, некалькіх хлопцаў з Наваполацку й суседняй Баравухі цягалі з гэтай нагоды ў КДБ.

Гэта мяне не спыніла. Напісаў яшчэ пару лістоў на адрас Stockholm, box I05—I0, Radio Sweden. А неўзабаве вывесіў на школьнай дошцы аб'яваў расклад музычных перадачаў заходніх радыёстанцыяў. Сярод іх былі «Радыё Швэцыя», «Голас Амэрыкі» й **«Свабодная Эўропа» для Румыніі** — там заўсёды круцілі «Beatles». Была восень 1970 году, і такія рэчы маглі кепска скончыцца. На шчасьце, тым разам абышлося: паперка трапіла да дырэктара школы, і ён, азірнуўшыся, падзёр яе на дробныя кавалкі*.

Нядаўна сябрук знайшоў недзе старыя магнітафонныя запісы й запрасіў паслухаць. На пажаванай стужцы спачатку нічога не было чуваць, нарэшце штосьці бомкнула, і загучала да болю знаёмая музычная застаўка. І сябар, кіўнуўшы галавой, з настальгічнай усьмешкай прамовіў: «Музычная праграма «Радыё Швэцыя».

---

* *Слухач Х.:* Дзякуй, нарэшце можна закрыць гэтую сьледчую справу — столькі гадоў статыстыку псавала! *Рэдакцыя:* Рады старацца!

Сьпявачка Людміла Зыкіна заявіла пра сябе на пачатку 1960-х — і адразу завалодала слыхам беларускіх жанчын. Яна стварыла вобраз кабеты, якая з прыхаванай сьлязой апавядала пра штосьці назаўсёды страчанае, падступна забытае, згубленае ў мітусьлівым гарадзкім жыцьці.

# Зыкіна Людміла

Фальклёрна-напеўны вакал скарыў жаночыя душы ўжо зь першага гіта, які Зыкіна выканала дуэтам з папулярнай сьпявачкай Рабінкінай. **Гэта была песьня «Огней так много золотых», безь якой потым не абыходзілася ніводная бяседа й гулянка.**

Людміла Зыкіна была ўлюбёнай сьпявачкай маёй маці. Памятаю, зь якім захапленьнем слухала маці гарэзьлівую песеньку пра маладога марымана, што прыехаў на пабыўку, — «Отчего у нас в посёлке у девчат переполох?». Кружэлка з гэтай песьняй не здымалася з прайгравальніка, і мне давялося пачуць яе безьліч разоў. Яе таксама сьпявалі на гулянках, і аднойчы, з вуснаў дарэшты ўпітага дзядзькі, я пачуў яе фальклёрны фінал: **«Где под солнцем вьюга, ширь безбрежная, ждёт меня подруга — жонка Брежнева».**

А вось бацька Зыкіну ня надта шанаваў. Кожнага разу, пабачыўшы яе на тэлеэкране, выдыхаў: **«Ужо й сцэна прагінаецца».** Людміла Георгіеўна штогоду набірала ня толькі грамадзкай, але й фізычнай вагі.



Мяне з гэтай сьпявачкай зьвязвала адна прыгода. Аднойчы, калі мы зь сябрамі пускалі па ветры грамафонныя кружэлкі — была ў нас такая забава, я выпадкова заехаў саракапяткай зь песьняй «Край наш пензенский», якую выконвала Зыкіна, у лоб суседу з восьмай кватэры*.

Без удзелу згаданай сьпявачкі не абыходзіўся ніводны сьвяточны канцэрт у крамлёўскім Палацы зьездаў. **Людміла Георгіеўна поўніла этэр песьнямі-плачкамі пра разанскіх мадоннаў, пра волскія прасторы й арэнбурскія пуховыя хусткі.** Напачатку сьпевы ейныя суправаджалі два баяністы, а потым падключыўся аркестар усесаюзнага радыё й тэлебачаньня. Неўзабаве Зыкіна запела кантаты пра Леніна — і ў 1970 годзе атрымала Ленінскую прэмію. Тым часам пайшлі гуляць чуткі, што Людміла Зыкіна мае інтымную сувязь з савецкім прэм’ерам Аляксеем Касыгіным.

Што да Касыгіна, дык гэта справа цёмная, а вось што Людміла Георгіеўна сябравала зь міністрам культуры Кацярынай Фурцавай, дык гэта дакладна. Жанчыны разам бавілі час, разам езьдзілі за мяжу й, вазьму на сябе сьмеласьць сьцьвярджаць, час ад часу, нястройным дуэтам, сьпявалі песьню пра залатыя агні на вуліцах Саратава ды іншыя песьні з рэпэртуару Людмілы Зыкінай.

---

* *Слухач Г.:* Колькі разоў паўтараць — я жыў у дзявятай! *Рэдакцыя:* Зразумела, калі кружэлкай у лоб — галава кругам у каго заўгодна пойдзе.

Калі я ўпершыню прыехаў у піянэрскі лягер, дык з натхненьнем сьпяваў: «Взвейтесь кострами, синие ночи». Песьня была неафіцыйным піянэрскім гімнам, гучала на кожнай вечаровай лінейцы і ў канцы зьмены абрыдла да нэрвовага сьвербу.

## Песьні піянэрскія

На дзённай лінейцы мы сьпявалі **«Солнечный круг, небо вокруг»**. Пры гэтым, на патрабаваньне старшай піянэрважатай, мусілі біць у ладкі над галавой. Гэткай артыкуляцыяй немудрагелістай дзіцячай песеньцы, як я цяпер разумею, надавалася патасная рамантызацыя.

Усе гэтыя зонгі мы выконвалі ў суправаджэньні вясёлага баяніста — дзядзькі Колі. **Дзядзька Коля ведаў шмат папулярных песень, якія граў у адсутнасьць дырэктара лягеру. А ля піянэрскіх вогнішчаў ён, тузануўшы галавой, расьцягваў мяхі й голасна сьпяваў: «Вперёд продвигались отряды спартаковцев, смелых бойцов».** Я падхопліваў песьню, наіўна маракуючы, што спартакаўцы — гэта мабілізаваныя ў войска футбалісты.

Аднойчы старшая піянэрважатая гукнула: **«А зараз усе танцуем «Вальс дружбы»**. У адказ дзядзька Коля зычна ссунуў баянныя мяхі. Ён ня ведаў вальсу, і потым, пасьля адбою, падбіраў мэлёдыю з голасу важатай. Музыцыявалі яны ў лягернай сталоўцы, і мальцы старэйшага атраду казалі, што піянэрважатая пасьля музыцыяваньня села баяністу на калені. А калі той паспрабаваў расшпіліць дзявочую кашулю, стала роспачна адбівацца.



Раз на тыдзень дырэктар лягеру ехаў у горад па харчы, і мы абступалі свайго куміра:

— Дзядзька Коля, збацайце пра Ўругвай.

Песьня тая была відавочна антыпэдагагічнага гучаньня, таму дзядзька Коля сьпярша аднекваўся, а потым, азірнуўшыся на бакі, расьцягваў мяхі.

*Раз мы шли по Уругваю (ваю),*
*Ночь хоть выколи глаза...*

У папулярнай на той час разухабістай песьні гарлалі папугаі, гукалі малпы, і некага сілком, не раўнуючы як старшую піянэрважатую, распраналі.

У ахвоту й без прынукі мы сьпявалі туш. Гэта п’еса фанфарнага складу й выконваецца бяз словаў. Аднак мы зламалі такое правіла. І калі дырэктар уручаў чэмпіёну лягеру па бегу ці яшчэ якой спартовай дысцыпліне грамату, упоравень з баяннымі акордамі, напаўголасу сьпявалі:

*Ко-ро-ва пукнула слегка,*
*Увидев белого быка,*
*Не подыма-а-я хвос-ти-ка!**

І сёньня, з вышыні пражытых гадоў, магу заявіць: гэта была нашая ўлюбёная піянэрская песьня.

-------------

* *Слухачка Э.:* Калі ў сьне пабачыць белага быка, які п’е ваду, гэта значыць, што дзеўчына нарэшце прыме прапанову свайго каханага.
*Рэдакцыя:* Горка!

У кожным горадзе й нават мястэчку была танцпляцоўка. Звычайна гэта быў аточаны мэталёвай сеткай майдан зь невялічкай фарбаванай зялёнай альбо сіняй эстрадай.

## Танцпляцоўка

Пры эстрадзе былі дзьве будкі. Адна для радыста, а другая для музыкаў, дзе яны пераапраналіся, пілі гарэлку, займаліся любошчамі й дзе ставілі на ноч ударную ўстаноўку. **Добрай лічылася танцпляцоўка з драўлянай падлогай.**

Да самага канца 1960-х на танцах ганялі кружэлкі. Самай папулярнай была саракапятка з запісам сьпевака Мануэля. Ён выконваў песьню пад назваю «Tonight». Пры першых акордах на сярэдзіну майдану выбягалі маладзёны, хорам гукалі: «На-чи-най!» — і Мануэль у рыфму пачынаў: **«Тэнай, тэнай».**

Пераломным у гісторыі танцпляцовак стаў 1969 год. Тады ў многіх гарадах утварыліся біт-гурты, якія сталі граць на танцах. Пры гэтым рэпэртуар мусілі ўзгадняць у аддзелах культуры рай- і гарвыканкамаў.

Квіток на танцы за часамі маёй маладосьці каштаваў 30 капеек. Аднак знаходзіліся адчаюгі, якія спрабавалі прайсьці без квітка. Яны пераскоквалі праз мэталёвую сетку*. Сетка была высокая, пад два мэтры, таму станавіліся каму-небудзь на плечы, падцягваліся й з грукатам абрываліся на дашчатую падлогу. **Адразу трэба было зьмяшацца з натоўпам. Ды гэта рэдка каму ўдавалася.** Хлопца звычайна бралі пад пахі дружыньнікі й выводзілі вонкі. Некаторых дастаўлялі ў пастарунак.



Выводзілі з танцпляцоўкі й тых, хто спрабаваў прадэманстраваць элемэнты брэйк-дансу. Уласна, элемэнт быў адзін — так прагнуцца назад, каб патыліцай крануцца падлогі. Апроч таго, выводзілі мальцаў, якія рассыпалі па майдане молаты перац. Гэта быў стары танцпляцовачны жарт: перац лётаў у паветры і ў танцорак потым сьвярбела потная прамежнасьць.

**Доўгі час на танцы не пускалі ў джынсах. Лічылася, што гэта рабочая вопратка.**

У мястэчку, калі на танцах зьяўляўся хтосьці незнаёмы, у яго маглі «папрасіць запаліць». Добра яшчэ, калі незнаёмец тоўкся ў агульным натоўпе. А калі ён быў у мадняцкіх апранахах ды запрашаў на танец самых лепшых дзевак, размовы за бліжэйшымі кустамі яму было не абмінуць.

У Наваполацку, на тым месцы, дзе віравалі ўсе гэтыя жарсьці, пабудавалі школу. І кабеты маіх гадоў, шпацыруючы з унукамі, з сумам выдыхаюць: «А тут калісьці была танцпляцоўка».

---

* *Слухач Н.:* Можа быць: рэкорд Віцебскай вобласьці ў скачках у вышыню складае 229 см.
*Рэдакцыя:* Плюс допінг.

Увосень 1969-га па тэлебачаньні, у нейкай вечаровай праграме, паказалі выступ беларускага вакальна-інструмэнтальнага ансамблю. Ансамбль меў гарэзьліва-народную назву «Лявоны».

## Гурт «Лявоны»

Прасьпявалі «Лявоны» ўсяго дзьве песьні: «Ой, рана на Йвана» й «Ты мне вясною прысьнілася». Наступнага ранку дарогай у школу мы толькі й пыталіся адно аднаго: **«Ну як, глядзеў?»** А на пераменках дружна абмяркоўвалі пабачанае.Сашка Мікуліч, які граў у школьным ансамблі й збольшага разьбіраўся ў інструмэнтах, маўтарытэтна заявіў, што калі б кіраўніку, Мулявіну, даць замест «Музімы» прыстойную гітару, а ўдарніка пасадзіць за «Людвіг» (такая ўстаноўка была ў бітлоў), яны б і не такое сыгралі.

Узімку ў горадзе зьявіліся афішы з надпісам «Ансамбль «Лявоны». Мы з Сашкам Мікулічам за гадзіну да пачатку канцэрту сядзелі ў залі. Другое аддзяленьне «Лявоны» пачалі песьняй, ад якой здранцьвелі нашыя душы й сэрцы. **«Моя гита-ара, пой бесконечно, о том, что в сердце моём», — пранікнёна цягнуў Уладзіслаў Місевіч, тулячы да грудзей флейту.** У залі Палацу культуры нафтавікоў гучала песьня, якую, здавалася, я чакаў усё жыцьцё. І душа лунала недзе пад стольлю, і сэрца парывіста білася, не пасьпяваючы пампаваць гарачую кроў. Гучала знакамітая бітлоўская **«While My Guitar Gently Weeps».**



Неўзабаве той жа Місевіч прасьпяваў «Yesterday», а потым, са страшэнным фурорам, «Лявоны» выдалі «Ob-La-Di, Ob-La-Da». Захапленьню нашаму не было межаў. Пасьля канцэрту давялося стаяць у чарзе ля шатні, а калі нарэшце выйшлі на вуліцу й падаліся да службовага ўваходу, «Лявоны» — усе скрозь у даўгакрысых саматужных кажухах — ужо сядалі ў свой аўтобус. Тут жа ля аўтобуса завіхаўся яшчэ адзін мой сябар — Сашка Мышалоў. «Аўтограф узяў... у Дзямешкі», — захоплена прамовіў сябрук. На паперчыне дзіцячым почыркам было выведзена: «Помни барабан».

Наступным разам у Наваполацак прыехалі ўжо не «Лявоны», а «Песьняры». Мы ізноў пайшлі на канцэрт у спадзеўцы пачуць сёе-тое зь бітлоўскага рэпэртуару, але нічога такога не было.

Пасьля канцэрту, абураныя, кінуліся на сцэну. «Чаму не сьпяваеце бітлоў?» — спытаў я Мулявіна, які, зыркаючы на бакі, скручваў гітарныя шнуры. «Нам дали по шапке, ребятки, — паведаміў галоўны «Пясьняр» і дадаў: — Мы их поём, но так... втихаря...»

Сёньня з настальгічнай усьмешкай згадваю тую размову й зь лёгкім абурэньнем гляджу тэлевізар, калі там паказваюць навачасных «Песьняроў». Сёньня аж тры музычныя брыгады называюць сябе «Песьнярамі», не зважаючы, што ансамбль гэты, як і «Бітлз», належыць гісторыі й існуе ў адным непаўторным экзэмпляры. Як, зрэшты, і гурт «Лявоны»*.

---

* *Слухач В.:* Скончан баль — і скрыпкі ў торбу!
*Рэдакцыя:* Песьня без канца — што кабыла без хваста!

Хрушчоўскай парой вельмі папулярныя былі канцэрты па заяўках, якія перадавалі ўсесаюзнае ды рэспубліканскае радыё. Асабліва іх любіла жаночая аўдыторыя*. Нават васьмідзесяцігадовыя кабеты, ссунуўшы з вуха хусьцінку, падсядалі да радыёкропак.

## Канцэрты па заяўках

Зрэшты, ссоўвалі хусьцінкі не адразу, бо напачатку перадавалі сур'ёзную музыку. Што дзіўна, замаўлялі яе скрозь паспалітыя людзі. **Работнікі лесспрамгасу прагнулі паслухаць фрагмэнт Дзявятай сымфоніі Бэтговэна, комплексная брыгада будаўнікоў — Другі канцэрт Рахманінава**, а бухгальтар зьверафэрмы прасіла ўключыць у канцэрт фінал «Патэтычнай араторыі» Георгія Сьвірыдава. Усе гэтыя замаўленьні былі падрыхтаваныя радыёкарэспандэнтамі, што працавалі ў рэгіёнах.

У другой частцы канцэрту, поруч зь песьнямі грамадзянскага гучаньня, прарывалася да слухача й эстрадная лірыка. Дзеля яе цётухны й сядзелі ля прымачоў. Эстрадны рэпэртуар быў даволі аднастайны, гучалі адны й тыя ж галасы: Трошын, Бэрнэс, П'еха, крыху пазьней да іх далучыліся Кабзон з Крысталінскай.

\- - - - - - - - - - - -

* *Слухачка Ё.:* Мая заяўка прагучала, але вы паставілі іншую песьню, якая мне зусім не падабаецца!
*Рэдакцыя:* Гэта былі ня вы, а іншая слухачка Ё.



У другой палове 1960-х грамадзянскія песенныя ідэалы зьлёгку пажухлі. І на канцэртах па заяўках пачалі пракідацца песенькі, якія ўжо не заклікалі слухачоў да працоўных зьдзяйсьненьняў. Іншай стала й атмасфэра перадачы. Раней канцэртныя нумары абвяшчалі як на тым партсходзе. **Цяпер у галасах вядоўцаў зьявілася душэўнасьць.** Зьмянілася й парадыгма канцэрту па заяўках. На ім сталі гучаць віншаваньні юбілярам.

«А цяпер музычныя падарункі сямідзесяцігадовым юбілярам», — барытоніў вядоўца. «Вось што пішуць нам дзеці Праскоўі Іванаўны Хрушч з Полацкага раёну: **«Наша мамачка выгадавала семярых дзяцей, неаднаразова ўзнагароджвалася граматамі праўленьня калгасу...»** Далей ішоў пералік працоўных дасягненьняў Праскоўі Іванаўны, і слухачак, што сядзелі ля прымачоў, пачынала цягнуць на сон.

Былі на канцэртах і свае гіты. На пачатку 1970-х ніводны канцэрт не мінаўся без расейскай народнай песьні **«Утушка луговая»**, а ў сярэдзіне дзесяцігодзьдзя слухачоў даймаў салодкі тэнарок Генадзя Бялова: «Травы, травы, травы не успели...» Зь беларускага рэпэртуару безумоўным лідэрам быў «Дубочак зялёненькі» квартэту «Купалінка».

Сёньня музычныя віншаваньні завалодалі этэрам, і ніхто іх канцэртамі па заяўках не называе. І ўсё ж словазлучэньне гэтае захавалася ў людзкой памяці. І калі нейкі падпіты дзядзька зацягне песьню з рэпэртуару Генадзя Бялова ці дзятва раздурэе, старыя цёткі зь лёгкім дакорам і ўвадначас з захапленьнем прамаўляюць: «Ну... канцэрт па заяўках!»

У канцы 1960-х на эстраднай сцэне пачалася перабудова. Поруч зь песьнямі, што ўслаўлялі партыю, армію й камсамол, стала прыжывацца напеўная лірыка. Адным з прарабаў песеннай перабудовы быў Вадзім Мулерман.

## Мулерман Вадзім

Ён заявіў пра сябе вясёлай песенькай пра караля, які, пабіты, на мыліцах, вяртаўся з вайны. Песенька займела саракапятку (монакружэлку на сорак пяць абаротаў) і ўелася ў памяць няўцямным прыпевам: **«Терьям-терьям-рими-терьям».**

Наступныя песьні Мулермана панурылі слухачоў у празрыстую глыбіню юначага каханьня й мінорнай адзіноты. «Подрастают наши младшие сестрё-онки», — сьпяваў, правакуючы настальгічныя ўздыхі, Вадзім Мулерман. **«Детство моё, постой...» — барытонеў сьпявак, выціскаючы сьлязіну ў пяцідзесяцігадовых кабет.**

У 1968 годзе Вадзім Мулерман выканаў, як потым высьветлілася, даволі неабачліва, песеньку, якая вяртала да жыцьця забытае слова «лада». «Хмуриться не надо, лада; хмуриться не надо, лада...» — аксамітны мулерманаўскі барытон апавіў тады ўсю краіну. Зь лёгкай рукі аўтара тэксту, паэта Міхаіла Пляцкоўскага, Ладамі сталі называць сьпеўныя квартэты й сэкстэты, пральныя машыны, прагулачныя вадаплавы,



нарэшце, малалітражныя аўтамабілі. **Але й гэта ня ўсё: Ладамі сталі называць немаўлят.**

Яшчэ адну папулярную мулерманаўскую песьню круцілі на танцах. «А любовь-то есть, оказывается-а! Есть!» — з жарсьцю выдыхаў сьпявак, і заўсёднікі танцпляцовак хорам падпявалі: «Есть... на пузе шерсть!». Згадвалі, праўда, і іншыя часткі цела.

Сьпявак часьцяком зьяўляўся на эстрадзе з жонкай, сьпявачкай Веранікай Кругловай. Іхны дуэт уяўляў гарманічны **сымбіёз густога барытону й гарэзьлівага сапрана.** «Ла-ла-ла-ла; ля-ля-ля-ля-ля-ля», — лагодзіла слых сямейная пара, аднак сьпяваць ёй давялося нядоўга. Нечакана Вадзім і Вераніка зьніклі з этэру. Надарылася гэта ў 1971 годзе. І самай яскравай праявай зьнікненьня стаўся перазапіс мулерманаўскай песьні «Трус не играет в хоккей». Цяпер напярэдадні хакейных матчаў публіку ў палацах спорту вітаў аптымістычны голас Эдуарда Хіля. Усё сьведчыла пра адно: дуэт падаўся на Захад*.

Летась выпадкова ўбачыў на тэлеэкране незнаёмага мужчыну сталага веку. Ён **распавядаў, як працаваў таксістам у Нью-Ёрку, як падпрацоўваў сьпевамі ў кавярнях.** Нарэшце, на просьбу вядоўцы праграмы, падняўся з крэсла, засьпяваў, і я, разам з тысячамі іншых гледачоў майго веку, прашаптаў: «Вадзім Мулерман».

---

* *Слухач Ю.:* Цікава ведаць: калі кастраты згубілі свае пазыцыі ў опэры, Моцарт даручыў арыю Дон Жуана барытону.
*Рэдакцыя:* На яго месцы так зрабіў бы кожны.

У 1960-я нават сьпевакоў з братніх краінаў сацыялізму паказвалі па тэлевізіі гады ў рады. Але ў глухім муры была шчыліна — міжнародны фэстываль эстраднай песьні ў польскім горадзе Сопаце. Ладзіўся ён ад 1961 году, і яго цалкам трансьлявала савецкая тэлевізія.

## Фэстываль Сопацкі

Дагэтуль гучыць у вушах рыплівы голас **Ірэны Дзедзіц**, якая абвяшчала фэстывальныя нумары (палякі казалі, што яна была каханкай тадышняга польскага прэм'ера Цыранкевіча), ды аксамітнае сапрана Элеаноры Бяляевай, якая камэнтавала фэстывальную дзею ў этэры.

Яшчэ чамусьці ў вушы ўбілася песьня з самнамбулічным прыпевам: **«Боли не будет, будет музыка; смерти не будет, будет музыка...»**. Яе сьпявала грузінка Гюлі Чахелі, ляўрэатка конкурсу 1967 году. Памятаю, сусед з восьмай кватэры, які прыйшоў з жонкай паглядзець фэстываль, выдаў усьлед трагічнае прадказаньне: «Піва ня будзе, будзе музыка»*.

Наступным годам надарылася неверагоднае: савецкія выканаўцы засталіся бяз прэміі. Найлепшай прызналі песьню «Po ten kwiat czerwony» ў выкананьні Ўршулі Сіпіньскай — высокай белатварай кабеты са спаленымі пэргідролем валасамі.

Сопат'69 даўся ў знакі выступам Мусьліма Магамаева. «Тобой, лишь тобой одно-ой всё озарено-о в этот день», — поўніў навакольле манумэнтальны барытон. Магамаеў сьпяваў, мабілізуючы ўсю вакальную моц, і высілкі такія мелі плён: савецкі выканаўца заслужана атрымаў першую прэмію.

Сопат'70 прадэманстраваў тое, чаго мы даўно чакалі. На сцэну выйшаў гурт Джэфа Хрысьці й выканаў знакамітую «Yellow River». «Yellow River, Yellow River is in my blood, it's the place I love», — бязгучна падпявалі мы ангельскім сьпевакам, ліхаманкава паглядаючы на ўзровень запісу падключанага да тэлевізара мага. За адным махам запісалі Марылю Радовіч зь яе гітом «Jadą wozy kolorowe» ды, выпадкова, пачатак вітальнай прамовы члена журы конкурсу Леаніда Ўцёсава. **Клясык савецкай эстрады казаў, што сапраўдны артыст мусіць сьпяваць сэрцам, пасьля чаго быў абсьвістаны аўдыторыяй.**

Такое абыходжаньне з клясыкам, хай і безгалосым, а таксама адсутнасьць сярод ляўрэатаў савецкай сьпявачкі Галіны Нянашавай (першыя прэміі атрымалі канадзец ды брытанка) зьвялі сопацкія тэлетрансьляцыі на пусты канец.

У 1971-м фэстываль паказалі фрагмэнтарна: Марыя Кадрану прасьпявала «Баляду пра фарбы», мільганула Зьдзіслава Сасьніцка, яшчэ пара невядомых выканаўцаў, і на экране зьявілася застаўка праграмы навінаў.

Шчыліна ў ідэалягічным муры, што аддзяляў нас ад цывілізацыі, была замураваная, і мы ўжо не маглі пабачыць у жывой трансьляцыі Сопацкага фэстывалю.

---

* *Слухач Г.:* Будзе ў вас калі-небудзь праўда ці не — я зь дзявятай кватэры!
*Рэдакцыя:* А піва будзе?

Самым вядомым і папулярным сьпеваком у сярэдзіне 1960-х быў Мусьлім Магамаеў.

## Магамаеў Мусьлім

**Ён нарадзіўся ў інтэлігентнай бакінскай сям'і.** Ягоны дзядзька займаў у Азэрбайджане высокі партыйны пост, і, маючы такія тылы, Магамаеў не паскудзіў сваёй біяграфіі членствам у КПСС. І адрозна ад таго ж Ёсіфа Кабзона, яму ня трэба было барвавець ад натугі, выконваючы песьні пра камсамол.

Зрэшты, вядомасьць Магамаеў набыў дзякуючы песьні грамадзянскага гучаньня: у дваццаць гадоў выканаў на сцэне крамлёўскага Палацу зьездаў «Бухенвальдский набат». Публіку ўразіў драматычны барытон маладога сьпевака, несавецкая зьнешнасьць і манера выкананьня. **Сьпяваў Магамаеў з опэрным размахам, разьдзьмуўшы ноздры, раскрыліўшы рукі, і быў падобны да рэактыўнага Ту-104 на ўзьлёце.** Пасьля таго набыў папулярнасьць і «Бухенвальдский набат». Песьню сталі выконваць хоры мастацкай самадзейнасьці, якія за хрушчоўскім часам былі ледзь не на кожным прадпрыемстве.

У 1964 годзе Мусьлім Магамаеў стажаваўся ў мілянскім тэатры Ля Скаля. Адтуль ён прывёз пару балёньневых плашчоў і некалькі навачасных італійскіх песень. Сярод іх была песенька «В дорогу». Народ яе называў больш мудрагеліста: «Эгэ-гэй, халі-галі». На яе матыў стварылі процьму саматужных тэкстаў: і «Самагон самі гонім, самагон самі п'ем», і «Каменный век, пещера среди гор», і «26-го — все люди крепко спят...» — гэта пра ташкенцкі землятрус.



Аднак самым забойным магамаеўскім гітом была **«Королева красоты»**. У жаночых інтэрнатах кружэлку з запісам «Королевы» круцілі амаль няспынна.

У 1966 годзе Магамаеў зьнік. Нарадзіліся самыя неверагодныя чуткі. **Казалі, што Магамаева пасадзілі за згвалтаваньне й што сьпявачка Мая Крысталінская пасьля таго спрабавала засіліцца.** Як доказ згадвалі хусьцінку, якую сьпявачка стала завязваць на шыі. Насамрэч Магамаеву ўчынілі ідэалягічную прафіляктыку пасьля таго, як ён паспрабаваў застацца на год у Францыі.

Вяртаньне «бакінскага салаўя» на эстраду было трыюмфальнае. І апагеем трыюмфу стала песьня «Свадьба». «А где-то свадьба, свадьба, свадьба пела и плясала», — сьпяваў Магамаеў.

У песьні было столькі патаснага бязьмежжа, у голасе сьпевака — столькі трапяткой асалоды, што жанчыны-саракоўкі мэдытатыўным чынам станавіліся нявестамі й ляцелі на конях па вясковай праселіцы, і поруч, абдымаючы іхны распаўнелы стан, ляцеў жаніх — зорка савецкай эстрады Мусьлім Магамаеў*.

---

* *Слухач У.:* Чаму Мудроў нічога не сказаў пра міністра, пасла, члена ЦК Палада Бюль-Бюль аглы, празванага ў народзе салавей, сын салаўя?!
*Рэдакцыя:* У Мудрова самога такое прозьвішча, што як ён не сказаў, так і будзе.

Кішэнныя радыёпрымачы, кажучы сучаснай мовай, былі напраўду забойнай фішкай. Яны атрымалі назву транзыстараў.

## Транзыстары

Калі ў пачатку 1960-х на людной вуліцы зьяўляўся маладзён, у якога са штаноў гучала клясычная музыка, усе з зайздрасьцю глядзелі яму ўсьлед, а вясковыя бабулі нават хрысьціліся.

Памятаю сваё захапленьне, калі мне далі патрымаць «Неву» — першы савецкі кішэнны радыёпрымач. У вольным продажы такога дзіва не было, і зьявіліся майстры, якія сталі іх саматужна зьбіраць. Балазе, адпаведныя радыёсхемы друкаваліся ў часопісе «Радио». Дэталі выносілі з заводаў, сёе-тое прывозілі з войска. У якасьці корпусу выкарыстоўвалі звычайную мыльніцу.

Хутка зьявіліся транзыстары маркі «Старт» і «Мечта». Яны былі большыя і ўжо ня лезьлі ў кішэню. **Неўзабаве транзыстары сталі выпускаць у скураным чахле й з даўгім раменьчыкам.** Цяпер іх можна было насіць, як і фотаапараты — на плячы.

Пры канцы 1960-х зьявіўся першы пераносны транзыстар з кароткімі хвалямі, называўся «Спидола». Каб яго набыць, адмыслова езьдзілі ў Рыгу, дзе іх выраблялі. Крыху пазьней у крамах сталі зьяўляцца «ВЭФы» й менскія «Акіяны». Паміж іх уладальнікамі адразу ж узьнікла спрэчка: які прымач лепшы? «ВЭФ» быў таньнейшы



(каштаваў 90 рублёў з капейкамі), лягчэйшы й больш якасны ў гучаньні. **Затое наш «Акіян» меў драўляны корпус, і гэта кампэнсавала ўсе яго недахопы.**

Летам 1971 году вечаровыя вуліцы поўніліся замарачным шумам глушылак, песьнямі савецкіх кампазытараў і поклічамі радыёстанцыі «Юность».

Узьнікла мода — прайсьціся з транзыстарам па бродзе («бродам» называлі цэнтральную гарадзкую вуліцу). Насілі прымач на левай паўсагнутай руцэ, а правай круцілі ручку настройкі. Антэну пры гэтым трэба было выцягнуць на поўную даўжыню. **Ішлі паволі, валюхаста, з пачуцьцём уласнае годнасьці.** Звычайна настройваліся на музычны канал. У крайнім выпадку ўрубалі «Голас Амэрыкі». На той хвалі звычайна лютавала глушылка. Праўда, уключыўшы «Voice of America», часам азіраліся — ці не ідзе сьледам міліцыянт. За дэманстратыўнае праслухоўваньне «варожых галасоў» можна было патрапіць у пастарунак.

З транзыстарамі па бродзе хадзілі толькі адно лета. Прымачоў стала шмат, а калі ён у кожнага ў руках, гэта ўжо ня модна.

Многія з тых прымачоў яшчэ й сёньня працуюць. Зайдзі ў кухню да любога старога адраджэнца. Што пабачыш на падваконьні? Правільна... Пашарпаны транзыстар*.

---

* *Слухачка П.:* І чайны грыб! Дапамагае ад печані, танзыліту, энтэракаліту, дыфтэрыі, тыфу, грыпу, ангіны, гемарою, гіпатаніі, раку, эпілепсіі й запораў, а таксама працьвярозьвае! Званіце (...) 91-272-97.
*Рэдакцыя:* Мы ня п’ем.

Калі ідэалягічны кантэкст стаў губляць ранейшыя дакладныя арыенціры, у сярэдзіне 1960-х савецкая эстрада пачала вэстэрнізавацца — дакладней, італізавацца.

## Гаравец Эміль

У этэры загучалі песенькі Сан-Рэма, пакладзеныя на нехлямяжыя расейскія тэксты. Сьпяваў іх, афарбоўваючы сьціплы побыт савецкіх слухачоў крозаю сьвяточнасьці, дагэтуль нікому не вядомы Эміль Гаравец. Спачатку ён прасьпяваў гарэзьлівую канцанэту «Люблю я макароны», потым «Музыку» кампазытара Маскероні. Нарэшце, пад скляпеньнямі канцэртных заляў залунала знакамітая «Катарина».

— Ка-та-ри-ина, ну дела, — «Ну, дела», — падпявалі Гараўцу саксафаністы аркестру, падхапіўшыся на ногі.

У майго сябра была кружэлка з «Катариной», дык мы, гарэзы, сабраўшыся пасьля ўрокаў, часта яе круцілі. Гучнасьць рабілі на поўную шпулю, ды яшчэ дапамагалі саксафаністам, гарлаючы разам зь імі, апрача «Ну, дела», яшчэ «Охохо» і «Брось, сними!». Неўзабаве прыходзіла стогадовая бабуля, якая жыла паверхам вышэй, паведамляла, што яе мучае галаўны боль і што яна пойдзе скардзіцца на нас участковаму*.

* *Слухачка Ё.:* Я таксама дазванілася да Мудрова, ён засьпяваў, і зараз я сама іду ў міліцыю.
*Рэдакцыя:* Аўдыётэрарызм ня пройдзе!



На тле сёньняшняга электроннага саўнду выканальніцкія навароты 1960-х выклікаюць усьмешку. Між тым у Гараўца было тое, чаго няма ў сучасных сьпевакоў. У яго быў голас. Лёгкі й рухавы тэнар, зь якім ня сорамна было зьявіцца нават на сцэне мілянскай Ля Скалі.

**Гаравец прынцыпова не сьпяваў песень пра партыю й камсамол, ды яшчэ не забыўся, як іншыя ягоныя супляменьнікі, на свае карані й пэўны час гастраляваў па краіне з праграмай габрэйскіх народных песень.** Праграму гэтую неўзабаве прыкрылі. За брэжнеўскім часам на сцэне, як паказьнік росквіту нацыянальнай палітыкі, у кожным канцэрце выконваліся песьні й танцы народаў СССР. Але габрэйскія песьні й танцы былі пад забаронай.

Дэманстрацыя сьпеваком нацыянальнай існасьці не засталася без увагі кампэтэнтных органаў, і ў 1972 годзе Эміль Гаравец вымушаны быў эміграваць. Напярэдадні ад'езду ён пабываў з канцэртамі ў Беларусі й выступаў у маім Наваполацку.

На Захад тады падаліся многія майстры савецкай эстрады: Мондрус, Татлян, Мулерман, Вядзішчава, Бродзкая. **Запісы зь іхнымі г аласамі размагніцілі, і больш пра тых майстроў ня згадвалі.** А Гараўца згадвалі як СМІ, так і ідэалягічныя работнікі. Яны сьцьвярджалі, што Гаравец, седзячы ў Амэрыцы, кроіць скуры ў нейкай саматужнай майстэрні. Насамрэч той па-ранейшаму сьпяваў і ўвадначас працаваў на радыё.

Памёр сьпявак у 2001 годзе. І дай Бог, каб у XXI стагодзьдзі на абшарах былога Саюзу нарадзіўся чалавек з такім прыгожым тэнарам, які быў у Эміля Гараўца.

Перадавая савецкая навука абвясьціла на пачатку 1970-х пра стварэньне новай гістарычнай супольнасьці — савецкага народу. Народу, які ў рабочых спэцоўках, бастонавых гарнітурах і скафандрах асвойваў космас, змагаўся за мір і будаваў сьветлую будучыню.

# Трусы сямейныя

**У адзіную супольнасьць** народ аб'ядноўвала **памежная варта, якая трымала межы на замку, ды такая важная дэталь туалету, як мужчынскія трусы, вядомыя пад назвай сямейных.** Былі яны аднаго неабдымнага фасону, шыліся з чорнага сатыну й насіліся ад берагоў Сожу да Бугу. Сатын у працэсе нашэньня выціраўся й выгараў, набываючы бляклала-шэры колер.

Былі ў гэтай мужчынскай бялізьне яшчэ дзьве праблемы: калашыньне трусоў сьпераду камечылася ў гафрэ, агаляючы элемэнты таго, што было пад імі. Другая праблема — гумка, якая з часам пераціралася, напятасьць слабела, і трусы паволі спадалі. Добра, калі яны пачыналі спадаць дома.



А калі падчас выступу на партыйным сходзе? У такой сытуацыі адно выйсьце — раскалупаць лядашчы сатын, выцягнуць сантымэтраў на дзесяць гумку й завязаць вузлом. Вузел, што праўда, муляў бок, але трусы трымаліся. **Для тых, хто ніколі не завязваў такіх вузлоў, паўтару: іншых фасонаў у продажы не было.**

«Сямейнікі» шылі зьняволеныя жанчыны ў гомельскай калёніі УЖ-15/4. Абазнаныя людзі, перш чым нацягнуць абнову, няўцямна мармыталі: «З «чацьвёркі».

Трусы хоць і называлі сямейнымі, але ў іх хадзілі й на пляж, і да ўроляга, і, дапушчаю, нават да каханкі.

Вядомы скульптар савецкага часу Заір Азгур зрабіў безьліч помнікаў адзеньню. Вось Якуб Колас сядзіць на плошчы свайго імя ў штанах з адваротамі. А вось на плечы Сталіну чуйная разьбярская рука сьцярожка накінула шынель. Згадаю й піянэра ў караткаватых, за калена, нагавіцах з гузікамі ўнізе.

**Дзіўна, але няма помніка чалавеку ў сямейніках.** Зьбіральны вобраз гіпсавага беларуса савецкага часу асабіста мне ўяўляецца мужчынам сарака зь лішкам гадоў. Крыху гарбаваты, з пукатым чэравам, галава ссунутая наперад у чаканьні сьветлага заўтра. І левая рука прытрымлівае нацягнутыя вышэй пупа трусы сямейныя*.

-------------

* *Слухачка Ж.:* Ну гэта ўвогуле — да такога даўмецца!
*Рэдакцыя:* Стараўся.

Са школай многіх зьвязваюць сьветлыя пачуцьці. Хтосьці згадвае першае каханьне, нехта — першую настаўніцу, іншыя з журботнай усьмешкай думаюць пра бярозкі й клёны, што сустракалі іх ля школьнага ганку. Мае ўспаміны маюць вэрбальны характар: пры слове «школа» памяць пачынаюць сьвідраваць вершыкі, якія выгукваў на ранішніках ды зборах і якія іначай як заняпадам лексычнай культуры не назавеш.

## Літ-ман-таж

Савецкія сьвяты адзначалі ў школе паэтычнымі штудыямі, якія менавалі мудрагелістым словам «літмантаж». Напярэдадні сьвята клясная кіраўнічка альбо піянэрважатая раздавала паперчыны зь вершамі. Сьвяточным днём мы мусілі наперамменку чытаць іх са школьнай сцэны.

«Они сегодня думают о том, чтобы людей побольше уничтожить», — пачынаў нехта зычна й звонкагалоса. «А мы за домом строим новый дом, и те дома хотим ещё умножить!» — тураваў яму другі чытальнік.

«Они готовят новую войну и бомбой атомной грозят народам», — прамаўляла чорнавалосая выдатніца. «А мы растём...» — здушана мармытаў бялявы двоечнік і зацкавана апускаў галаў. У залі, дзе сядзелі першаклясьнікі, прабягаў трывожны гоман. «А мы... растём...» — падганяла з-за кулісаў піянэрважатая. Небарака, аднак, маўчаў, яшчэ больш панурваў галаву, і вушы яго-



ныя хваравіта пунсавелі. «Спокойно... в вышину...» — шапятліва падказвала выдатніца. Двоечнік маўчаў, і піянэрважатая, з інтанацыяй гістэрыкі, гукала: «А мы растём спокойно в вышину под нашим мирным, светлым небосводом! — і, выцершы ўпрэлы лоб, суцішна дадавала: — Звар'яцець можна».

Падобныя замінкі надараліся вельмі часта. Стаяла задача ахапіць літмантажом ня толькі кемлівых ды звонкагалосых, але й тугадумлівых ды шапялявых.

Асабліва запомніліся літмантажы з нагоды **жаночага сьвята 8 сакавіка.** Пачыналіся яны паэтычным аповедам пра нядбайнага сына. **«Усталая с работы пришла под вечер мать и видит, что у сына не прибрана кровать...»** Вершы гэтыя мы чыталі са сцэны сем гадоў запар. На маю долю ўвесь час выпадалі радкі: «Ты, мама, про Гайдара мешаешь мне читать» (меўся наўвеце дзед вядомага расейскага рэфарматара — пісьменьнік Гайдар). У трэцяй клясе я з такім натхненьнем выгукнуў тэкст, што нават пукнуў ад паўнаты пачуцьцяў*.

**Літмантажная паэзія, як выглядае, найбольш запала ў душу літаратурным рэдактарам.** Я бачыў у адной рэдакцыі паэтычны рукапіс, шчодра пакрэсьлены й пазначаны забойнай, з прадзіраньнем паперы, высновай: «Літмантаж!».

---

* *Слухач А.:* Шпэнглер лічыць, што кожнае прыватнае жыцьцё зь неабходнасьцю паўтарае ўсе эпохі цывілізацыі, да якой належыць.
*Рэдакцыя:* Вы звужаеце філягенэз Гэкеля да адзінкавай культуры.

За саветамі амаль усе напоі прадаваліся ў шкляным посудзе, і здаць яго потым было вялікай праблемай.

## Шклатара

Перш як несьці шклатару на пункт прыёму, бегалі спраўджваць — якія бутэлькі прымаюць. Потым таропка клалі посуд у сеткі й подбегам, з гучным бразгатам, выбягалі з кватэры. **Сьпяшацца было чаго: пакуль дабяжыш да пункту прыёму, там можа зьявіцца абвестка: «Бутэлек не прымаем. Няма тары».** Пісаліся абвесткі на абрыўку шэрай абгортачнай паперы й падпісваліся гучным словам «Адміністрацыя».

Бутэлькі прымалі ня ўсе. З-пад імпартнага віна ня бралі зусім, з-пад шампану й аб'ёмам 0,7 літра калі й бралі, дык вельмі рэдка. Самыя хадавыя былі паўлітровыя бутэлькі. За іх давалі 12 капеек.

Прыёмшчыца ўважліва правярала кожную бутэльку, тыцкаючы пальцам у рыльца. Калі рыльца хоць крыху вышчарбленае — адстаўляла бутэльку ўбок. Падазроныя пляшкі нюхала. Калі якая пахла самагонкай — таксама адстаўляла. Да сярэдзіны 1960-х самую папулярную тады «Маскоўскую гарэлку» закаркоўвалі з дапамогаю белага сургучу. Яго трэба было абабіць. **У сярэдзіне 1970-х загадалі зьдзіраць з посуду налепкі. Дзеля гэтага поўнілі ванну й запускалі туды бутэлькі. Налепкі адклейваліся й падалі на дно.**



У каго не было ванны, тым даводзілася, з мацюкамі, скрэбці шклапосуд нажом.

Пунктамі прыёму шклатары былі нягеглыя, сто гадоў не рамантаваныя летнія павільёны, якія стаялі на задніх дварах. **Людзі (а зьбіраліся звычайна вялізныя чэргі) стаялі на двары й выстаўлялі бутэлькі ў невялічкае акенца.** Пункты прыёму былі з трох бакоў застаўленыя паламанымі скрынямі. Я быў сьведкам, як нейкія хлопцы, прачытаўшы аб'яву, што тары няма, прынесьлі з дому малаток і цьвікі й давялі да ладу некалькі скрыняў. За гэта прыёмшчыца ўзяла іхны посуд.

Вялікай праблемай было й здаць слоікі, асабліва малой ёмістасьці. Аднойчы, у чарзе ля пункту прыёму, я пачуў размову, якая кардынальна зьмяніла мае кулінарныя густы. Адна цётка прынесла здаваць слоікі з-пад маянэзу, і яе знаёмая, скасіўшы на іх вока, паведаміла:

— А я маянэзу ніколі не бяру.

— Чаму? — запыталася ўладальніца слоікаў.

— У іх мачу здаюць. А потым мэдсёстры мыюць ды сюды прыносяць.

Пасьля той размовы я не ўжываю маянэзу.

Праблема здаваньня бутэлек падымалася ў друку. Пра тое пісала нават «Литературная газета». На той час гэта цягнула на палітычнае вальнадумства. Відаць, развал Саюзу й пачаўся з праблемных артыкулаў пад назваю «Дзе здаць шклатару?»*.

\- - - - - - - - - - - - -

* *Слухач Р.:* Вы хоць самі разумееце, што кажаце?!
*Рэдакцыя:* Як казаў сьвяты Аўгустын: «Si nemo ex me quaerat, scio; si quaerenti explicare velim, nescio».

Я й мае адналеткі прачыналіся ад бразгату на калідоры: маці ставілі раніцою чайнік на керагаз.

## Керагаз

Загнанае ў бараکі насельніцтва гатавала ежу на керагазах альбо на прымусах. У цёмных барачных калідорах яны стаялі шыхтом, каля кожных дзьвярэй. Страшныя, закураныя. І адранку, калі іх разам запальвалі, у калідоры было не прадыхнуць ад густога смуроднага чаду.

**Самымі папулярнымі былі керагазы зь дзьвюма фаеркамі вытворчасьці Віцебскага заводу мэталёвых вырабаў.** У віцебскіх керагазах, дзеля бясьпекі, ёмістасьць з газай месьцілася збоку, на пэўнай адлегласьці. Але ўсё адно былі выпадкі, калі яны выбухалі сінім агнём. Апавядалі, як адна жанчына так згарэла. Керагаз успыхнуў, падпаліўшы спадніцу.

Да керагазаў прыкладаліся інструкцыі карыстаньня. Я па адной такой інструкцыі вучыўся чытаць, і на ўсё жыцьцё запомніў, што нельга ўжываць бэнзін замест газы, пераносіць запалены керагаз зь месца на месца й трымаць яго запаленым больш як тры гадзіны запар. А яшчэ



запомніў, што нельга дапускаць поўнага выгараньня газы, бо ад гэтага псуецца кнот.

Прымус быў больш дасканалы эстэтычна: **ён увесь быў увабраны ў мэталёвы кажух са сьлюдзяным акенцам пасярэдзіне.** Празь яго было відаць, гарыць агонь ці не. Газа падавалася да фаеркі помпай, і прымус, калі на ім штосьці смажылі, ціхенька сіпеў.

Прадавалі газу ў адмысловых крамах — несамавітых цагельных будках. Стаялі яны звычайна на гарадзкой ускраіне. Літар газы каштаваў 4 капейкі. Яе налівалі з дапамогаю рознакалібровых леек у бутэлькі, 20-літровыя бітоны ды ў іншы закрыты посуд. **Яшчэ ў тых крамах прадаваліся кнаты для керагазаў — шырокія, сплеценыя з баваўняных нітак стужкі. Завозілі іх рэдка, па іх адразу выстройваліся чэргі, і бралі кнот ня толькі сабе, але й для сяброў ды знаёмцаў.**

Керагаз цяпер — гістарычны ўтыль, згадка далёкай маладосьці. Аднак суворыя рэаліі часу й новыя цэны на газ, якія выстаўляе Расея, могуць вярнуць яго да жыцьця*.

І, магчыма, раніцою зноў будзеш прачынацца ад груку. І на мяжы явы й сну ў думках паклічаш маці. І толькі тады ўцяміш, што гэта ўнук вярнуўся на золку з пагулянкі й паставіў чайнік на керагаз.

-------------

* *Слухачка Я.:* Вы хоць разумееце, што сказаў сьвяты Аўгустын?!
*Рэдакцыя:* Калі не пытаюцца — разумеем, калі трэба патлумачыць — ня ведаем. Не раўнуючы як саюзная дзяржава.

Гаворка не пра паэтычныя зборнікі, а пра агульныя сшыткі, куды дзяўчаты запісвалі розную непатрэбшчыну.

## Сьпеўнік дзявочы

У тых сшытках можна было знайсьці тэксты папулярных песень, мудрагелістыя выслоўі, гісторыі пра школьныя любошчы, варажбу («Спатыкнесься — чакай знаёмства з хлопцам»), а таксама інтымныя дзёньнікі.

**Старонкі сьпеўніка багата ілюстраваліся — як малюнкамі ўладальніцы, так і часопіснымі здымкамі сьпевакоў ды актораў.** На той час пра нейкі там глямур не было й гаворкі, здымкі выразалі з часопісу «Здоровье» ды бюлетэню «На экранах Беларусі». Ляпілі й фатакарткі актораў. Яны прадаваліся ў газэтных шапіках, 9 капеек за штуку.

Аднак пачынаўся сьпеўнік эстэтычнай дыспазыцыяй. На першай старонцы, пад жарай вяргіняй, месьціўся пералік: мой улюбёны колер — блакітны; мая ўлюбёная кветка — незабудка; маё ўлюбёнае імя — Віталік; мой улюбёны актор — Алег Відаў. Пералік быў даволі зьмястоўны — тут табе й песьні, і фільмы, і нават свойскія жывёлы. **Некаторыя пісалі й імя каханага хлопца, але гэта рабілі самыя сьмелыя й адчайныя.**

Прысутнічала й паэзія. Гэта былі вершы паэта Эдуарда Асадава. Прынамсі, верш «Шли, смеясь, по набережной хмурой парень со спортивною



фигурой и девчёнка — тонкий стебелёк» быў у кожным сьпеўніку. Слова «девчонка», дарэчы, пісалі праз «ё», і наагул сьпеўнікі стракацелі памылкамі. Яшчэ адным гітом быў верш ананімнага аўтара з наступным зачынам: **«Появился у нас мальчишка в классе — красив, как вешняя заря».**

Празаічны разьдзел зьмяшчаў шчымлівыя аповеды пра каханьне сяміклясьніцы й дзесяціклясьніка. Герой пры канцы аповеду гінуў — яго забівалі хуліганы. **І калі небарака, з нажом у сэрцы, падаў, з-пад крыса балёньневай курткі выпадалі тры чырвоныя ружы, якія нёс каханай.**

Апошні разьдзел складаў дзёньнік. Пісаўся ён, як правіла, у інфантыльна-гарэзьлівым ключы. Кшталту: «Хімічка, зараза, уляпіла двойку. Кантрольная па геамэтрыі — 3. Увечары хадзілі зь Іркай на танцы. Круцілі на ўсе 5!»*

Сьпеўнік хавалі ад чужых вачэй і давалі пачытаць толькі самым блізкім сяброўкам. Здаралася, што хлопцы-аднаклясьнікі яго перахопвалі й пачыналі публічнае чытаньне — з рогатам і нецэнзурнымі камэнтарамі. Потым, праўда, вярталі, намаляваўшы пад вокам улюбёнага актора сіні ліхтар і забясьпечыўшы кіназорку мужчынскім начыньнем неверагодных памераў. Былі выпадкі, што дзяўчаты потым пераходзілі ў іншыя школы, а то й рэзалі сабе вены.

Так што гэта была страшная рэч, дзявочы сьпеўнік.

---

* *Слухачка Ў.:* На фільмаскоп не прыйшоў, на веліку не катаў, а сьпеўнік стырыў. Давайце адрас!
*Рэдакцыя:* Няма таго, што раньш было… Адрас: mudrou@tam.by

Знакам высокага сацыяльнага статусу за савецкім часам была пыжыкавая шапка. Набывалі пыжык у закрытых размеркавальніках, і яго насілі збольшага кіраўнікі найвышэйшага рангу. У 1960-я прыстойнай зімовай шапкі дастаць было амаль немагчыма.

## Пыжык

Вечаровай парою хадзіць у футравай шапцы было небясьпечна: яе маглі зьняць злодзеі. Маглі таксама скрасьці з шатні, таму гардэробшчыкі часта адмаўляліся іх прымаць.

Распавядалі страхотлівую гісторыю пра двух злодзеяў, якія кралі шапкі ў вакзальных прыбіральнях. Заходзілі ў суседнюю кабінку, цягнулі руку празь перагародку, здымалі зь якога ёлупня галаўны ўбор, і, пакуль той нацягваў штаны, зьнікалі ў вакзальным натоўпе*.

Як сьведчаць абазнаныя людзі, менавіта з-за пыжыка пры канцы 1960-х зьнялі з тэлеэтэру перадачу **«Клуб весёлых и находчивых»**. Там адзін студэнт згадаў песеньку «Чыжык-пыжык, дзе ты быў?», а другі студэнт паведаміў, што чыжык прыляцеў, а пыжык і дагэтуль не зьявіўся.

-------------

* *Слухач Ш.:* Ёлупень — на санскрыце BhautaprAya SaMskAra Dhakhola, што азначае «нехлямяжы, які яшчэ не ачысьціўся, ужо бяз шапкі».
*Рэдакцыя:* А на дзяржаўнай мове: «Ідыёт самы настаяшчы».



Адзіны фасон, які быў у продажы, гэта вушанка з чорным дэрматынавым верхам. Іх потым нацягнулі на вушы віетнамцы, што прыехалі да нас на вучобу, і шапкі ад той пары сталі называць віетнамскімі. **Зімою пасланцы братняй краіны мерзьлі ў тых вушанках, і нашыя жартуны, ляпнуўшы якога пасланца па сьпіне, жартам пыталіся: «Ну што, зьмерз, Маўглі?»**

Праз адсутнасьць зімовых шапак многія хадзілі зімою ў кепурках, нацягваючы іх то на адно, то на другое зьмерзлае вуха. **Верхам раскошы была шапка з фарбаванага ката.** Хто з маладзёнаў яе насіў, абавязкова адрываў брылёк і насоўваў на вочы. Пасьля таго бачыў перад сабой толькі два мэтры дарогі. Міліцыянты рабілі маладзёнам заўвагу, тыя пасьпешліва прыўздымалі брылёк, але тут жа й апускалі, калі міліцыянты адыходзілі.

На мяжы 1960-х і 1970-х зьявіліся вушанкі са штучнага футра. Былі яны цяжкія, галавы амаль ня грэлі, і варсіны непрыемна калоліся. **Аднак мы, маладыя бітнікі, зімовых шапак наагул не насілі. Ідзеш у школу, мароз за дваццаць, аж веі зьліпаюцца, а мы з голымі галовамі.** Потым, у школьным калідоры, крутнеш зьбялелае вуха, а яно так і застаецца скручанае. Так што даводзілася прыпадаць да гарачай батарэі, каб адагрэць адубелую галаву.

У 1970-я зьявіліся саматужныя шапкі з труса. Былі яны каляныя, як кардонка. Мне падаравалі адну такую шапку белага колеру, дык яна неўзабаве стала зялёная. Аддаў яе потым бацьку. Той доўга круціў шапку ў руках, зазіраў у нутро й нацубіў са словамі: «Рабоча-сялянскі пыжык».

У краме — не прадыхнуць! Пахне нейкай гнілізнай, людзкім потам, танным «Шыпрам». На атрутна-зялёнай сьцяне вісіць схема разьбіраньня тушы. Туша нагадвае відарысы Грузінскай ССР. Саміх туш — ні цэлых, ні разабраных — не назіраецца. Паліцы пустыя. Адно з абеду выкінулі вараную каўбасу за 2.20, і добрая сотня чалавек душыцца ля мяснога аддзелу.

## Каўбаса за 2.20

«Женщина, уйдите!» — прамаўляе інтэлігентка ў зьбітым на вочы капялюшыку, і цётухна ў махеравай шапцы хуткагаворкай адказвае: «Я занімала вочарадзь». «Ганіце яе, трэці раз займае!» — гарлаюць ззаду. **«Гэнаму ня ўзважвайце! Улез без чаргі!»** — гукае, ужо ля самых вагаў, старая порхаўка, спрабуючы адсунуць убок свайго аднагодка — мужчыну з ордэнскімі калодкамі на пінжаку. **«Па чатырыста грамаў давайце!» — далятае з канца чаргі**, і ўстурбавана-ваяўнічых людзей, што сабраліся ў краме, мірыць прадавачка. Яна крычыць касірцы: «Маша, больш не выбівай!»

**Брэжнеўскай парой савецкі соцыюм вярнуўся ў паганскі час, стварыўшы сабе фэтыш фалічнай формы.** Ім стала палка варанай каўбасы за 2.20. Яна была заўсёды ў дэфіцыце, і па каўбасу ехалі ў Вільню, Рыгу й Талін. І нездарма «Чайку» — фірмовы цягнік, які лучыў Менск з Талінам і з усімі згаданымі гарадамі, — называлі **«каўбасным экспрэсам»**. Выкульваючыся зь цягніка, прыціснуўшы пад пахай ужо ладна пратухлую каўбасіну, жонкі захоплена паведамлялі мужам, якія сустракалі іх на пэроне: «Божухна! Чаго толькі там няма! І «доктарская», і «чайная», і сасіскі па 2.10!»*

У выпадку з каўбасой форма рашуча пераважала над сутнасьцю. Людзей мала цікавіла, з чаго яна зробленая. Між тым мяса ў каўбасе пасьпяхова замянілі крухмал, цэлюлёза й штучныя фарбавальнікі. Нават галодны сабака, нюхнуўшы кінутае яму каўбаснае колца, адмаўляўся ад пачастунку й незадаволена чмыхаў. Распавядалі, што **работнікі мясакамбінатаў, пабачыўшы, з чаго робіцца згаданы прадукт, рашуча выключалі каўбасныя вырабы з рацыёну.**

Каўбаса ўвайшла і ў фальклёр. Апавядалі показку пра тое, як амэрыканскі прэзыдэнт Ніксан, завітаўшы ў 1974 годзе ў Менск, набыў 300 грамаў лівэрнай каўбасы. Спакусіўся танным коштам і вырашыў наладзіць вытворчасьць лівэркі на радзіме. Здаў прадукт у лябараторыю й атрымаў адказ: «У вашым кале яйкі глістоў ня выяўленыя».

Вяртаючыся да пляну стварэньня помніка беларусу савецкай эпохі, згадаем адну дэталь. У правай руцэ ён павінен трымаць скіпэтар разьвітога сацыялізму — здабытую ў шматлюднай чарзе палку каўбасы за 2.20.

-------------

* *Слухач Ш.:* AkSAramadyamAMsAda, як кажуць у Гімалаях: ня пі алькаголю, ня еж мяса, ня лезь без чаргі. Інačай вашу перадачу чакае лёс каўбасы.
*Рэдакцыя:* Вашы словы ды Буду ў вушы.

Савецкі кіраўнік Мікіта Хрушчоў быў палітык неадукаваны, але экспансіўны. У палітыцы й наагул у жыцьці ён **шмат імправізаваў** і ўрэшце стаў асноўным героем ананімнай паэтычнай творчасьці эпохі разгорнутага будаўніцтва камунізму.

## Пра Мікіту й Лёньку

Зь дзяцінства памятаю вершык, які чыталі на расейска-беларускай трасянцы:

*Ты Гагарин, ты могуч,*
*Ты летаешь выше туч.*
*Паляціш ты на арбіту,*
*Прыхапі з сабой Мікіту.*
*Калі будзе месца ззаду,*
*Прыхапі яшчэ Загладу.*
*И по просьбе всей страны*
*Ты спусти его с Луны,*
*Каб ён, лысы сьвінапас,*
*Не муціў рабочы клас.*

Надзея Заглада, што згадваецца ў вершы, была зьвеньнявой калгасу ў Жытомірскай вобласьці. У 1961 годзе ёй далі Героя сацыялістычнай працы за рэкордныя паказьнікі ў вырошчваньні кукурузы — улюбёнай хрушчоўскай сельгаскультуры.

Асабліва шмат эпіграмаў ды прыпевак, прысьвечаных Хрушчову, зьявілася напярэдадні ягонага сыходу з палітычнай сцэны. Менавіта тады загучала эпіграма: «Жили-были три бандита: Гитлер, Сталин и Никита. Гитлер резал, Сталин бил, Никита голодом морил».



Пасьля таго як Хрушчова зьнялі з пасады, па руках сталі хадзіць цэлыя вершаваныя паэмы, прысьвечаныя ягонаму жыцьцю й палітычнай дзейнасьці. Адна з паэмаў называлася «Кому на Руси жить хорошо», і ў яе фінале Мікіта Хрушчоў быў згаданы поруч са сваім пераемнікам — Леанідам Брэжневым. На вынесенае ў загаловак пытаньне аўтары адказалі: «Хрущёву и Брежневу, остальным — по-прежнему».

Між тым не пасьпеў Леанід Ільліч, як кіраўнік партыі, зачытаць першае інаўгурацыйнае спавешчаньне, як нарадзілася трапная эпіграма: «Брови чёрные, густые; речи длинные, пустые»*. Хутка зьявілася й першая вершаваная паэма, прысьвечаная Леаніду Ільлічу. Стылізаваная яна была пад вершы дзіцячай паэткі Агніі Барто:

*Это что за Бармалей*
*Лезет к нам на мавзолей?*
*Он густые брови носит,*
*Внятно слов не произносит…*

З часам любая палітычная падзея ў краіне знаходзіла адлюстраваньне ў **паэтычным самвыдаце**. Варта было абмяняць чылійскага камуніста Карваляна на расейскага антыкамуніста Букоўскага, як тут жа па курылках і піўніцах пачаў гуляць вершык:

*Обменяли хулигана*
*На Луиса Корвалана.*
*Где ж найти такую б..,*
*Чтоб на Лёньку обменять?*

Да гонару беларускіх паэтаў, яны антысаветчынай не займаліся, і не пакінулі вершаў пра Мікіту й Лёньку.

---

* *Слухач К.:* Прыгожы быў малдаван!
*Рэдакцыя:* Гэта Сталін першы сказаў.

За саветамі заўсёды нешта забаранялі й зь нечым змагаліся. На маёй памяці **змагаліся з кароткімі спадніцамі, з жаночымі нагавіцамі, з абстракцыяністамі, з царкоўнікамі, з абстрактнымі гуманістамі, з жуйкай** і яшчэ немаведама з чым. Самае зацятае змаганьне разгарнулася з даўгімі валасамі ў хлопцаў.

## Валасацікі

Першыя валасацікі — такую мянушку атрымалі ў савецкім друку доўгавалосыя маладзёны — зьявіліся на менскіх вуліцах у 1965 годзе. Напачатку валасы былі ня надта даўгія: закрывалі лоб ды паўвуха. Моду на такі хайр спарадзіла група «Бітлз».

Я пачаў зарастаць у сёмай клясе. Бацька парываўся выгнаць з хаты, у школе не дапускалі да заняткаў, а цёткі-суседкі, якія цэлымі днямі сядзелі ля пад’езду, гукалі ў сьпіну: **«Валасацік з шостай кватэры... Ідзець, і кудлы на варатніку. Якая пахабшчына!»**

Слова «валасацік» мела адмоўную канатацыю — і было зьбіральным вобразам дробнага злодзея. Хтосьці надзьмуў у тэлефоннай будцы. Хто надзьмуў? Валасацікі. У цёткі Хадоры абтрэсьлі сад. Хто абтрос? Валасацікі.



Калі вучыўся ў дзясятай клясе, ля дзьвярэй дзяжурылі настаўнікі, якія не пускалі на заняткі, з-за даўгіх валасоў, мяне ды маіх сяброў — Валеру Шлыкава й Толіка Рыбікава.

Мы тады сталі залазіць у школу па супрацьпажарнай лесьвіцы. Узьлезем на дах, прабяжым між комінаў — і ныркуем у паддашкавы люк. Лазілі так цэлы месяц, аж пакуль у школу не прыехалі нейкія правяральшчыкі. Угледзелі ў акно, як вучні лезуць па супрацьпажарнай лесьвіцы. Падбеглі да люка, і Толік Рыбікаў, калі скакаў долу, на некага там ускочыў. Карацей, давялося абкарнацца **пад нулёўку**.

Гэта было на пачатку 1971 году. Наступным разам я завітаў у цырульню толькі празь пяць гадоў. Дый тое па накіраваньні ваенкамату. Звычайна, калі прыпякала, мяне стрыг Валера Шлыкаў. А дапякала часьцяком. Я тады ўжо вучыўся ў інстытуце, і некаторыя выкладчыкі вельмі хвравіта ставіліся да даўгіх валасоў. **Памятаю, адзін, на прозьвішча Елін, пабачыўшы мяне, мармытаў: «Вам можна граць бабуягу бяз грыму».** Другі, выкладчык гісторыі КПСС Чунароў, тыцкаў падчас лекцыі пальцам у мой бок і прамаўляў: «Вось і бацька Махно калісьці трос кудламі».

І сёньня, згадваючы тых выкладчыкаў і сваю няўрымсьлівую маладосьць, кожны раз задаволена пасьміхаюся. Ад усьведамленьня, што быў у савецкім тэатры абсурду ня стрыжаным боўдзілам, а валасацікам*.

---

* *Слухач Ю.:* Цікава ведаць: у заалёгіі валасацік — гэта праснаводны гідрабіёнт Gordius aquaficus, а ў геалёгіі, наадварот, горны крышталь SiOI з рутылам TiOI.
*Рэдакцыя:* Не, ужо нецікава.

Сёньня на поліэтыленавыя торбы, нават з самым забойным малюнкам, ніхто не зьвяртае ўвагі. А на пачатку 1970-х варта было на вуліцы зьявіцца маладзёну з торбай, на якой гарэлі літары «Marlboro», як аднагодкі зыркалі яму ўсьлед і са трыманай зайздрасьцю выдыхалі: «Фірма́!»

## Торбы поліэтыле-навыя

Фірмовыя торбы набывалі ў фарцоўшчыкаў, і каштавалі яны 3 рублі. Самымі прэзэнтабэльнымі лічыліся тыя, у якіх замест ручак былі прадаўгаватыя дзіркі. Дзіркі мелі відарыс банана, таму й самі торбы называліся «бананамі». Іншы фасон менаваўся «майкай». Калі торбу распластаць, яна й сапраўды нагадвала майку — з ручкамі-шлейкамі.

Бралі да ўвагі, што на торбе намалявана, а таксама якасьць малюнку. «Аэрапаліграфія!» — казаў звычайна фарцоўшчык, пераконваючы пакупнікоў, што такой насычанасьці колераў, як на ягоных торбах, папросту не існуе. **Самымі папулярнымі малюнкамі была рэкляма вядомых цыгарэт, а таксама выявы абцягнутых джынсамі дзявочых азадкаў з лэйблам знакамітых фірмаў.** На пэрыфэрыі торбы зь дзявочымі азадкамі здавалі за 5 рублёў.

Насілі ў торбах што-небудзь лёгкае, пляскатае, што раўнамерна поўніла аб'ём. Напрыклад, **капэрту з кружэлкай**. Каб падоўжыць тэрмін карыстаньня, вакол ручак падклейвалі слой поліэтылену. Праклейвалі і ўсю торбу, але яна



пасьля таго рабілася цупкая й губляла фірмовы выгляд.

Уадначас зь вялікімі торбамі пачалі зьяўляцца й маленькія поліэтыленавыя мяшэчкі для пакаваньня харчоў. Зь імі была зьвязаная страшная гісторыя. Казалі, што недзе ў Менску дзіцёнак нацягнуў поліэтыленавы мяшэчак на галаву й задушыўся. Суседка, пазіраючы на майго малодшага брата Алега, увесь час казала маці: «Надзя, хавай гэтыя торбы ад дзяцей!»*

З гонарам магу паведаміць, што ў Беларусі першымі поліэтыленавыя торбы сталі шырока выкарыстоўваць жыхары Наваполацку. Яно й ня дзіва, калі ўлічыць, што менавіта ў нас, на мясцовым хімкамбінаце, атрымалі першы беларускі поліэтылен.

У продажы тых мяшэчкаў спачатку не было. Карысталіся тым, што выносілі з хімкамбінату. А выносілі даўжэзныя поліэтыленавыя рукавы. Іх разразалі й праводзілі па нізе поліэтыленавай калашыны краем гарачага прасу. Такім чынам атрымліваўся мяшэчак.

Маці аднойчы далі некалькі мэтраў такога паўфабрыкату. Мы яго разрэзалі, правялі пад лінейку гарачым прасам, але нічога з таго не атрымалася: поліэтылен прыліп да прасу й расплавіўся. Давялося склейваць клеем «БФ». Мяшэчкамі тымі маці доўга карысталася. Часам мыла, высушвала на гаўбцы й зноў пускала ў справу.

І радня, якая прыяжджала на пагасьціны, пыталася: «Дзе вы бераце поліэтыленавыя торбы?»

* *Слухачка С.:* На дзень залатога вясельля прашу перадаць перадачу на памяць пра нашу сустрэчу.
*Рэдакцыя:* Віншуем і перадаем на наступнай старонцы.

Яшчэ на маёй памяці паблізу вакзалаў ды кірмашоў стаялі дашчатыя, фарбаваныя на блакітны будыніны. Афіцыйна яны называліся павільёнамі «Піва-воды», а неафіцыйна — «блакітнымі дунаямі».

## Павільён «Сустрэча»

У павільёнах прадавалі **бочкавае піва**, якое пампавалі ручной помпай. Там, дзе не было водаправоду, на ўзвышку мацавалі ёмістасьць з вадой, якая злучалася з мыйняй. Прадавачка ставіла кухаль на мыйню, і ён акрапляўся двума кволымі струменьчыкамі, якія не давалі рады нават зьбіць пены.

У сярэдзіне 1960-х замест «блакітных дунаяў» паўсталі павільёны, падобныя да акварыюмаў. **З трох бакоў яны былі шкляныя й насілі рамантычныя назвы: «Хвілінка», «Ветрык», «Сустрэча».** Піва там прадавалі ўжо ня з бочак, а зь вялікіх ёмістасьцяў, куды яго запампоўвалі з аўтацыстэрнаў.

Абсталюнак павільёнаў быў стрымана-аскетычны. Не было нават крэслаў. Стаялі адно высокія круглыя сталы. Вакол стала звычайна гуртавалася пяцёра, а то й болей чалавек, а пасярэдзіне на абрыўку газэціны ляжалі кішкі вэнджанай стаўрыды.

Узяўшы кухаль, наведнікі часьцяком выходзілі на вулку — да лавы ці каналізацыйнага люка,



што вытыркаўся зь зямлі. **Адразу можна было ўзяць толькі два кухлі, бо на ўсіх не хапала. Таму плацілі наперад за тры літры, і потым з воклічам «Паўтарыць!» перадавалі пустыя кухлі празь людзкія галовы.** Пенныя хлапякі патрапляляі некаму за каршэнь, але ніхто асабліва не абураўся: усе праглі прыпасьці да гаючага напою. Ну а калі прыпадалі, пілі вылупіўшы вочы й, адарваўшыся ад кухля, адчайдушна выдыхалі: «Ой, ...ля-а...»

Надараліся ў павільёнах і бойкі. Часьцей перападала інтэлігентнага выгляду асобам. Забяжыць які інтэлігент пры гальштуку наталіць смагу кружачкай піўца. І тут жа натыкнецца на ўчэпісты позірк заўсёдніка ды пачуе злавесны шэпт: **«Не паважаеш?»** Былі выпадкі, калі інтэлігенты адкупляліся двума кухлямі*.

**Хаця ў павільёне вісеў пагрозьлівы плякат «Прыносіць і расьпіваць сьпіртныя напоі забаронена!», на яго ніхто не зьвяртаў увагі.** Гарэлку таксама пілі з кухляў. Адзіны, хто з гэтай нагоды абураўся, была прыбіральшчыца. «П’яніцы няшчасныя», — мармытала старая цётка, завіхаючыся са швабрай. Абуралася дзеля прыліку. Пасьля п’яніцаў заставалася гара бутэлек, якія яна здавала, і гэта быў сур’ёзны даважак да заробку.

Так што тыя цёткі, калі яны яшчэ жывыя, і да сёньня добрым словам згадваюць застойны час і бразгат пляшак у павільёне «Сустрэча».

---

* *Слухач С.:* Удакладніце, калі ласка, гэта павільён ля аўтастанцыі ці за лазьняй?
*Рэдакцыя:* На вакзале — там піва лепшае.

Шмат жыцьцёвых выпрабаваньняў выпадала на долю маладых бібліятэкарак, што вялі культурна-асьветную працу на вёсцы. Дзяўчаты не маглі адкасацца ад залётнікаў.

# Бібліятэкаркі

## вясковыя

Восеньскім днём 1970 году я зайшоў у адну вясковую бібліятэку й пачуў здушаныя воклічы. Яны даляталі з-за стэлажоў: «Пусьці... чуеш?!» Неўзабаве стэлаж захістаўся, на падлогу звалілася пісаная зялёным атрамантам бірка **«Квітней, Беларусь!»**, і з кніжных нетраў выбегла заплаканая бібліятэкарка. Неўзабаве з-за стэлажа, задаволена пасьміхаючыся, выплыў малады мэханізатар у ватоўцы*.

**Спэцыялісты бібліятэчнай справы мусілі ня толькі адбівацца ад залётнікаў, але й несьці кнігу ў масы, фармаваць чытацкі густ.** Вясковаму бібліятэкару даводзілі як агульны, гэтак і індывідуальны плян кнігавыдачы. Так, кожны вясковец павінен быў штогоду прачытаць ня менш як дванаццаць кніг, найперш грамадзка-палітычнай, сельскагаспадарчай ды атэістычнай тэматыкі. Карціна вымалёўвалася сюррэалістычная: **падпіты трактарыст убіваецца ўвечары ў хату й пачынае знаёміцца з матэрыяламі XXIV зьезду КПСС.**

* *Слухачка З.:* А я здагадалася, на каго вы намякаеце! *Рэдакцыя:* Колькі разоў вам паўтараць — не намякайце! Людзі самі разьбяруцца.



Адна вядомая пісьменьніца, якая пачынала кар’еру ў вясковай бібліятэцы, распавядала, як аднойчы ўпісала ў фармуляр вясковаму дурылу, што двойчы на год ляжаў у вар’ятні, некалькі ленінскіх працаў. На бяду, прыехала праверка з раёну, і адзін з правяральцаў, які ведаў дурылу, пагартаў фармуляр. **Ад сур’ёзных наступстваў (а гаворка ішла пра палітычнае блюзьнерства) будучую пісьменьніцу ўратавалі маладыя гады.**

Пасьля кожнага партыйнага зьезду й пленумаў у пытаньнях сельскай гаспадаркі бібліятэкаркі афармлялі тэматычныя стэнды. На стэндах, пад напятымі ніткамі, зьмяшчалі брашуры з брэжнеўскімі прамовамі й матэрыяламі зьездаў, газэты з інфармацыяй пра пленум ЦК КПСС ды іншую непатрэбшчыну.

Афармляліся й стэнды сельскагаспадарчай тэматыкі, кшталту **«Новае ў жывёлагадоўлі»**. Іх вешалі непасрэдна ў вясковым клюбе, і падчас скокаў ад грукату кірзавых ботаў брашуры па жывёлагадоўлі валіліся на падлогу.

Нялёгка было сабраць выдадзеныя кнігі. Добра яшчэ, калі той жа шамякінскі раман, хай і з чорнай падпалінай ад патэльні, знаходзіўся. Часьцяком чытачы незваротна гублялі кнігі, і даводзілася складаць акты на сьпісаньне. Існавалі адпаведныя нарматывы сьпісаньня, і, каб кампэнсаваць страты, грошы, калі іх не ўдавалася выбіць з чытачоў, вылічвалі са сьціплага заробку вясковых бібліятэкарак.

У Наваполацку сьмецьцявозы зьявіліся ў другой палове 1960-х. А да таго часу сьмецьце звальвалі ў мэталёвыя скрыні, якія стаялі ў дварах. Прыбіралі яго адтуль раз на два тыдні, і ўлетку ў дварах было не прадыхнуць ад смуроду.

## Сьмецьцяв о з к а

Аднойчы ўпраўдом сабраў жыхароў і паведаміў, што цяпер сьмецьце будзе вывозіць адмысловая машына. І хаця людзі сустрэлі такое паведамленьне гудам абурэньня (машына мусіла прыяжджаць а васямнаццатай гадзіне, а гэтай парой шмат хто быў на працы), наступнага вечара, напоўніўшы прастору зычным сыгналам, у двор заехаў самазвал. Той самы, **з паўкруглым кодабам**. Памятаеце, падчас язды ён скідваў ціск у пнэўмасыстэме, выдаючы спэцыфічны гук «бз-з», і з тае нагоды атрымаў немілагучную мянушку.

«Мусарка прыехала!» — гойкнуў нехта. Вокліч гэты гучаў потым доўгія гады, прымушаючы хапацца за вёдры са сьмецьцем.

Самазвал бзыкнуў наастачу, паволі спыніўся, з кабінкі выкуліўся сьмяцяр зь вілкамі ў руках, і людзі, піхаючыся, сталі куляць вёдры ў кодаб. Многія не маглі дацягнуцца, і частка сьмецьця сыпанула на галовы*.

---

* *Слухач Г.:* Вось тут малец не зманіў. Сам бачыў з акна нашай дзявятай кватэры.
*Рэдакцыя:* Адчапіся, дзядзька!



— Стойце! — з мацюгамі загарлаў сьмяцяр, — яшчэ рагожу ня зьняў! — напалову завалены сьмецьцем кодаб быў засланы радном.

Сьмяцяр, стоячы ў кодабе, паволі прымаў вёдры, і нам, падшыванцам, не цярпелася вызваліць рукі. Мы падсаджвалі адно другога й самі вывальвалі сьмецьце. Па руках кожнага разу цякла памыйная жыжка. А то яшчэ ўзьбіраліся на колы. Аднойчы я сасьлізнуў з кола й зваліўся, разам зь вядром, на голаў нейкай кабеты. Народ стаў скардзіцца ўпраўдому — маўляў, немагчыма дацягнуцца да борту. І ў хуткім часе ў двары згламэздалі драўляны памост.

Аднойчы (ужо й не скажу, у якім годзе) у двор, таксама зь нецярплівым гудам, заехала дзіўная машына. Гэта быў кантэйнэрны сьмецьцявоз М-30 на базе аўтамашыны ГАЗ-51. Сьмецьцепрымальнік там быў невялікі, і ў першы дзень ля яго разгарэлася сапраўдная вайна. **«А пашалелі людзі!»** — гукала суседка зь пятага паверху, але й сама не адставала, лезла зь вядром на людзкія сьпіны.

Неўзабаве кіроўца, што стаяў ля машыны, махнуў рыдлёўкай, крыкнуў: «Буду біць па кумпалу!» — і народ мусіў выстраіцца ў чаргу. Раз-пораз кіроўца націскаў вагар, і сьмецьце з дапамогаю гідраўлікі ўпіхвалася ў кантэйнэр. Пакуль рухалася мэталёвае жавала, вёдры куляць было нельга. **Вадзіла стаяў поруч, з рыдлёўкай наперавес**, і папярэджваў: «Хто толькі выверне — адразу б'ю па кумпалу! Старая выверне — дам старой, дзіцёнак — дзіцёнку».

Яны былі нэрвовыя людзі, вадзілы сьмецьцявозак.

«Корамі» ў 1960-я называлі вастраносыя мужчынскія туфлі. Мелі яны яшчэ адну, дарэшты несамавітую назву — «гады».

## Коры

Коры былі адметныя тым, што на пачатку нашэньня пакідалі на пятцы крывавыя мазалі, а на сыходзе першага месяца дарэшты разношваліся, мыскі задзіраліся ўгору, і малы палец прыкметна канфігураваўся, парушаючы першапачаткова форму абутку. Яшчэ адна адметнасьць — амбрэ, якім поўніўся пакой, калі туфлі здымалі.

Заўважым, што непрыемнага паху дадавалі й шкарпэткі са штучных валокнаў, якія тады ўвайшлі ў моду. Так і нарадзілася інтэлігенцкая завядзёнка не здымаць абутку ў гасьцях.

Чысьцілі коры да люстранога бляску. **Бляск наводзілі, шаруючы падзёртай капронавай панчохай. Ён прываблівау дзяўчат і маладых кабет.** Я сам чуў, як адна разьвядзёнка ўголас дакляравала, што ніколі ня выйдзе замуж за мужчыну, які ня чысьціць сваіх туфляў.

У крамах прадаваліся коры выключна айчыннай вытворчасьці — бабруйскія, лідзкія, менскія. **З імпарту зрэдку выкідвалі чэскія, фабрыкі «Цэба».** Аднак гэта быў абутак для



людзей сталага веку. Сёй-той насіў югаслаўскія туфлі, якія адпавядалі тадышняй моладзевай модзе. Аднак дастаць «югі» (так скарочана называлі мадняцкі абутак) можна было толькі па страшным блаце.

У 1967 годзе замест вастраносых туфляў пачалі выпускаць тупаносыя, у якіх малы палец ужо не пукаціўся.

**Шкаляры тады скрозь хадзілі ў кедах — незашнураваных, з вывернутымі вонкі языкамі.** У школу мусілі насіць зьменны абутак, а пераабувацца нам было не з рукі. Таму прыхаплівалі з дому зьбітыя бацькавыя чаравікі, перад самай школай панурвалі іх у лужыну й дэманстравалі дзяжурнаму мокрыя падэшвы — маўляў, толькі што пераабуліся ў кеды.

У дзявятай клясе сталі хадзіць у школу ў сандалях-пляцёнках на голую нагу. А ў дзясятай клясе сталі ўлетку гіпаваць — хадзілі па горадзе басанож. Праўда, пасьля таго, як я прабіў бутэлечным шклом пятку, гіпаваць кінулі. **Маці, каб я не хадзіў басанож, набыла мне туфлі з брунатнага вэлюру — страшэнна модная рэч.** Ногі ў іх ня прэлі, хаця па тадышняй модзе нават улетку надзявалі махровыя шкарпэткі*.

Мадней ад вэлюравых былі толькі **замшавыя туфлі**, але іх мне панасіць не давялося. Модны абутак мы сталі называць «шузамі», адправіўшы ў нябыт вясёлае слова «коры».

---

* *Слухачка О.:* Перадайце Мудрову, каб расказаў пра індыйскі чай.
*Рэдакцыя:* Каваман ён.

Доўгі час бальшыня беларусаў выкарыстоўвала замест туалетнай паперы абрыўкі газэт ды старонкі старых падручнікаў. І ў прыбіральнях звычайна віселі навалачкі з нарэзанай паперай.

## Папера туалетная

**Усеўшыся па пільнай патрэбе і ўтаропіўшы вочы ў газэтны абрывак, савецкі чалавек міжволі палітадукоўваўся.** «Камуністычная партыя й Савецкі ўрад надаюць вялікую ролю пашырэньню тавараў народнага спажываньня…» — паведамлялася ў абрыўку, і, прачытаўшы такое, наведнік прыбіральні ўздыхаў — прычым з пачуцьцём глыбокага задавальненьня.

**Пра туалетную паперу, як і пра сабачыя кансэрвы, людзі нешта такое чулі, але жыўцом ня бачылі.** Я асабіста ўпершыню ўбачыў згаданую паперу ў 1966 годзе. Бацька аднаго майго знаёмага езьдзіў на стажаваньне ў Ангельшчыну (ён быў інжынэрам на будоўлі хімкамбінату) і прывёз адтуль запаветны рулён. Мы ўважліва яго разглядалі, нават бралі на язык*.

\- - - - - - - - - - - - -

* *Слухачка О.:* Калі аўтар каваман, дык няхай раскажа пра каву распушчальную!
*Рэдакцыя:* Спрабаваў быў, але ўвесь час выходзіла то патурэцку, то распуста.



Сябрукоў бацька распавядаў, што ў ангельскіх прыбіральнях вісіць рулён туалетнай паперы й яе адтуль ніхто ня крадзе. Ніхто з нас такім балачкам не даваў веры.

Дзесьці праз год туалетная папера зьявілася ў продажы, у аддзеле канцылярскіх тавараў навапалацкай кнігарні, — гэта быў пачак белых сурвэтак. Яе, вядома ж, ніхто не купляў. **Жанчыны, выхапіўшы позіркам надпіс «туалетная папера», сарамліва адводзілі вочы.**

За савецкім часам выкарыстоўвалі ў пэўных мэтах ня толькі газэты, але й расьліннае багацьце нашай краіны. Распавядалі, як студэнты на бульбе падцерліся лістамі нейкай расьліны. Аказалася, што гэта быў страшэнна ядучы баршчэўнік. Бедакам так запякло, што ня ведалі куды бегчы. Урэшце пабеглі да вясковай фэльчаркі, і тая дала ім нейкую мазь.

Сьпярша туалетную паперу ў рулёнах прывозілі з Масквы, была яна літоўскай вытворчасьці. І калі да полацкага вакзалу пад’яжджаў маскоўскі цягнік, на пэрон выходзілі пасажыры з валізамі ў руках і зь вяроўчынай на шыі, на якую былі налыганыя дэфіцытныя рулёны.

Пэўны час падцірачную паперу **прадавалі толькі льготным катэгорыям грамадзянаў — інвалідам, вэтэранам.** Потым яна зьявілася ў вольным продажы, ды напачатку яе ня надта й бралі.

І толькі калі пайшла чутка, што газэтная фарба можа выклікаць рак кезаўкі, амаль у кожнай прыбіральні зьявіўся рулён туалетнай паперы.

Савецкім часам электарат аднадушна галасаваў за кандыдатаў блёку камуністаў і беспартыйных. Іншых кандыдатаў у бюлетэнях не было.

## Выбары

Калі мне стукнула васямнаццаць, я таксама мусіў аддаць голас за непарушны блёк. Я зрабіў гэта, лежачы ў пасьцелі*.

Дзесьці аб адзінаццатай, з хворай пасьля п’янкі галавой, ляжаў, закінуўшы рукі, і пачуў званок у дзьверы. «У вас, па нашых зьвестках, інвалід жыве», — гукнулі, калі маці адчыніла дзьверы, і ў пакой зазірнула цётка ў атрутна-зялёнай махеравай шапцы й з чырвонай скрыняй пад пахай. Давялося прыкінуцца інвалідам, падцягнуць коўдру да падбародзьдзя й дрогкай з пахмельля рукой запіхнуць бюлетэні ў скрыню.

Зрэшты, такіх нядбалаў сярод электарату было няшмат, і аб адзінаццатай гадзіне колькасьць тых, хто прагаласаваў, сягала дзевяноста, а то й болей адсоткаў. Дзіва што! Выбаршчыкі ад раніцы сьпяшаліся на ўчасткі, бо ва ўчастковых буфэтах прадавалі дэфіцытныя прадукты.

-------------

* *Слухачка Я.:* І гэтаму вы вучыце моладзь?! Прышліце адрас Мудрова.
*Рэдакцыя:* Зусім ня гэта маецца на ўвазе. Але перш прышліце сваё фота.



Выбаршчык атрымліваў адначасова й маральнае, і матэрыяльнае задавальненьне: аддаваў голас за ўсенароднага кандыдата й атаварваўся двума кілягр噴амі (больш не давалі) мараканскіх памаранчаў. У чэргах лаяліся, і ва ўрачыстыя маршы, што сымбалізавалі сьвята савецкай дэмакратыі, уплятаaліся здушаныя жаночыя воклічы: «Рыжай не давайце, яна з другога ўчастку!»

А яшчэ там прадавалі сьвежае піва, і некаторыя палітычна нясьпелыя прадстаўнікі электарату ішлі не да выбарчых скрыняў, а адразу ў буфэт. Мушу згадаць амаль трагічную гісторыю пра аднаго майго аднакурсьніка. Студэнтаў, што жылі ў інтэрнаце, выганялі на выбары а шостай раніцы. Гэтай парой і выправіўся на ўчастак Валодзя Ш. — ён вучыўся ў паралельнай групе. Адразу рушыў у буфэт і жлукціў там піва, пакуль не заснуў за сталом. У абед аднакурсьнікі вынесьлі небараку з участку, зацягнулі ў інтэрнат, а неўзабаве сябар выбарчай камісіі разам з камэндантам пайшлі шукаць студэнта, які дагэтуль не прагаласаваў. Студэнт тым часам спаў, навылёт прадзьмуўшы ліхенькі інтэрнатаўскі сяньнік. Наступнага дня апівуду выгналі з інтэрнату.

Усе масавыя мерапрыемствы заканчваліся п’янкамі. Сябры выбарчых камісіяў пасьля падліку галасоў адцягваліся па поўнай праграме. Гарэлку ім прастаўлялі за дзяржаўны кошт, і ў суседніх з участкам пакоях для іх ладзілі бяседныя сталы. Бацька мой аднаго разу таксама быў задзейнічаны ў выбарчай кампаніі. Дахаты ён вярнуўся на золку — дакладней, яго прывялі двое гэткіх жа ўпітых сябраў камісіі.

І маці потым цэлы дзень кляла бацьку, ягоных упітых калегаў, а заадно і ўсенародныя выбары.

Некалі да тарца кожнага вясковага клюбу ластаўчыным гняздом ляпілася кінабудка. Дзеля супрацьпажарных мэтаў будкі рабілі з цэглы, і выглядалі яны пры драўляных будынінах чымсьці чужародным.

## Кінабудка

Нутро кінабудкі глядзелася аскетычна: два кінапраектары на масіўным цэмэнтным падмурку, вогнетушыльнік, скрыня зь пяском (на выпадак пажару), перамотны, ababіты бляхаю, стол. Адзінаю аздобаю былі афішы з выявамі кінагерояў, якія віселі на сьценах.

**І хаця на дзьвярах быў пагрозьлівы надпіс «Пабочным асобам уваход забаронены!», там ад ранку да ночы вірала жыцьцё.** Хто меў пляшку «чарніла», ішоў у кінабудку. Такім чынам, на вёсцы гэта быў своеасаблівы **ангельскі клюб**. Жанчыны туды звычайна не заходзілі. Нават загадчыца клюбу, калі кінамэханік чарговы раз напіваўся, лаялася ад парогу.

Але жанкі калі-нікалі там зьяўляліся. Пра гэта сьведчыў скручаны ў трубку сяньнік, які я бачыў у адной з кінабудак.

У кінабудцы ня толькі пілі, але гаманілі за жыцьцё, слухалі музыку. **Нарэшце, глядзелі праз праектарныя адтуліны «Фантамаса».**



Вясковыя жанчыны кінамэханіка не любілі і ўважалі за гультая. А вось фотакарэспандэнты раённых газэт гэтую прафэсію паважалі. Завітаўшы ў вёску, адразу ж ішлі не ў праўленьне, не на фэрму, а ў кінабудку. **«Кінамэханік Бычкоўскага кінастацыянару Іван Лябёдка рыхтуецца да чарговага сэансу».** Здымкамі такімі стракацелі раённыя газэты.

Пасьля візыту газэтчыка кінамэханік, вядома ж, спаў на перамотным стале. Прадчуваю наіўнае пытаньне: хто ж тады круціў фільм? Адказваю: фільм круцілі 13—14-гадовыя падлеткі. Ці то малодшыя браты кінамэханіка, ці то проста суседзкія мальцы. Яны з прафэсійным спрытам устаўлялі плёнку ў кінапраектар, патрэбным часам запускалі кожную частку, а пасьля сэансу з рэактыўным гудам перамотвалі стужку ды клалі ў бляшаныя скрыні. Адзінае, што заставалася кінамэханіку, гэта вынесьці раніцою скрыні да бальшака. Іх забірала малакавозка, якая ехала ў райцэнтар.

Спэцыфічныя ўмовы працы спрыялі таму, што кінамэханікі масава сьпіваліся. У такой сытуацыі раённыя канторы кінапракату вымушаныя былі браць на працу жанчын. **Жанчына ў кінабудцы — гэта было прадвесьце бяды.** І яна надарылася*.

Пасьля перабудовы кінастацыянары сталі зачыняць. Адпаведна, загавелі душой і цэнтры грамадзкага жыцьця — кінабудкі.

-------------

** Слухач Р.:* ….! …! ..!
*Рэдакцыя:* Як каму.

Сонечным травеньскім днём 1960 году бацька вярнуўся з працы надзвычай вясёлы й ад парогу выгукнуў: **«Будуць новыя грошы!»** — «Дзе?» — улякнута перапытала маці. «Дзе-дзе... у дзяржаве. За дзясятку старых будуць даваць рубель новымі».

## Грошы новыя

Таго году толькі й было размоваў, што пра новыя грошы. Людзі нават забыліся на Паўэрза — амэрыканскага лётчыка, якога тады ж, у траўні, зьбілі над савецкай тэрыторыяй. Уводзіць грошы зьбіраліся з 1 студзеня наступнага году, і мне, шасьцігадоваму, не цярпелася патрымаць іх у руках.

Адразу пасьля Новага году да нас у кватэру ўбілася суседка — расхлістаная, у зьбітай на вочы хустцы. Яе ледзь не прыдушылі ў ашчадкасе: усе праглі памяняць старыя грошы на новыя. Аддыхаўшыся, суседка дастала з кішэні кацавейкі пачак рудых рублёў, зялёных трульнікаў ды сініх пяцёрак. **«Ой, якія маленькія!» — з панікай у голасе прамовіла маці, перахапіўшы ў суседкі навюткую, цупкую рублёўку.** Новыя купюры сапраўды былі



мініятурныя й, мяркуючы па матчыным голасе, не выклікалі даверу*.

Увечары маці пачала дакараць бацьку: чаму не ідзеш мяняць грошай, суседзі ўжо абмянялі. І бацька, адарваўшыся ад газэты, паведаміў, што не жадае ціскацца ў чарзе й што абменьваць старыя грошы можна цэлыя тры месяцы.

Ад 1 студзеня 1961 году грошы падаражэлі ў дзесяць разоў, але пры гэтым старыя манэты вартасьцю 1, 2 і 3 капейкі не абменьваліся й захоўваліся ў абарачэньні. Драбяза таксама стала ў дзесяць разоў даражэйшая. Пайшлі чуткі, што нехта ў Віцебску прыцягнуў на абмен **цэлую торбу 3-капеечных манэтаў**. Казалі, родны брат віцебчука працаваў у міністэрстве фінансаў і параіў зьбіраць жоўтую драбязу.

Новыя грошы напачатку выклікалі ў насельніцтва эўфарыю, але потым, убачыўшы, што дзяржава чарговы раз залезла ім у кішэнь, людзі зажурыліся. **Тое, што абмен грошай азначаў прыхаваны рост цэнаў, уцямілі нават першаклясьнікі.** Школьны сшытак, які каштаваў 12 капеек, стаў каштаваць 2 капейкі «новымі», то бок падаражэў на 8 капеек. Яшчэ больш вырасьлі цэны на калгасных кірмашах. Шклянку чарніцаў прадавалі за 10 капеек — як да абмену, так і пасьля. «А што ж гэта робіцца? Грошы старыя пайшлі!» — гукалі абураныя пакупніцы.

І яшчэ гадоў дваццаць, пазіраючы на цэньнікі ў крамах, цётухны абурана ўздыхалі і ўголас лічылі, колькі гэта каштуе старымі грашыма.

---

* *Слухач Ч.:* А колькі тады давалі за даляр?
*Рэдакцыя:* 90 капеек. Але маглі й расстрэл.

У дзяцінстве я меў дзёрзкую мару — зьявіцца на пляжы ў сапраўдных плаўках. Цяпер мара такая падасца недарэчнаю: ідзі ў краму, бяры якія падабаюцца і адразу ж шыбуй на рэчку.

## Плаўкі з матузкамі

Калі б так было! Плавак у краме не прадавалі. **Нават дарослыя дзядзькі, ня кажучы ўжо пра нас, падшыванцаў, купаліся ў сямейных трусах.** Адно што засуквалі калашыньне, надаючы ім падабізну сучасных стрынгаў.

Мая мара спраўдзілася, калі я скончыў пятую клясу. Падчас летніх вакацыяў прыехаў на пагасьціны стрыечны брат зь Піцеру й адразу ж выцягнуў з дарожнай валізы плаўкі. Сапраўдныя, з матузкамі на баку. Я адразу іх прымерыў і, з братавага дазволу, выправіўся на рэчку.

Надвор’е, на жаль, не спрыяла — пляж быў пусты й глядзець на маю абнову не было каму. Але я й без таго быў шчасьлівы й чабохтаўся ў вадзе, пакуль не пакрыўся гусінай скурай. **Тым часам на пляжы зьявіліся дзяўчаты, мае аднагодкі, і я, граючы на зубарыках, вырашыў прадэманстраваць, як здымаюцца сапраўдныя плаўкі.** А здымаліся яны вельмі проста: наверх нацягваліся сямейныя трусы, пальцы тузалі матузкі на баку, і плаўкі выпадалі праз левую калашыну. Я нацягнуў трусы, тузануў матузок — раз, потым другі... Плаўкі былі завялікія, таму зацягнуў вузел як мае быць, і ён, набрыняўшы вадой, аніяк не хацеў разьвязвацца.



Дзяўчаты зірнулі ў мой бок, пырснулі зьедлівым сьмехам. Дый дзіва што: пасінелы ад холаду малец стаіць пасярод пляжу й, залезшы ў трусы, штосьці там тузае. Давялося падхапіць штаны з кашуляй і бегчы ў кусты, здымаць праклятушчыя плаўкі.

Праблемы з матузамі зазнаў ня я адзін. Ці не таму неўзабаве зьявіліся плаўкі, у якіх замест матузоў на баку былі два гузікі. **А яшчэ, па тадышняй завядзёнцы, да плавак прышпільвалі мэталёвы значак. І ня толькі дзеля аздобы.** Цяпер пра гэта няма й почуту, а тады казалі, што ў вадзе можа апанаваць сутарга. Уратавацца ад яе, па чутках, можна было, тыцнуўшы ў нагу чымсьці вострым — напрыклад, зашпілкай значка.

Сёньня можна набыць мужчынскія плаўкі любога фасону. У параўнаньні з жаночымі абновамі яны недарагія, і жанчыны гэтым карыстаюцца*.

Аднойчы давялося назіраць карцінку. Муж нёс дзьве напакаваныя торбы справункаў і нясьмела прамовіў: **«Давай цяпер што-небудзь мне набудзем».** Жонка пералічыла грошы й з уздыхам сказала: «А табе, відаць, возьмем плаўкі».

-------------

* *Слухачка Э.:* Купляць мужчынскія трусы ў сьне — прыкмета, што наўкол вас няма ніводнага прыстойнага й надзейнага чалавека.
*Рэдакцыя:* А прадаваць?..

Выраз «удыганьне перад Захадам» і яго злавесны сэнс цяпер амаль забытыя. Як і «халодная вайна», падчас якой ідэалягічнай зброяй абвяшчалі ня толькі заходнюю музыку, літаратуру й філязофію, але й прахаладжальныя напоі.

## Гумка жавальная

Пра **тую ж кока-колу, з дапамогаю якой імпэрыялісты спрабавалі разбэсьціць савецкіх людзей, хадзілі легенды.** Многія наагул лічылі яе алькагольным напоем. Прынамсі, так думаў і я, прачытаўшы аднойчы ў кніжцы эпохі халоднай вайны пра амэрыканскую салдатню, якая ўпілася кока-колы й чаплялася да жанчын на вуліцах Заходняга Бэрліна.

Калі некаму з навапалачанаў лёсіла наведаць замежжа, яго сустракалі на радзіме жарсьлівым пытаньнем: кока-колу піў? **Заяву, што гэта прыкра салодкі прахаладжальны напой з пахам аптэкі, знаёмцы сустракалі недаверлівай усьмешкай.**

Жавальная гумка, ці, папросту, жуйка, была зьявай яшчэ больш спакусьлівай, таямнічай ды ідэалягічна небясьпечнай. Упершыню я пра яе пачуў у 1964 годзе, прыехаўшы на пагасьціны ў Піцер. **«Ты жавальную гумку хоць раз каштаваў?»** — яшчэ ад парогу, з крывой усьмешкай на твары, спытаў стрыечны брат Лёшка. Я асуджана панурыў вочы, а братан стаў пералічваць, колькі разоў яму даводзілася жаваць замежнае смакоцьце.



Лёшка паведаміў, што гумку ён дастае ў іншаземцаў. **«Выходжу на Неўскі, падвальваю да якога фіна й кажу: «Паркуміё».** І жуйка ў мяне ў кішэні. А калі нарвуся на амэрыканца, дык тады...» Лёшка сумеўся — забыўся, відаць, патрэбнае слова, дастаў пацёхканы нататнік і, перагарнуўшы старонкі, выдыхнуў: **«Чуінгам!»**

Наступным вечарам мы апынуліся на Неўскім, і я, угледзеўшы дзядзьку ў нетутэйшых белых портках, тыцнуў Лёшку ў бок. Маўляў, папрасі «чуінгаму». Братан пужліва азірнуўся: «Тут небясьпечна. Можа міліцыя ўбачыць». Таго году я жавальнай гумкі так і не пакаштаваў.

Вярнуўшыся з пагасьцінаў, прачытаў пра «чуінгам» нататку ў часопісе «Здоровье». Месьцілася яна пад рубрыкай «Пытайцеся — адказваем», і адзін чытач пытаўся, ці ня шкодзіць гумка здароўю. Кампэтэнтны адказ сьведчыў: шкодзіць, ды яшчэ як! Калі даваць веры часопісу, асабліва небясьпечна жаваць яе нашча. Бо пры гэтым актыўна выдзяляецца страўнікавы сок, страўнік пачынае яго перапрацоўваць, і гэта пагражае язвавай хваробай.

А яшчэ пісалі, што калі гумку выпадкова праглынуць, дык могуць зьліпнуцца кішкі. У многіх чытачоў «Здоровья» пасьля такіх адкрыцьцяў зьліпліся мазгі*.

Вось і я — ніякіх хваробаў не баяўся, а тут трывожна наструніўся. І ў душы падзячыў лёсу, што Лёшка ня кінуўся прасіць у іншаземца жавальную гумку.

---

* *Слухачка Э.:* Калі вам прысьніліся ўласныя мазгі, чакайце непрыемнасьцяў, якія будуць дзейнічаць на нэрвы.
*Рэдакцыя:* Ужо дзейнічаеце.

Калі я вучыўся ў шостай клясе, убачыў часопіс, які на доўгія гады стаў спадарожнікам жыцьця. Называўся ён «Корея» й вольна прадаваўся ў шапіках «Саюздруку» — праўда, не ва ўсіх. У маім родным Полацку яго можна было набыць толькі ў адным месцы — у шапіку чыгуначнага вакзалу.

## Часопіс «Корея»

**У існасьці, «Корея» не была гумарыстычным часопісам. Хутчэй, наадварот. Аднак тое, што там пісалася, не магло не выклікаць зьедлівай усьмешкі, а то й здушанага сьмеху.** Кожны нумар прысьвячаўся «жыцію» вялікага правадыра, легендарнага палкаводца й сонца нацыі таварыша Кім Ір Сэна.

Вось вялікі правадыр наведвае возера Самчжы й мімаходзь дае каштоўныя парады наконт разьвядзеньня люстранога карпа. Вось ён, рукі за сьпіну, аглядае Супхунскую ГЭС, а ўсе наўкол, увабраўшы галовы ў плечы, штосьці занатоўваюць у бляkнотах. Поруч здымак вялізнага мармуровага манумэнту. Зь якой нагоды пастаўлены? Трыццаць гадоў таму вялікі палкаводзец наведаў гэтае поле й асабіста кіраваў працаю сельгасвытворчай камуны. А вось каляровы здымак дарэшты зарумзаных карэянак. Чаго румзаюць? Подпіс тлумачыць: **«Жанчыны рыдаюць, пабачыўшы Вялікага Правадыра».**



У тых жа нумарах на апошніх старонках месьціліся іншыя, чорна-белыя фатаздымкі, на якіх таксама румзалі, але ўжо паўднёвакарэйскія кабеты. Подпісы пад здымкамі былі такія: «Спынеце амэрыканскага агрэсара, які згвалціў маю непаўналетнюю дачку!» альбо: «Сэульскія жанчыны гукаюць: «Хаця б адзін дзень пажыць пад кіраўніцтвам Палкаводца Кім Ір Сэна!»*.

У інстытуце, на першым курсе, я быў сталым наведнікам кабінэту гісторыі КПСС. У кабінэце ляжала падшыўка ўлюбёнага часопісу. Неўзабаве, з маёй падачы, шызяк на глянцавай паперы зацікавіў іншых студэнтаў, і кабінэт раз-пораз поўніўся здушаным сьмехам. Аднойчы, падчас вялікай пярэрвы, зайшоў паглядзець сьвежы нумар, але загадчыца, гаркамаўская пэнсіянэрка Краткова, адвёўшы вочы, ляпідарна паведаміла: **«Не выдаем».**

Нядаўна знайшоў на лецішчы нумар часопісу за 1971 год, перагарнуў старонкі, але пабачанае й прачытанае ня выклікала ўсьмешкі. З чаго пасьміхацца-радавацца? Што не ямо, як тыя няшчасныя карэйцы, траву, і ня ходзім у прыбіральню з рэвалюцыйнымі песьнямі?

А калі вярнуўся дахаты і ўключыў БТ, мне прымроіліся **зарумзаныя ад шчасьця беларускія жанчыны** з каляровай вокладкі часопісу «Корея».

-------------

* *Слухач Ы.:* Ня ведаю, кім ён вам даводзіцца, але Му Дроў не сказаў, што цяпер ідзе ўжо 95-ты год часалічэньня перамогі чучхэ — 主體

*Рэдакцыя:* Кім Ён Нам — гэта старшыня Вярхоўнага народнага сходу КНДР.

На мяжы 1960-х і 1970-х у вялікіх гарадах была завядзёнка — біцца раён на раён. Сфармаваўся цэлы інстытут каралёў раёну.

# Каралі

Каралі пачыналі сваё валадарства яшчэ ў малодшых клясах агульнаадукацыйных школаў: адбіралі капейкі ў аднагодкаў. Іх ставілі на міліцэйскі ўлік, а настаўнікі не маглі дабраць розуму, як дацягнуць маладых рэкеціраў да восьмае клясы. А дацягнуўшы, з палёгкай уздыхалі ды выпраўлялі ў якую ПТВ. Да таго часу вакол сваволнікаў ужо гуртаваліся падлеткі, якіх у міліцэйскіх зводках называлі «цяжкімі».

Кароль насіў мянушку — як правіла, скарочаны варыянт прозьвішча. Вечарамі каралеўская сьвіта зьбіралася дзе-небудзь у парку й чапляліся да мінакоў — хлопцаў свайго веку. **Звычайна пыталіся: «Ці ёсьць запаліць?»** Калі мінак адказваў: «Няма», кароль падымаўся з лавы, рабіў, каб напужаць «кліента», выпад рукой, і пытаўся ўжо больш рашуча: «А калі абшукаю?» Урэшце ў хлопца адбіралі цыгарэты й давалі ладнага высьпятка.



Каралі пастаянна дзялілі гарадзкую тэрыторыю. З тае прычыны моладзевыя групоўкі варагавалі. Канкрэтна дачыненьні высьвятлялі на танцпляцоўцы. Адзін з каралёў, нібыта незнарок, піхаў другога плячуком і потым, азірнуўшыся, прамаўляў: **«Магчыма, ты папросіш прабачэньня?»** У адказ чуліся абразы, і задзірака страшным голасам выдыхаў: «Паўтары!» Пасьля таго, разам са сваімі сьвітамі, каралі выходзілі з танцпляцоўкі ды ішлі за бліжэйшыя кусты. **Гэта называлася «пайсьці папрацаваць самнасам».** Адразу дамаўляліся нагамі ня біць, а таксама ня біць ляжачага*.

Часьцяком, убачыўшы, што ў спарынг-партнэра важкія кулакі, задзірака ішоў на міравую. Больш за тое, абяцаў усялякую падтрымку й, каб канчаткова ўбіцца ў давер, гукаў, тыцкаючы пальцам у бок сваёй сьвіты: «Хто тут на цябе? Гэты? Альбо гэты?» І тыя, на каго ківаў каралеўскі палец, пужліва хаваліся за сьпіны сябрукоў.

Міліцыя ведала пайменна кожнага караля й наструнена чакала, калі яны каго прырэжуць ці згвалтуюць, — каб потым выправіць у вязьніцу.

На пачатку 1970-х, калі шпанюкі канчаткова расьпаўзаліся, па Беларусі пракацілася хваля судовых працэсаў. Вярнуўшыся праз пару гадоў з аршанскай зоны, многія колішнія завадатары боек сьпіліся, іншыя завялі сем'і, і ніхто іх ужо не называў **каралямі**.

-------------

* *Слухач Д.:* А чым жа ляжачага біць, як не нагамі?!
*Рэдакцыя:* Вы часам не з АМАПу?

Савецкі народ быў «самым читающим народом в мире». І сапраўды, набыць прыстойную кніжку ў кнігарнях было немагчыма. Усе яны разьмяркоўваліся па блацэ, і найбуйнейшыя хатнія бібліятэкі мелі сакратары гаркамаў партыі.

## Таварыства аматараў кнігі

Ажыятажны попыт на кнігі (прычым не абыякія, а ў прыгожых вокладках) спарадзілі паліраваныя сэкцыі, якія зьявіліся ў кватэрах савецкіх працоўных.

**Найбольш прэстыжна было мець у хаце дзьвесьце тамоў «Бібліятэкі ўсясьветнай літаратуры».** Яе пачалі выдаваць пры канцы 1960-х. Я неяк патрапіў у адну кватэру. Пабачыўшы «ўсясьветку», выцягнуў том Драйзэра й замест «Амэрыканскай трагедыі» натыкнуўся на «Детскую болезнь «левизны» в коммунизме». Гаспадар кватэры абгарнуў прэстыжнымі супэрвокладкамі непрэстыжныя тамы поўнага збору ленінскіх твораў*.

\- - - - - - - - - - - - -

* *Слухач В.:* Слова Леніна не забудзецца — што сказаў, тое збудзецца!
*Рэдакцыя:* Каб ня ленінскія творы, мы б усе жылі ў горы! Маем мы гэты зборнік фальклёру, чыталі.



Каб кнігі патраплялі да сапраўдных бібліяфілаў, на пачатку 1970-х было створанае Таварыства аматараў кнігі. Яго сябры здавалі грашовыя складкі й прыкладна раз на месяц маглі набыць нейкую кніжку.

Я свойчас таксама ўступіў у гэтую арганізацыю, і неўзабаве актывістка таварыства, затрымаўшы ў калідоры, спыталася: **«Хэміндуэя браць будзеце?»** Меўся наўвеце Гэмінгўэй. Другім разам актывістка прапанавала зусім незнаёмага аўтара — Віктара Дзюдо. Папрасіў паказаць кніжку, і аказалася, што гэта быў Віктор Гюго.

Калі я ўступіў у Таварыства, самымі папулярнымі аўтарамі былі Валянцін Пікуль ды Марыс Друон. Асабліва ганяліся за Друонам — дакладней, за ягонымі раманамі з сэрыі «Праклятыя каралі». Былі выпадкі, калі падчас дзяльбы друонаўскіх раманаў іх дзерлі напалам.

**У 1974 годзе Друона зь Пікулем сталі прадаваць у абмен на макулятуру.** Адзін знаёмы, пачуўшы, што даюць друонаўскую «Французскую ваўчыцу», прыцягнуў у пункт прыёму другаснай сыравіны дзесяцікілаграмовы пачак брашур з брэжнеўскімі прамовамі: зьнёс яго зь нейкага складу. **Аднак макулятуру прымаць адмовіліся, і нават прыгразілі выклікаць міліцыю.**

Нядаўна наведаў сваю цётку, якая ўсё жыцьцё зьбірала кнігі. Кнігазбор ейны цяпер ляжыць у сырым і цёмным падвале. Крэўная прапанавала ўзяць з сабой некалькі кніг, але я адмовіўся. Цяжка цягнуць, дый сьпіна пабольвае. Цётка, дарэчы, свойчас ачольвала суполку Таварыства аматараў кнігі.

Блізкасьць выразаў «глябальны дэфіцыт» і «бясконцыя чэргі» мела глыбокі сацыяльна-палітычны сэнс. Савецкі народ гэтак дэманстраваў сьвету масавы гераізм і палітычную вытрымку. Ён выстаяў на франтах вялікай вайны, а па вайне працягваў выстойваць — цяпер ужо ў бясконцых чэргах.

## Чэргі

Там, упёршыся запалай грудзінай на прыгорбленую сьпіну папярэдніка, мужчыны знаёміліся са сваімі будучымі жонкамі, у жанчын пачыналіся радавыя спохваты, усе разам лаяліся, сёй-той траціў прытомнасьць, **зрэдчасу ў чэргах біліся, слухалі плёткі, разважалі на тэму — як было б добра, калі б Ленін пражыў яшчэ хаця б пяток гадоў, і, нарэшце, спраўлялі фізіялягічныя патрэбы.**

Камусьці можа падацца, што аўтар гіпэрбалізуе, згушчае фарбы. Ані! Я быў сьведкам, як у касе папярэдняга продажу авіяквітоў адзін бедачына, што стаяў перад акенцам касы, нарабіў лужу. Дзіва што... У чалавека хранічны прастатыт, а выйсьці з чаргі, у якой адстаяў чатыры гадзіны, не выпадала.

Салодкі пах нафталіну кружыць галаву. Многія мае суайчыньнікі з сумам, а некаторыя й з настальгічнай сьлязінай згадваюць маладосьць. Мне ж у маладосьці давялося паезьдзіць па камандзіроўках, і мінулае вяртаецца ў сьне натоўпам ля тых самых авія- ды іншых касаў.



«Я стаяла за гэтай бірэменнай жэньшчынай!», «Куды лезеш, к-казёл!», **«Жэньшчына, убірыце рыбёнка!»** — прарываюцца праз сонную замарач галасы зь мінулага, і я перабіраю нагамі ў сьне.

У краіне разьвітога сацыялізму ў чэргах даводзілася стаяць не гадзінамі, а гадамі. Шэсьць гадоў трэба было адстаяць у чарзе па «жыгулі». **Два гады чакалі, каб набыць звычайны дыван альбо кухонны гарнітур.** А на чэскі крышталь, польскую мэблю й японскую электроніку ў чэргі наагул не запісвалі.

Варта было ў прамтаварнай краме гукнуць: **«Кофты выкінулі!»**, як тут жа выстройвалася гаманкая чарга. І пільныя пакупнікі адразу выклікалі работнікаў аддзелу барацьбы з раскрадальнікамі сацыялістычнай уласнасьці. Яны мусілі спраўдзіць — усе кофты выкінулі ці штосьці прыхавалі на складзе.

Тым часам усесаюзнае радыё навучала זацісьнутых у чэргах грамадзянаў моўнаму палітэсу. **У перадачы для аматараў расейскай мовы моваэнаўцы заклікалі грамадзянаў пытацца ў чарзе ня «хто крайні?», а «хто апошні?».**

Чэргі за часамі перабудовы набылі рысы хвrouteравітага гратэску — з начнымі пераклічкамі, вогнішчамі, з напісанымі на потных далонях нумарамі й выбітым шклом крамных дзьвярэй.

Скончылася ўсё гэта ў 1991 годзе: потная, перадынфарктная, злая на ўвесь белы сьвет краіна была прыдушаная ў чэргах*.

---

* *Слухач Р.:* ..! ....!! ...!
*Рэдакцыя:* Каму як.

# фатаграфіі з натуры



Люби меня
как я тебя

Яшчэ гадоў сорак таму валізкі, ці чамаданы, былі часткай хатняга інтэр'еру. Іх ставілі — унізе самы вялікі, нагары меншы — на шыфаньеры. Эпоха скурзаму толькі пачыналася, і чамаданы рабілі зь фібры. Матэрыял гэты выраблялі шляхам насычэньня некалькіх слаёў паперы рашчынай хлярыду цынку з наступным прасаваньнем.

## Чамадан фібравы

Чамаданы былі даволі лёгкія й трывалыя: куты былі абабітыя мэталёвымі бляшкамі, а ручка мацавалася колцамі зь нержавейкі. Адзіны недахоп — фібра бязьлітасна лупілася. Каб таго пазьбегнуць, на чамаданы нацягвалі чахлы з тоўстай шэрай палатніны.

Пустыя чамаданы гучна грукалі, і я прасіў бацьку пры выпадку выбіць пальцамі рытм «Карело-финской польки». У яго гэта фахова атрымлівалася. **«Грыміць усімі фібрамі чамаданнай душы», — любіў казаць пры тым бацька.**

У чамаданах гаспадыні захоўвалі пасьцельныя рэчы й вопратку, перасыпаючы іх, у змаганьні з мольлю, нафталінам. **Каб надаць чамаданам прыемны пах, у іх з восені клалі крамяную антонаўку.** Мая маці аднойчы наклала яе пад самае века. Чамаданнае нутро потым і сапраўды прыемна пахла, але яблыкі давялося выкінуць, бо тхнулі нафталінам.



Былі яшчэ невялічкія фібравыя чамаданы. Зь імі выпраўляліся ў лазьню, таму называлі лазеннымі. А яшчэ іх бралі на заняткі ў вечаровую школу, бо хлопцам-падросткам няёмка было цягаць у руках партфэлі. Хлопцы, у меру свайго эстэтычнага сьветагляду, іх упрыгожвалі: **ляпілі на нутраным баку века каляровыя ілюстрацыі з часопісу «Огонёк». Найчасьцей гэта былі фатаздымкі дзяўчат.** Зрэшты, маглі прыляпіць і карціну Ягансона «Выступ Леніна на 3-м зьезьдзе камсамолу»*.

Неўзабаве чамаданы сталі выпускаць з замкамі, якія замыкалі мініятурнымі ключамі. Знаёмы майго бацькі паехаў неяк адпачываць у Друскенікі й за дзень да вяртаньня згубіў тыя ключы. І цьвіком спрабаваў адчыніць, і адмыслова скручаным дроцікам... Урэшце мусіў узломваць чамадан, а дарогай дахаты зьвязваць яго падзёртай жаночай панчохай.

У другой палове 1960-х шыфаньеры сталі замяняць паліраваныя шафы, і фібравыя чамаданы запіхнулі пад ложкі. **А па часе зьвезьлі на лецішчы, дзе ў іх сушылі цыбулю.** Пагатоў, у той час зьявіліся элегантныя, з маланкай па пэрымэтры, валізы са скурзаму.

На гэтым, уласна, і скончылася гісторыя фібравага чамадана.

---

* *Слухач М.:* Там Ільліч пакінуў бесьсьмяротны запавет: «Вучыцца, вучыцца й вучыцца!».
*Рэдакцыя:* А працаваць хто будзе?

У восьмай клясе я ўпершыню пабачыў заходні часопіс. І не абы-які, а «Playboy»! Хлопец з паралельнай клясы даў яго пагартаць проста на вуліцы. Утрапеньне, якое я тады зазнаў, ня выпетрылася з душы й дасёньня*.

## Часопісы польскія

На той час адзіным заходнім выданьнем, якое раз-пораз трапляла на вочы, быў часопіс «Англия». Яго выпісваў бацька аднаго майго знаёмага. **Часопіс быў пазначаны ў падпісным каталёгу, але простых людзей на яго не падпісвалі.**

Сапраўднай прадушынай была для нас польская «Panorama», якую прадавалі ў шапіках. На апошніх старонках там зьмяшчалі фатаздымкі заходніх біт-гуртоў, гарачыя дзясяткі папулярных песень ды сякую-такую інфармацыю пра новыя музычныя альбомы.

Польская «Panorama» дыктавала й моду. Пабачылі з Валерам Шлыкавым на здымку Тадэвуша Налепу з каляровым шалікам на шыі, наступным днём рушылі ў школу з такімі ж шыявязамі; угледзелі, што ў Марэка Грэхуты зялёныя нагавіцы зацыраваныя жоўтымі ніткамі — зацыравалі й мы; убачылі здымак Чэслава Немэна — тут

-------------

* *Слухачка Ё.:* Недзе згубіла тэлефон Мудрова, не маглі б вы дапамагчы?
*Рэдакцыя:* Самі згубілі, самі купляйце.



жа выцягнулі з шафаў старыя бацькавыя капелюшы, выдзерлі нутро й нацубілі на вочы.

Доўгі час я набываў «Panoramu» без праблемаў, а потым прадавачка стала яе для некага прыхоўваць. Знаёмы журналіст, які вучыўся тады ў Менску, распавядаў, што таксама бегаў набываць «Panoramu» — у «Глёбус», краму, дзе прадавалі замежныя выданьні. І нават даваў прадавачцы дробны хабар, каб тая пакідала яму асобнік.

Я даць хабару не здагадаўся, і таму вымушаны быў пераключыцца на «Nowu wieś»— польскі часопіс для вясковай моладзі. Там таксама друкавалі здымкі біт-гуртоў, але былі яны нізкай паліграфічнай якасьці.

У шапіках прадавалі «Przekrój» ды гумарыстычны часопіс «Szpilki». Гумар там быў адметны й савецкаму маладзёну не зразумелы. Чым прыцягвалі «Szpilki», дык гэта малюнкамі голых жаночых азадкаў, якія зьяўляліся ў кожным нумары. **«Szpilki» хутка разьбіралі**, і адзіным польскім часопісам, вокладкі якога выгаралі за шыбай газэтнага шапіка, быў «Przyjaźń» — орган таварыства польска-савецкай дружбы.

Зрэшты, калі паміж старонак «Przyjaźni» ў якасьці бясплатнага дадатку пачалі ўкладаць самавучак польскай мовы, сталі браць і яго. Пры гэтым адразу выцягвалі самавучак, а сам часопіс кідалі ў сьметніцу. Дарэчы, гэтак жа паступалі й з айчыннай «Работніцай і сялянкай». Жанкі выдзіралі адтуль старонкі з выкрайкамі, а часопіс, нават не прагледзеўшы, пускалі на распальваньне ці якія іншыя патрэбы.

На мой тадышні розум, «РіС» таго заслугоўвала — хаця б таму, што ў ёй не было здымкаў біт-гуртоў, якія друкавалі польскія часопісы.

Калі я вучыўся на апошніх курсах інстытуту, французскае слова «дыплямат» набыло новае значэньне. Так сталі называць прастакутную валізку. Немудрагелістая рэч — абцягнутая дэрматынам фанэрная скрынка. А дэфіцыт страшэнны.

## Дыплямат

У нас на курсе дыплямат быў у аднаго — дык сябры-вяскоўцы прасілі пазычыць на час вакацыяў, каб прайсьціся з форсам па роднай вёсцы. Фарсілі, праўда, нядоўга, бо ўгледзелі, што ва ўжытковым пляне дыплямат нічога ня варты. Пляшку ў яго не ўпіхнеш, бохан хлеба таксама. Пачак пяльменяў, каб пстрыкнуў замок, трэба з двух бакоў сплюшчыць. **Ну не насіць жа ў ім, сапраўды, канспэкты з падручнікамі?** I толькі праз колькі гадоў, адгукаючыся на просьбы студэнцтва, у продажы зьявіліся шырокія плястмасавыя дыпляматы, у якіх свабодна зьмяшчаліся ня толькі паўлітроўкі, але й фугасы на 0,7 літра.

Першыя дэрматынавыя дыпляматы каштавалі 12 рублёў, па іх езьдзілі ў Маскву й Рыгу. Потым зьявіліся за 18, нарэшце — за 36 рублёў. Апошнія



былі з фактурнага скурзаму, з абабітымі мэталёвымі бляшкамі кутамі й з двума замкамі. Яны ўжо вольна прадаваліся ў аддзелах галянтарэйных тавараў. Дзеля саліднасьці на верхні кут налеплівалі каляровы знак якой-небудзь заходняй фірмы. **Існавалі культавыя рэчы, якія, у нашым разуменьні, можна было насіць толькі ў дыплямаце. Напрыклад, кружэлкі біт- і рок-гуртоў.**

Маючы ў руках дыплямат, заўсёды карцела на яго прысесьці. Асабліва ля піўной бочкі. Возьмеш пару кухляў, а сесьці няма дзе. Ну й прыладзісься на дыплямаце. Пасьля таго ён дэфармаваўся й замкі расчыняліся самі сабой. Лезеш у перапоўнены аўтобус, замок шчоўкне — і майно кшталту курсавой працы па супрамаце валіцца пад ногі. **Быў выпадак, калі мой падпіты сябар прысеў з кухлем піва на дыплямат.** Драўляны каркас трэснуў, і сябрук, кульнуўшы на сябе паўлітра піва, паваліўся сьпінай на асфальт.

Піва пакідала на дыплямаце невыводныя плямы. Чым толькі ні выводзілі — і крэйдай шаравалі, і зубным парашком, нічога не дапамагала...*

Сёньня сур'ёзныя людзі носяць кейсы з кодавымі замкамі. Крытэр ёмістасьці для іх — ня колькасьць пляшак, а колькасьць тысяч даляраў, якія можна ў іх упіхнуць. I тут толькі адно лагодзіць душу, што кейс — гэта не арыгінальная рэч, а толькі клон дыплямата.

---

* *Слухачка Ш.:* Каб вывесьці плямы ад піва, іх мыюць цёплай вадой з дадаткам сьпірту (1 ст. лыжка сьпірту на 0,5 л вады).
*Рэдакцыя:* Цынічна…

# Нэйлён

У 1964 годзе толькі й размоваў было пра італійскую сынтэтыку — нэйлёнавыя кашулі ды плашчы-балёньні. Дастаць іх было немагчыма.

Першы ў нашым чатырохпад'ездным доме нэйлёнавую кашулю надзеў мой бацька. Ягоны сябар, Андрэй Манчак, два гады працаваў тэхнічным кансультантам у Рэспубліцы Малі й прыслаў адтуль мадняцкую абнову.

Бацька вельмі ганарыўся такім падарункам і надзяваў кашулю адно на партыйныя сходы ды ўрачыстыя паседжаньні. «Нэйлёнавая сарочка носіцца толькі пад гальштук», — любіў ён казаць, дапаўняючы сынтэтычны гарнітур плеценым з чорнай лёскі гальштукам.

**Калі бацька здымаў увечары кашулю, а здымаў ён яе па старой звычцы праз галаву, я заўсёды выключаў сьвятло, каб паглядзець на фіялетавыя іскры, што сыпаліся долу.** Бацькавы валасы пры гэтым злавесна стаўбурыліся, як у рэжысэра Эйзэнштэйна на вядомым фатаздымку. З-за тых іскраў, дарэчы, нэйлён забаранілі насіць на выбухованебясьпечных прадпрыемствах. І яшчэ: калі зьнятую кашулю кінуць на сьценку, яна прыліпала да шпалераў. Магла, відаць, з-за эфэкту электрастатыкі, прыліпнуць і да столі. Аднак такога экспэрымэнту бацька ня мог дазволіць: баяўся запэцкаць кашулю ў пабелку.



Нэйлёнавыя кашулі былі навылёт празрыстыя, і цела пад імі ружова сьвяцілася. Праўда, тою парою сарочкі на голае цела не надзявалі, толькі на майку*.

Адначасова зьявілася й жаночая бялізна з нэйлёну. Яе можна было набыць альбо ў спэкулянтаў, альбо па вялікім блаце. **Нэйлёнавая камбінацыя на чорным рынку каштавала 20 рублёў.**

Цела ў такіх кашулях ня дыхала, тканіна непрыемна ліпла да сьпіны, але затое кашулі ня трэба было прасаваць. Распавядалі, як адна бабця вырашыла папрасаваць унукаву нэйлёнавую кашулю, і тая вомігам расплавілася. Сядзець ля вогнішча ў нэйлёне таксама было небясьпечна: любая іскра рабіла ў ім дзірку.

Знаёмы журналіст, які ў маладосьці жыў у прэстыжным доме ў цэнтры Берасьця, распавядаў пра пажар на гаўбцы свайго суседа — мясцовага начальніка. Сусед часьцяком езьдзіў у Польшчу й прывёз адтуль тузін нэйлёнавых кашуляў. **Аднаго разу жонка павесіла іх на гаўбцы прасушыцца.** А дваровая дзятва тым часам пусьціла самаробную ракетніцу, якая выпадкова заляцела на гаўбец. Кашулі заняліся чорным дымам, і суседзі зь перапуду выклікалі пажарную машыну.

Потым у Берасьці доўга гаварылі пра пажар, у якім — страшна падумаць! — згарэлі тры кашулі. І ня простыя, а з італійскага нэйлёну!

- - - - - - - - - - - - -

* *Слухач Х.:* Перадайце песьню Я.Фрэнкеля на словы І.Шаферана «Нейлоновое сердце» зь фільму «Мужской разговор».
*Рэдакцыя:* Сэрца павінна быць гарачае! Гл. с. 61 і с. 176.

За часы маёй маладосьці ў кінатэатрах часьцяком круцілі фільмы пра шпіёнаў. У тых кінах кіраўнікі варожай рэзыдэнтуры звычайна сядзелі ўсьпёршы ногі на нізкія столікі, і ля іхных ног стаялі вялізныя бутлі. Рэзыдэнты раз-пораз падыходзілі да іх і з гучным шыпеньнем поўнілі шклянкі. Я думаў, што ў бутлях віскі з содавай, і толькі потым уцяміў, што там была звычайная газіроўка.

## Сыфон

Аднойчы мы з бацькам ішлі па вуліцы й сустрэлі суседа, які нёс у руках тую таямнічую бутлю. Я з насьцярогаю зірнуў на дзядзьку, шукаючы ў ім падабенства да кіраўніка варожай рэзыдэнтуры, а бацька запытаўся:

— Ты дзе браў сыфон?

— А вунь, сыфоназаправачную адчынілі. І сыфоны выкінулі. Бяжэце, можа й вам дастанецца, — паведаміў сусед.

Народу ў сыфоназаправачнай было як завязаць. Мы з бацькам адсталі гадзіну, і нам (дайце веры!) дастаўся апошні сыфон. Тут жа яго й заправілі, аддаўшы за запраўку 5 капеек.

**Сыфон быў з тоўстага шкла, двухлітровы. Газіроўкі хапала на два дні, і маім абавязкам было бегаць яго запраўляць.** Кожнага разу даводзілася стаяць у чарзе. Памятаю, дзядзькі, што стаялі поруч, пыталіся ў запраўніцы: зь якім ціскам запраўляюцца сыфоны? Тая, мерна тузаючы вагар сатуратара, адказвала:



— Дзесьці пяць атмосьфер.

Пра ціск пыталіся ня проста так: хадзілі чуткі, што недзе ў Полацку выбухнуў кагадзе запраўлены сыфон і забіў сямідзесяцігадовую кабету.

Сыфоны насілі трымаючы за рычажок. З тае нагоды псаваўся кляпан, і газіроўка пачынала капаць з носіка. Калі мы, падлеткі, гамузам ішлі ў сыфоназаправачную, хто-небудзь голасна пытаўся: «У якога малайца ранкам капае з канца?» І ўсе адказвалі: «У сыфона!» (Ці не таму ў 1980-я гады «сыфонам» назвалі бытавы сыфіліс.) Каб не псаваць кляпана, сыфоны сталі насіць у сплеценых цыратавых сетках-кайстрах.

Некаторым тыя кайстры даліся ў знакі. Адзін навапалачанін пайшоў ад ранку ў сыфоназаправачную й вярнуўся дахаты позьняй ночы — на ладным падпітку й з разьбітым сыфонам. Ад таго засталася толькі алюмінавая галоўка, якая, зачапіўшыся рычагом, матлялася ў кайстры. Пабачыўшы такое, жонка схапіла кайстру й з размаху, як кісьцянём, гвазданула мужа ў цемя. Давялося выклікаць хуткую дапамогу*.

Уявіць страшна, што б было, калі б муж прыйшоў дахаты з запраўленым сыфонам.

---

* *Слухач Г.:* Было такое, толькі ня жонка, а суседка зь дзявятай кватэры, я крыху дзьверы паблытаў, і ня ў цемя, а ў вуха.
*Рэдакцыя:* Ага — дык вы ўсё ж з восьмай! Дзіва што, калі ў цемя.

Яшчэ казыча нос смурод салдацкіх анучаў, галаву дурманіць ад мутнай самагонкі, язык яшчэ не адвык ад густога кандзёру, і ў сьне прагучаў голас днявальнага «Ротэ-э... пад'ём!».

## Дэмбель

І трэба пэўны час, каб усьвядоміць, што ты дома, што мерны шум за сьценкай — гэта не бээмпэшныя матора, а проста маці смажыць яечню. І доўга ляжыш **з заплюшчанымі вачыма**, аж пакуль зь лёгкім спалохам не прахопліваесься.

— Мам! Людка тут, ці зьехала куды?

— Зьехала на Новы год. Казалі, зь нейкім забясьпечаным пабралася.

Вось табе й першая дэмбельская непрыемнасьць.

У войска ехалі шумнай падпітай грамадой, дахаты вярталіся паасобку. **У першы ж дзень ішлі шукаць сяброў ды знаёмых.** Гарадзкія выходзілі ў сьвет у цеснаватым, даўно ўжо ня модным адзеньні. Вяскоўцы й жыхары невялічкіх мястэчкаў — у вайсковай форме. Форма нестатутная: гузікі з афіцэрскага шынеля, значкі й шэўроны — на плястмасавай падложцы, ну й фуражка, зразумела, задзёртая, як у Штырліца*.

---

* *Слухач Х.:* 30 жніўня 2006 году ў Крамлі падпісаны ўказ «Аб вайсковай форме», фуражка чэкістаў цяпер далучыць чорны верх да васількаватага аколышка.
*Рэдакцыя:* А галава, галава ж павінна быць халодная! Гл. с. 61 і с. 173.



Вялікае значэньне мела тое, дзе давялося служыць. Адна рэч, калі два гады адседзеў у якой Чыце, і другая — калі ў Нямеччыне. Але на пытаньне: дзе служыў, Нямеччыну ня згадвалі. Казалі абрэвіятурна: «ГэСэВэГэ» (то бок Група савецкіх войскаў у Германіі). Не апошнюю ролю граў і род войскаў. Самы высокі статус мела дэсантура. **Калі ў чарзе па «чарніла» былога дэсантніка спынялі, той няўлоўным рухам скідваў з пляча чужую руку й стрымана выдыхаў: «ВэДэВэ-э».**

Штовечару служылыя зьбіраліся на ганку вясковага клюбу, і размовам не было канца.

— Ты каму аддаваў чэсьць? — гэтае пытаньне было адно з самых папулярных.

— Пачынаючы з капітана, — няўпэўнена прамаўлялі ў адказ.

— А я — пачынаючы з палкоўніка.

Ніхто з аднагодкаў хвалька не абвяргаў. Вакол стаялі падшыванцы, і спрэчкі на гэты конт маглі зашкодзіць агульнаму іміджу.

Прэстыжна было служыць і ў Прыбалтыцы. Паслухаць тых, хто там служыў, дык яны адно й рабілі, што глядзелі з дапамогай нейкай сакрэтнай апаратуры швэдзкае тэлебачаньне з голымі бабамі, гуртом «ABBA» й Джэймзам Бондам.

Часьцяком прыяжджалі дахаты зь нявестамі. Іх звычайна прывозілі з Украіны. І тады ўдвая шчасьлівым атрымліваўся дэмбель.

## Авоська

Слова «авоська» прыйшло да нас з Расеі. Так называлі сплеценую зь вяровак сумку для нашэньня харчоў ды розных дробных рэчаў. У простай мове яе яшчэ называлі **сеткай**. Авоські цяпер нідзе ня ўбачыш — выйшла з ужытку. А некалі, на памяці майго пакаленьня, яна была незаменная ў побыце.

Згадваю той час і ўбіраю галаву ў плечы. Як мы ўвогуле тады жылі? Прынесьці харчы з крамы — і тое праблема. Пра поліэтыленавыя пакеты не было й почуту. Цэляфану хапала толькі на пакаваньне дзіцячых навагодніх падарункаў. Абгортачная папера, і тая была не заўсёды. У такіх выпадках выкарыстоўвалі газэты. **Бярэш сто грамаў падушачак — прадавачка табе іх загорне ў газэтны кулёк.**

У краму хадзілі з авоськай. Яе можна было сьціснуць у кулаку альбо піхнуць у кішэнь. На гэтым дадатныя якасьці сканчаліся. Практычна ўсе харчы, перш як пакласьці ў авоську, трэба было загарнуць у газэціну, каб ня выпалі. Вочкі ў сетцы былі вялікія, праз іх сыпалася нават дробная бульба. **Нясеш авоську й раптам чуеш: нешта зашамацела. Ага! Гэта цукар з кулька сыпануў.**



У дождж насіць харчы ў авосьцы наагул не выпадала. Газэціна намакала, распаўзалася, і за сьпінай вясёлай чародкай завіхаліся вераб'і: дзяўблі рассыпаныя крупы.

**А ў вясковых хлопцаў авоська была замест партфэля.** Паклаў у яе падручнікі са сшыткамі, павесіў на роварны руль, і гайда ў школу. Гэтак жа вазілі хлеб зь вясковай крамы. Бралі адразу восем боханаў, клалі ў дзьве авоські й вешалі з абодвух бакоў на руль.

Яшчэ была такая завядзёнка — халоднай парою вывешваць авоську з салам ды іншымі харчамі за фортку. Гэта была **імправізаваная савецкая лядоўня.** Моладзевыя інтэрнаты папросту немагчыма было ўявіць без авосек на фортках.

Доўгі час сеткі рабілі адно са шнуркоў ды вяровак, але неўзабаве зьявіліся капронавыя авоські. Яны расьцягваліся, і ў іх лезла паўмеха бульбы.

Нават у капронавым выкананьні авоська была зьявай непрэстыжнай. Таму маладзёны ўзяліся саматугам шыць палатняныя торбы. Іх упрыгожвалі малюнкамі ваўка й зайца зь вядомага мультфільму. І тут, нечакана для сябе самой, лёгкая прамысловасьць наладзіла выпуск торбаў з крымплену.

На гэтым скончылася панаваньне й пачаўся глябальны заняпад авоські*.

---

* *Слухачка Э.:* Калі ў сьне вы носіце дакумэнты й грошы ў авосьцы, дык неўзабаве ўведаеце, што ўсё на гэтым сьвеце адносна.
*Рэдакцыя:* А $E=mc^2$.

На пачатку 1960-х кожны трэці мінак-мужчына шыбаваў па гарадзкой вуліцы ў хромавых ботах. Храмачы былі ня проста абуткам. Гэта быў стыль, неад'емны атрыбут рафінаваных савецкіх людзей — адданых справе партыі й гатовых у любую хвіліну выкрыць і абясшкодзіць ворага.

## Храмачы

З маленства запомніўся верш, які чыталі на піянэрскім зборы:

*Загорелые смуглые лица,*
*Голенища сверкают, как жесть.*
*В них упругая стойкость границы*
*И холодное мужество есть.*
*На тропинке, от слякоти ржавой,*
*Не они ль проверяли посты?*
*И шпион агрессивной державы*
*Убирался обратно в кусты.*

У 1955—1958 гадах з узброеных сілаў скарацілі 1 мільён 200 тысяч чалавек. Ужо ў цывільным жыцьці скарачэнцы прыкметна вылучаліся з натоўпу. **Яны, па старой вайсковай звычцы, палілі «Казбек», на пінжаку ў іх былі ордэнскія калодкі, а на нагах хромавыя боты.** Прычым за правую халяву часьцяком была запіхнутая газэта «Правда». Ужо дарэшты зацяганыя, боты па-ранейшаму азываліся кадравым афіцэрскім рыпам, і халявы блішчэлі са статутнай зухаватасьцю.

Скарачэнцы (іх яшчэ называлі інвалідамі халоднай вайны) працавалі начальнікамі аддзелаў кадраў, інструктарамі ДТСААФ, старшынямі розных камітэтаў і сваім абуткам дыстанцыяваліся ад звычайных савецкіх рабацягаў, якія хадзілі ў завэдзганых кірзачах.



Праўда, адрозна ад вайсковай завядзёнкі спавіваць нагу белай анучай, на пачатку 1960-х адстаўнікі ўжо насілі шкарпэткі. Балазе іх сталі выпускаць з гумкаю. Дагэтуль шкарпэткі трымаліся на падцяжках, якія надзявалі на галёнку. І калі насунуць бот, падцяжка намульвала нагу. Так што анучы згаданым часам накручвалі толькі тыя, у каго была тонкая костка — каб халява не матлялася на назе.

Боты трэба было пэрманэнтна шараваць. Шаравалі звычайна старым нагуталіненым шалікам. А пашараваўшы, ссоўвалі халявы гармонікам, ды так, што храмачы рабіліся падобнымі да зімовых чаравікаў.

У сярэдзіне 1960-х адстаўніцкія храмачы пачалі развальвацца, і ў шавецкіх майстэрнях раз-пораз гучала пытаньне: **«Колькі будзе каштаваць пашыўка ботаў са сваімі халявамі?».** Аднак на той час ужо зьявіліся фаховыя шаўцы й адстаўнікам давялося, скрывіўшы вусны, насунуць на пяткі **цывільныя лідзкія туфлі.**

**А ў народны фальклёр ад той пары ўвайшоў крылаты выраз: «на халяву».** Гэта значыць узьбіцца на дармаўшчыну альбо наагул уехаць у рай на чужым карку.

Прататыпамі халяўшчыкаў, відавочна, былі адстаўнікі — уладальнікі храмачоў*.

\- - - - - - - - - - - -

* *Слухачка Ф.:* Я блукаю сярод успамінаў Мудрова, як сярод абломкаў караблекрушэньня будучага...
*Рэдакцыя:* Also sprach Zarathustra.

Кожнага разу, сустракаючы на вуліцы гаманкіх першаклясьнікаў, з прытоенай зайздрасьцю гляджу на іхныя рознакаляровыя заплечнікі. І са схаваным жахам уяўляю: што б было, калі б я свойчас прыйшоў у школу з чырвоным ранцам, які за плячамі ву-унь у таго чарнявага вісуса. Аднаклясьнікі мяне б задзяўблі — магчыма, да сьмерці. Хлопцу за часамі майго маленства не да твару было цягаць «бабскі» заплечнік.

## Сумкі школьныя

Я пайшоў у школу касьмічным 1961 годам. Якраз тады ішоў актыўны працэс мадэрнізацыі патрыярхальнай сьвядомасьці, і гэта адбілася нават на школьнай форме. Замест сталінскіх фуражак і вайсковага крою формы шкаляры (ня ўсе, а толькі тыя, хто меў заможных бацькоў) упершыню надзелі сінія гарнітурчыкі, стрыжаныя галовы ўкаранавалі блінамі-барэтамі (моду на іх спарадзілі кубінскія барбудас), а замест ранцаў сталі насіць партфэлі. Гэта, аднак, ня тычылася хлопцаў-старшаклясьнікаў: яны цягалі на плячы афіцэрскія пляншэты альбо кірзавыя сумкі, якія называлі брыгадзірскімі.



Кірзу цягалі доўга, да сярэдзіны 1960-х, калі на зьмену савецкаму нехлямяжу прыйшоў заходні элегант у выглядзе тэчак са скурзаму. Насілі іх таксама элегантным чынам — узяўшы за ражок*. Трымаць самлелымі пальцамі напакаваную падручнікамі тэчку было цяжкавата, таму трымалі яшчэ за куртаты канец маланкі, на якую яна засьцежвалася. Праз пару месяцаў маланка адрывалася.

Тэчкі ўпрыгожвалі: ляпілі на іх пераводныя карцінкі з гэдээраўскімі дэвоткамі. Карцінкі прывозілі з братняй краіны жаўнеры, што там служылі. Пераводкі былі дарэшты цнатлівыя: ні табе гарбузяных грудзей, ні ільсьняных сьцёгнаў... Проста ўсьмешлівыя бляндынкі ў трыкатажных джэмпэрах.

Я й мае сябры, Валер Шлыкаў ды Анатоль Рыбікаў, апошнія дзьве клясы хадзілі ў школу з гаспадарчымі сумкамі. Мы іх упрыгожылі: нарабілі дзірак, напісалі чырвонай фарбай замежнае слова «Beat». Насілі сумкі на плячы, і гэта было даволі зручна. Да таго ж, калі нас не пускалі з-за даўгіх валасоў на заняткі, мы залазілі ў школу па супрацьпажарнай лесьвіцы. З той жа тэчкай лезьці па лесьвіцы не выпадала. Не ў зубах жа яе трымаць!

Тэчкі неўзабаве выйшлі з моды. У пачатку 1970-х іх зьмянілі саквояжы — навамодныя школьныя сумкі.

-------------

* *Слухач Д.:* А ў нас тэчкамі білі па галаве!
*Рэдакцыя:* Верым адразу.

Ня ведаю, ці займаецца хто цяпер філюмэніяй — калекцыянаваньнем этыкетак ад запалкавых карабкоў. З канца 1970-х запалкі сталі прадукаваць стандартныя, з адным і тым жа малюнкам, а гадоў сорак — сорак пяць таму дзятва толькі гэтым і займалася.

## Цікеткі

Слова «філюмэнія» мы ня ведалі й называлі такое захапленьне «зьбіраньнем цікетак», адкінуўшы ад слова «этыкетка» першую літару.

Я дагэтуль памятаю фабрыкі, пазначаныя на цікетках: «Пролетарское знамя» (горад Чудава) — гэтыя запалкі прадаваліся ў Ленінградзе, фабрыка «Белка» (горад Слабадзкой), «Ревпуть» (Злынка), «Победа» (Верхні Ломаў), «Красная звезда» (Кіраў), нарэшце, Балабанаўская экспэрымэнтальная запалкавая фабрыка. Балабанаўскія цікеткі былі самыя прыгожыя. Друкавалі іх насычаным колерам, на гладкай паперы. Была ў мяне й адна замежная цікетка. Мангольская. З малюнкам вершніка на крылатым кані, які пералятаў з фэўдалізму ў сацыялізм.

Тутэйшыя запалкі выпрабляла Барысаўская фанэрна-запалкавая фабрыка, і барысаўскіх цікетак у нашых калекцыях было найбольш. Пры гэтым нацыянальная тэматыка ў іх не прысутнічала, калі не лічыць анонсу **«Выписывайте и читайте газету «Звязда»** — на цікетцы быў намаляваны чалавек з разгорнутай газэтай, — ды



закліку «Читайте роман Пилипа Пестрака «Встретимся на баррикадах»*.

Дзеля папаўненьня калекцыі мы ня грэбавалі поркацца нават на сьметніцах. Аднак цікеткі, якія трэба было зьдзіраць з карабкоў, не маглі зраўнацца з тымі, што прадавалі ў філятэлістычных крамах. Яны былі загорнутыя ў цэляфанавыя пакецікі — адразу дваццаць штук.

У мяне было зь дзясятак такіх набораў — набыў, як езьдзіў на пагасьціны ў Ленінград. Этыкеткі я наклейваў на кардонныя аркушы й захоўваў у адмысловай тэчцы. Яшчэ ў Піцеры ўзяў некалькі падарункавых набораў запалак з чырвонымі й зялёнымі галоўкамі. **Думаў, гэта сыгнальныя запалкі, якія ня гаснуць на ветры й гараць рознакаляровым агнём.** Аказалася, звычайныя запалкі.

А дзяўчаткі-аднагодкі, прынамсі, у нашай клясе, зьбіралі малюнкі з паштовых капэртаў. Выцінялі іх і наклейвалі ў сшыткі для маляваньня. Мая суседка па парце прыносіла сваю калекцыю ў школу — паказаць сяброўкам. У мяне такая калекцыя нічога, апроч усьмешкі, не выклікала. Аднак, калі бацькі атрымлівалі ліст у прыгожай капэрце, я выцінаў малюнак і аддаваў суседцы. **На знак падзякі яна прынесла мне аднойчы карабок японскіх запалак.** Пачак быў танюсенькі, і ў ім было ўсяго некалькі кардонных сярнічак.

Я аддаў пачак бацьку, і той ім доўга карыстаўся, запраўляючы айчыннымі запалкамі й дэманструючы знаёмцам японскую цікетку.

-------------

* *Слухач Н.:* А што, выдатная ідэя для апазыцыі!
*Рэдакцыя:* Не гуляйце з агнём.

Дзесьці на самым пачатку 1970-х да плашч-палаткі, торбы-рэспіратара, выбух-пакета ды іншых складаных словаў мілітарнай тэматыкі далучыліся пацыфісцкія боты-панчохі. Прыкладна тады ж зьявілася яшчэ падобная назва: **«штаны-панчохі».** Аднак яна не прыжылася, саступіўшы месца «калготкам».

## Боты-панчохі

Арыгінальны на той час абутак — з чорнымі цыратавымі халявамі й высокай плятформай. Ён адразу ж стаў **галоўным складнікам жаночага шчасьця.**

У вольным продажы ботаў, вядома ж, не было. Згадваецца пачутая некалі гісторыя пра тое, як адна кабета паехала ў Вільню набываць боты-панчохі. Пакруціўшыся на цэнтральным кірмашы, выйшла на патрэбных людзей, і ёй прапанавалі зайсьці ў пад'езд аднаго з дамоў на вуліцы Геркуса Мантаса* — побач з кірмашом. **Зайшла ў пад'езд і атрымала для прымеркі запаветныя боты. Насунула адзін зь іх, і тут нехта крыкнуў: «Міліцыя!»**

-------------

* *Слухачка Й.:* Узімку 1261 году войска Геркуса Мантаса разьбіла Тэўтонскі ордэн ля Калінінграду, увесну 1262-га — ля Любавы, а павесілі яго ўлетку 1273 году ў Наркічаі. *Рэдакцыя:* І дзе лёгіка?..



Зь перапуду забегла на верхні паверх, а калі ўсё сьціхла, стала спускацца па прыступках і толькі тады заўважыла, што на адной назе ў яе бот-панчоха, а на другой лямцавы апорак. Нікога ля пад'езду не знайшла, не знайшла таксама грошай у кішэнях і мусіла вяртацца дахаты ў розным абутку.

Боты-панчохі выклікалі пякучую зайздрасьць тых, хто іх ня меў. Памятаю рэпліку адной жанчыны. Убачыўшы некага ў натоўпе, яна тузанула за рукаво сяброўку. **«Глянь на яе... Такая вярзіла, а сапагі-чулкі насунула!»** Тоўстыя кабеты насілі халявы гармонікам, як афіцэры паваеннай пары: нацягнуць як сьлед іх было немагчыма.

Боты-панчохі спачатку былі проста на тоўстай падэшве, а потым займелі таўшчэзную плятформу. **Грэцкім трагікам такія катурны й ня сьніліся.** Плятформа рабілася ўсё больш манумэнтальнай, у выніку пачасьціліся траўмы: вывіхі ды расьцяжэньні сухажыльля ў раёне шчыкалаткі.

На новых ботах халявы бліскалі лякам. Але хутка трацілі бляск, а на марозе наагул трэскаліся. Самым кволым месцам ботаў-панчохаў былі мыскі. Там яны часьцяком дзерліся, ды так, што вялікі палец вылазіў вонкі. У халадэчу боты зусім ня грэлі, а цёплай парою альбо дзе-небудзь у рэстаране ногі ў іх прэлі й надта сьмярдзелі.

У крамах цыратавыя боты-панчохі зьявіліся ў 1973 годзе. Каштавалі яны 70 рублёў. Іх бралі ў асноўным вясковыя дзеўкі, бо гарадзкія на той час шукалі абутак з натуральнай скуры й з іроніяй пазіралі на вясковых раўналетак, абутых у боты-панчохі.

Самым папулярным у 1950-я было слова «дружба». І экстрапалявалі яго найперш на савецка-кітайскія дачыненьні. Кожнага ранку, калі ад пэрону Яраслаўскага вакзалу ў Маскве адыходзіў цягнік Масква — Пэкін, з вакзальных рэпрадуктараў вырывалася на прасьцяг песьня **«Русский с китайцем братья навеки»**. На пачатку 1960-х браты дарэшты пераладзіліся, аднак кітайскія тавары яшчэ зьяўляліся на паліцах.

## Тэрмасы з чырвоным цмокам

Найстрашнейшым дэфіцытам былі літровыя кітайскія тэрмасы з намаляваным на іх чырвоным цмокам. **Наяўнасьць такога тэрмаса сымбалізавала заможнасьць і дабрабыт. Кіпень у ім не астываў цэлыя суткі.** Мы, падшыванцы, шчыра таму дзівіліся. Каб разабрацца, у чым сакрэт цеплаізаляцыі, адкручвалі галоўку й выцягвалі люстраны цыліндар. І потым, зь вясёлым рогатам, глядзелі на свае дарэшты перакрыўленыя люстраныя адбіткі. Былі выпадкі, што цыліндар разьбівалі, і для бацькоў гэта было маленькай трагедыяй.

Для падлеткаў апагеем шчасьця было займець круглы кітайскі ліхтарык*. Працаваў ён на дзьвюх батарэйках, якіх не было ў крамах. Таму калі хтосьці з бацькоў выпраўляўся ў Маскву ці Ленінград, іх сьлёзна прасілі пашукаць там батарэек. А яшчэ прасілі прывезьці **кітайскія тэнісныя шарыкі**. Яны былі лёгкія й скакучыя, а калі й дэфармаваліся, дык варта было патрымаць над парай — і форма аднаўлялася. Шарыкі савецкай вытворчасьці пасьля такой апэрацыі кепска скакалі й лёталі па дзіўнай траекторыі.

**Самым жа ходкім кітайскім таварам былі кеды: сінія, аблямаваныя белай гумай, з выявай сплеценых колцаў на круглым лэйбле.**

У школе ўсе з зайздрасьцю глядзелі на ўладальніка кітайскай самапіскі з залатым пяром. Некаторыя нават прасілі даць паглядзець, ці сапраўды гэта кітайская рэч, а пабачыўшы на пяры герогліф, падобны на нашу літару «Ф» (што значыць Кітай), з уздыхам вярталі самапіску.

Жанчыны ганяліся за кітайскімі халатамі з натуральнага ядвабу, якім не было зносу. У маёй маці быў такі. Падчас безграшоўя прадала суседцы й потым усё жыцьцё аб тым шкадавала. Яшчэ адна фішка — рознакаляровыя ніткі мулінэ Шанхайскай ткацкай фабрыкі. **Цяпер жанкі ўжо гэтым не займаюцца, а на пачатку 1960-х усе скрозь вышывалі баўгарскім крыжам букеты бэзу ды катоў з банцікамі на шыі.** Шанхайскія ніткі, у адрозьненьне ад айчынных, ня бляклі, і кабеты, як тыя падшыванцы, прасілі камандзіраваных у Маскву й Ленінград прывезьці пару маткоў дэфіцытных нітак.

Ну й, вядома, паглядзець — ці не прадаюць дзе тэрмасаў з чырвоным цмокам.

-------------

* 很抱歉 : Прапануем таксама амулеты, талісманы, жаб, чарапах, драконаў і манэты шчасьця ў неабмежаванай колькасьці!

*Рэдакцыя:* А 供应信息

Гаворка не пра штучнае рэчышча, збудаванае на костках вязьняў ГУЛАГу, а пра знакамітыя папяросы*.

## «Беламорканал»

«Беламорканал», ці папросту «Беламор», каштаваў 22 капейкі. Гэта былі самыя папулярныя ў краіне папяросы. У курцоў была звычка: паліць папяросы адной і той жа фабрыкі. У Беларусі добрым лічыўся гарадзенскі «Беламор». А найлепшыя папяросы ў Саюзе (так, прынамсі, казалі заўзятыя курцы) выпускала Ленінградзкая тытунёвая фабрыка імя Ўрыцкага.

**Калі да нас прыяжджаў зь Ленінграду дзядзька Пятро, муж маёй роднай цёткі, ён прывозіў цэлую валізу піцерскіх папяросаў.** Частаваў імі майго бацьку ды ягоных знаёмых, і яны на адзін голас сцьвярджалі, што ленінградзкія папяросы духмянейшыя й мацнейшыя за гарадзенскія.

«Беламор» любілі паліць былыя франтавікі. Многія зь іх насілі партабакі й палілі праз муштукі. У аднаго бацькавага сябра, франтавіка, быў трафэйны нямецкі муштук: пажоўклы, з пагрызеным бурштынавым канцом. Муштукі забівала тытунёвая смала, і іх трэба было прачышчаць мэталёвым прутком. **Тытунёвую смалу курцы праз няведаньне называлі нікатынам.**

**У «Беламору» быў беларускі адпаведнік — папяросы «Нёман» з малюнкам чэзлай бярэзіны на пачку.** Другое месца па папулярнасьці займаў **«Север» — улюбёныя папяросы кіроўцаў ды мэханізатараў.** Каштаваў «Север» 14 капеек. Калі трэба было запісаць нечы адрас ці марку запчастак, мэханізатары пісалі на папяросным пачку.

Найпрэстыжнейшымі папяросамі лічыўся «Казбек» коштам 30 капеек. Просты люд паліў яго толькі ў рэстаранах, пастукаўшы, за прыкладам кадравых афіцэраў, папяросінай па пачку й дзьмухнуўшы ў гільзу. А самымі непрэстыжнымі былі «Прибой» за 12 капеек ды «Байкал». «Байкал» у сярэдзіне 1960-х зьнік з продажу. Адзін вядомы беларускі філёзаф распавядаў пра свайго бацьку, простага рабочага, які ўсё жыцьцё марыў перайсьці з «Прибоя» на «Беламор», ды так і ня даў рады гэтага зрабіць: бракавала грошай.

**У крамах і чайных беламорыны можна было набыць паштучна. Бралі звычайна дзьве штукі: адну ў зубы, другую за вуха.**

Прыкладна ў 1967 годзе адбылася зьмена агульнай парадыгмы тытунепаленьня. Курцы масава ўпадабалі цыгарэты. Паспрыяў завоз танных баўгарскіх цыгарэт: «Лайкі», «Сонца», «Шыпкі». Маё пакаленьне папяросаў ужо не паліла. Адно што ў інстытуце, на бульбе, спаліўшы прывезеныя з дому цыгарэты, даводзілася пераходзіць на папяросы. У вясковых крамах з курава быў толькі «Кэнэл» — так, на заходні манер, называлі мы «Беламорканал».

---

* *Рэдакцыя:* Папярэджваем — курэньне шкодзіць вашаму здароўю.
*Слухач Е.:* Як надакучылі... Вы ж радыё, вам якая розьніца?!.

# Гальштукі

Гальштук — слова нямецкага паходжаньня, і па-беларуску будзе шыявяз. Некаторыя носяць яго штодня, уважаючы за неад'емны элемэнт мужчынскага ўбраньня. Іншыя лічаць шыявяз чымсьці непатрэбным, і калі ў ім і зьяўляюцца, дык толькі на ўласных паховінах.

Мой бацька, колькі яго памятаю, заўсёды хадзіў пры гальштуку, на адваротным баку шыфаньерных дзьверцаў іх вісела пара дзясяткаў.

Больш за ўсё мне падабаўся гальштук, сплецены з чорнай лёскі. Трымаўся ён на спружнай гумцы, і калі гальштук адцягнуць, ён даволі балюча біў па коўціку. Гэты шэдэўр галянтарэйнага мастацтва называлі не інакш як «вечным гальштукам». «Закапай на пяць гадоў у зямлю, адкапай — і адразу надзявай! Будзе як новы!» — любіў казаць бацька.

Аднак гордасьцю бацькавага гардэробу быў шыявяз з бліішчынкамі. Калі яго пакруціць на сьвятле, ён пераліваўся ўсімі колерамі вясёлкі. Аднойчы з-за недагляду гальштук нечым прыціснулі, і ён стаў тапырыцца ўгору. І колькі бацька яго ні раўняў, колькі ні прасаваў цупкую сынтэтыку, справіцца з гальштучнай эрэкцыяй ня даў рады.

Канец 1960-х пазначаны галянтарэйным вычварэнствам — шыявязам даўжынёй ня больш за



шэсьць сантымэтраў пры нечувана вялізным вузьле. Разглядаючы тэндэнцыю гальштучнага абразаньня ў разьвіцьці, можна было ўявіць, што ад мужчынскай аздобы застанецца толькі вузел.

Аднак на зьмену абразанікам прыйшлі даўгія шыявязы самай сьмелай каляровай гамы. Неўзабаве ў «Вожыку» зьявіліся карыкатуры на гальштучных стылягаў, а міліцыя пачала спыняць хлопцаў пры каляровых гальштуках ды спраўджваць дакумэнты. Я дагэтуль ніколі гальштукаў не насіў, але тут набыў з рук квяцісты польскі «крават». Бацька, пабачыўшы справунак, загадна прамовіў: «Здымі!» А дзесьці праз год сам начапіў выраб Лодзінскай галянтарэйнай фабрыкі ды выправіўся на партсход.

З часам шыявязы рабіліся ўсё больш даўгія й шырокія, а вузел набыў памеры кулака*. Такая прасьціна стала выконваць функцыі сьлінючкі. Падпітыя дзядзькі, седзячы ў рэстаранннай задусе, выціралі гальштукамі потныя шыі ды лабаціны, а потым і перапэцканыя вусны.

Апошняе вычварэнства прыпала на пачатак перабудовы. Вячаслаў Малежык прасьпяваў у тэлеперадачы «Шире круг!» песеньку пра мазаіку ў гальштуку шырынёй ня болей за кравецкі аршын. Ажыятажу ўсохлы шыявяз ня выклікаў.

Наступаў час, які, перафразуючы філёзафа Фрэнсіса Фукуяму, можна было назваць «канцом гісторыі гальштуку».

---

* *Слухачка П.:* Тугі вузел можа выклікаць падвышэньне ціску ў воку, прывесьці да гляўкомы й страты зроку.
*Рэдакцыя:* Нам якая розьніца — мы ж радыё!

Калі беларускі народ годна сустракаў 50-ю гадавіну савецкай улады, на гарадзкіх вуліцах зьявіліся хлопцы ў клёшах.

# К л ё ш ы

Клёшы (у моладзевым слэнгу **кляшы**) розьніліся ад звычайных штаноў тым, што калашына ад калена пашыралася й канец ішоў на скос. Быў і шырокі пояс, з двума гузікамі. Кішэні ў клёшах месьціліся сьпераду, а ня збоку, як звычайна. Каб падкрэсьліць гэтую дэталь, першыя ўладальнікі модных штаноў насілі ў кішэнях складзеную ў столку белую паперу, якая вытыркалася вонкі.

**Клясычным лічыўся клёш 22 на 24. То бок 22 сантымэтры ў калене, 24 на доле.** Аднак самыя маднючыя шылі нагавіцы шырынёй на доле 26 і нават 28 сантымэтраў.

Адпаведна шырыні клёшу рабілі шырэйшы й пояс, які падбіраўся пад самую грудзіну*. Пояс зашпільваўся наўскасяк, і ўжо не на два, а на тры гузікі. Гузікі мусілі быць каляровыя, з жаночай вопраткі. **Клясычны ўзор клёшаў прадэманстраваў герой мультфільму «Бременские музыканты».** У таго нагавіцы наагул былі з клінамі.

---

* *Слухачка Ш.:* А са спадніцамі-клёш добра глядзяцца топы, камізэлькі й скарочаны пінжак. Талія павінна лёгка ўгадвацца.
*Рэдакцыя:* Баімся, не ўгадаем. Мы ж не тэлебачаньне.



Мясцовыя стылягі (на той час іх ужо называлі **чуvакамі**) таксама ўшывалі чырвоныя кліны, па краях кліноў прышывалі гузікі й падвешвалі алюмінавыя ланцужкі. Такую аздобу, праўда, насілі адзінкі. Хадзілі чуткі, што ў суседнім Полацку нейкі чувак аздобіў кліны лямпачкамі ад ліхтарыка й міргаў імі — у кішэні была батарэйка. Чувака, ізноў-такі, па чутках, забрала міліцыя.

Калені маднючых штаноў адчайна пухірыліся. Гэта спрабавалі ліквідаваць гарачым прасам, але беспасьпяхова — матэрыял, відаць, быў ня той. Бралі танны, 7—8 рублёў за мэтар (на пашыўку трэба было адзін мэтар і дваццаць сантымэтраў). Пашыў цягнуў на чырвонец, так што даводзілася эканоміць. Яшчэ адна праблема: шырокі пояс бязьлітасна скручваўся, зьбіваўся так, што не было відаць гузікаў. Каб ліквідаваць недахоп, даводзілася пояс распорваць і ўстаўляць паласу каленкору ці яшчэ нечага цупкага.

**Нарэшце, шырозныя калашыны матляліся на ветры й абкручваліся вакол галёнкі.** Доўга не маглі даць рады, як з тым змагацца, нарэшце прыдумалі: канцы калашыньня сталі абшываць мэталёвымі маланкамі.

Штаны гэтага крою былі ў модзе чатыры гады. У 1973 годзе зьявіліся клёшы другой хвалі. Калашыньне ў іх пашыралася ўжо не ад калена, а ад клубоў. У гэтых нагавіцах былі накладныя кішэні, трымаліся яны на адным гузіку, а ў прарэх была ўшытая маланка.

Потым прыйшоў **час джынсаў**. І тыя, каму пашчасьціла нацягнуць на клубы блакітнае дзіва, ужо й не хацелі прызнавацца, што зусім нядаўна насілі клёшы.

На пачатку 1964 году на экранах рэдкіх тады тэлевізараў мільгануў малады сьпявак Мусьлім Магамаеў. Пяюн кагадзе вярнуўся з Італіі. На сьпеваку была куртатая, цьмянага бляску апранаха з мэталёвымі гузікамі.

## Балёньня

Нешматлікія ўладальніцы тэлевізійных прымачоў ня ведалі тады, каго аблашчваць ахмялелымі позіркамі: сьпевака ці ягоную апранаху. Бальшыня й ня ведала, як называецца гэты куртаты, дзіўнага крою плашч. І толькі самыя абазнаныя, наблізіўшы насы да экранаў, захоплена выдыхнулі: «Балёньня!»

Жыўцом тых плашчоў ніхто ня бачыў, і пра іх апавядалі розныя байкі. Казалі, балёньню можна скамечыць, піхнуць у кішэнь, а потым зноў апрануць. Праўда, байкам тым мала хто даваў веры. Зьявіліся й адпаведныя показкі. Распавядалі пра зайца, які знайшоў у лесе прэзэрватыў, нацягнуў на вушы, і пачуў ад зайчыхі: «Зусім, касы, ашалеў! Дзеці галодныя, а ён балёньню купляе».

Першыя плашчы-балёньні зьявіліся ў нас дзесьці праз год. Завозілі іх у Саюз марыманы гандлёвага флёту. Каштавалі плашчы ад 40 да 60 рублёў — шалёныя грошы. Аднак нават маючы патрэбную суму, набыць абноўку было ня так і проста, бо гандляроў пільнавала міліцыя. Так, у Вільні культавую вопратку прадавалі з чатырох гадзінаў ночы й да шасьці гадзінаў раніцы ля галоўнага калгаснага рынку. А чацьвертай гадзіне панавала цемра, і даводзілася, каб прымерыць адзежыну, паліць газэтныя жмуты.



Самымі дэфіцытнымі былі жаночыя плашчы чырвонага колеру. У модніц было правіла: засукваць рукавы — па самыя локці. Стылягі ж падымалі каўняры й як найтужэй зацягвалі паясы ніжэй геніталіяў. Яшчэ адна адзнака стылю — балёньневыя барэты. Іх насілі выцягнуўшы наперад брылёк. Самым шыкоўным лічыўся плашч з капронавай сеткай на сьпіне. Сетку ўшывалі дзеля вэнтыляцыі, бо балёньня не прапускала ня толькі ваду, але й паветра. У цёплае надвор'е людзі ў іх прэлі, і скура пакрывалася нязводнымі прышчамі.

Пры канцы 1960-х на экранах Беларусі зьявіўся Ален Дэлён у белым дэмісэзонным плашчы. Плашч быў з бавоўнянай тканіны, і савецкі народ — ад Масквы да самых да ўскраін — зразумеў: няма ў сьвеце іншай апраткі, дзе так вольна дыхае цела. І акурат тым часам, калі самыя прасунутыя менчукі паехалі ў Вільню шукаць алендэлёнаўскі дэмісэзон, савецкая лёгкая прамысловасьць наладзіла масавы выпуск балёньні, заваліўшы крамы ўцэненых тавараў*.

У сярэдзіне 1970-х балёньневыя плашчы насілі вясковыя пастухі. Калі яны ляжалі пад кустом, іх урэшце зжавалі калгасныя каровы. Не пастухоў, вядома, а прасоленыя ад поту балёньні.

---

* *Слухачка Ш.:* Каб балёньня ня сыпалася, яе крояць паяльнікам ці апаратам для выпальваньня на дрэве, а каб край быў роўны, трэба прыціснуць мэталічнай лінейкай на шкле.
*Рэдакцыя:* Прыцісьнуць і паяльнікам, кажаце… Які ваш адрас?

Жанчыны ва ўсе часы сочаць за сваёй зьнешнасьцю, а таму нават галоднай паваеннай парой амаль у кожнай хаціне вісела пацьмянелае ад часу й пажарышчаў люстэрка. Вешалі яго зь невялікім ухілам, пад самай стольлю.

## Трумо

Пры канцы 1950-х самыя заможныя беларусы сталі набываць фанэрныя шыфаньеры зь вялікім люстрам на дзьверцы. Ягоная ўладальніца магла цяпер прымерыць, азіраючы сябе ў поўны рост, новую спадніцу, паправіць прычоску, а то, наблізіўшы твар да люстра, выціснуць прышч на носе*. Шыфаньерныя люстры віселі на пярэднім баку дзьверцаў, і адлюстраваньне ў іх было крыху скрыўленае.

У першай палове 1960-х у інтэр'ерах гарадзкіх кватэраў зьявілася трумо. Гэта было высокае люстэрка, якое мацавалася да нізенькай тумбачкі. Ставілі яго так, каб кожны, хто ўваходзіў у кватэру, мог бачыць у трумо свой адбітак. **Была завядзёнка запіхваць за люстра віншавальныя паштоўкі, а таксама фатакарткі кінаактораў.** Трумо адразу стала самым каштоўным элементам інтэр'еру, і падчас пярэбараў гаспадар ехаў у кодабе машыны ўжо не ў абдымку зь фікусам, а трымаў загорнутае ў коўдру люстра.

Часта трумо, сабраўшы грошы з абодвух бакоў, дарылі маладым на вясельле. Па тым часе гэта быў дарагі падарунак, і знаёмцы ды суседзі потым доўга тую падзею абмяркоўвалі. Згадвалі пра такія падарункі і ў песьнях. Так, Мая Крысталінская, чый лірычны вакал панаваў у этэры, з гарэзьлівай інтанацыяй сьпявала: **«И подруги к новоселью подарили нам трюмо».**

Пачатак 1970-х пазначаны ў аналах савецкага побыту зьяўленьнем трумо ўжо не з адным люстрам, а зь дзьвюма дадатковымі створкамі. Гэта быў **трэльяж** (у простай мове казалі «трыльяж»). **У бакавыя створкі можна было агледзець патыліцу, і менавіта тады многія мужчыны з жахам убачылі, якія ў іх разьлеглыя плехі.** Тады ж пайшла мода прыкрываць лысіну пасмай валасоў, якую зачэсвалі з-за правага вуха. Трэба заўважыць, што ў трэльяжах быў адзін недахоп: створкі матляліся ў розныя бакі. Каб выправіць дэфэкт, штыры, на якіх яны віселі, абкручвалі гумкай.

Да трэльяжа мусілі быць прыстаўленыя нізенькія пуфы — з квадратным альбо круглым седалам. Праўда, былі яны далёка не ва ўсіх кватэрах, бо ў продаж практычна не паступалі. І толькі пазьней пуфы сталі прадаваць у камплекце са спальнымі гарнітурамі. Трумо на той час ужо выйшла з ужытку, але ў памяць людзкую гэтае слова ўелася.

Я сам чуў, як дыктарка на радыё, распавядаючы пра візыт у СССР канадзкага прэм'ера П'ера Эліёта Трудо, назвала яго П'ерам Эліётам Трумо.

---

* *Слухачка Е.:* Клюб «Анжэла» запрашае на 7-дзённы сэмінар «Скажы прышчам «Не!».
*Рэдакцыя:* Так!

Калі на экраны Беларусі выйшаў фільм «Бриллиантовая рука», вясёла-бязглуздыя песенькі зь яго сталі трансьлятарамі грамадзкага сьветапогляду эпохі («А нам всё равно...»), а маднючыя апранахі кінагероя Казадоева (крымпленавы гарнітур ды блакітная вадалазка) — блакітнаю мараю маладзёнаў.

## Вадалазкі

У 1968 годзе самыя няўрымсьлівыя й матэрыяльна забясьпечаныя маладыя беларусы выправіліся на **рыскія ды віленскія кірмашы** — шукаць «казадоеўскія» вадалазкі, але жаданыя апранахі зьявіліся там толькі праз пару гадоў. Іх пачалі завозіць з Польшчы, і былі яны не блакітнага, а белага колеру. Пасьля першага ж мыцьця польская сынтэтыка расьцягвалася, асабліва на шыі, і набывала жаўтушную водцень. Дадамо таксама, што цела ў ёй ня дыхала, але такой абставіны ніхто ня браў да ўвагі. Больш за тое: паўзьверх вадалазкі, нават цёплым днём, насоўвалі квяцістую кашулю.

Дзяўчаты ж ганяліся за вадалазам чорнага колеру. Паводле тадышняй моды, на шыю яшчэ трэба было павесіць залаты ланцужок з кропляй бурштыну.



Называю мадняцкую рэч вадалазкай — і грашу супраць праўды. **Мы яе менавалі больш рамантычна: бітлоўка.** Тлумачыць этымалёгію слова залішне. Хаця больш дакладна апранаху трэба было назваць ленанаўкай. Менавіта Джон Ленан, пачынаючы з 1965 году, фігуруе на фатаздымках у белым вадалазе.

Цягам дзесяцігодзьдзя набыць бітлоўку можна было толькі ў спэкулянтаў (слова «фарца» тады яшчэ не нарадзілася)*. **Каштавала яна 30 рублёў — трацiну месячнага інжынэрскага заробку.** Былі, праўда, і таньнейшыя, з гузікамі на карку, але іх сур'ёзныя людзі не надзявалі.

Нарэшце, за траяк можна было разжыцца вадалазнай манішкай (маю на ўвазе не масянжовае вадалазнае начыньне, а гарлавіну бітлоўкі). Яна прыкрывала толькі горла. Зручная рэч, як сьцьвярджалі знаўцы: нацягнуў на шыю, паўзьверх кашулю — і ідзеш на танцы. Пры гэтым цела не абцягвае сынтэтыка, падпахі ня прэюць, сьпіна не сьвярбіць, валасы не стаўбурацца ад залішняй электрастатыкі. І наагул — пачуваесься свабодным чалавекам. Ну а калі манішка пачарнее ад поту й пылу, варта яе толькі вывернуць — і яна ізноў лагодзіць зрок некранальнай белатою.

І, галоўнае, усе наўкол глядзяць з зайздрасьцю: на ім вадалазка!

- - - - - - - - - - - - -

* *Слухач Е.:* Супрацоўнікі вашага радыё П.Вайль і А.Геніс у кнізе «Страчаны рай» (Собр. соч., т. 2., с. 24) пішуць, што асабіста ведалі дзеўчыну, якая разьвіталася з цнатлівасьцю ў абмен на бітлоўку.
*Рэдакцыя:* І яе звалі Ева.

Дай першаклясьніку драўляную асадку, якой пісаў у школе ягоны дзед, і ён наўрад ці здагадаецца, што гэта такое. Асадак тых даўно не прадаюць. А ў наш час яны каштавалі 2 капейкі й былі самых розных колераў. Хлопцы выбіралі колеры халоднай часткі спэктру: чорныя, зялёныя. Жоўтымі ды чырвонымі пісалі дзяўчаткі.

## «Шышачка» й «зорачка»

У асадку ўторквалі пяро «зорачка». Іншымі пёрамі карыстацца забаранялася. **У пачатковых клясах пісаць прымушалі з націскам. Ад той пары запомніліся спэцыфічныя словы: валасяны пераход і таўшчынка.** «А таўшчынка?! Дзе ў цябе таўшчынка?!» — гукала над вухам настаўніца на ўроках чыстапісу.

Трэці кампанэнт пісьмовых прыладаў — чарніліца. Яе называлі невылівайкай. Напачатку яны былі скрозь шкляныя, а потым зьявіліся й фаянсавыя. **Кожны мусіў прынесьці ў школу такую невылівайку.** Яны стаялі ў шафе, і перад заняткамі дзяжурны ставіў вучню на парту ягоную чарніліцу.

Знаходзіліся пракуды, якія падсыпалі ў чарніла цукар, і тады яно пачынала цягнуцца, пакідаючы ў сшытках дробныя кляксы. А то й кідалі ў чарніліцу кавалкі прамакаткі, што гарантавала



вялікія кляксы*. Таму многія дзяўчаткі сталі насіць у школы свае невылівайкі. У партфэлі невылівайкі класьці не выпадала — чарніла магло праліцца, таму для іх шылі невялічкія торбачкі. Яны зацягваліся даўгой аборкай, якую прывязвалі да ручкі партфэля.

У трэцяй клясе перайшлі з «зорачкі» на «шышачку». Гэта было пяро зь белага мэталу, якое пісала бяз націску й мела пукаты, падобны да шышкі, таварны знак. Настаўніца спачатку забараняла пісаць «шышачкай», але потым махнула рукой.

Неўзабаве з ініцыятывы Міністэрства адукацыі дазволілі пісаць чарнільнымі самапіскамі. Але ня ўсякімі. **«Толькі з адкрытым пяром!» — шматкроць, з інтанацыяй лёгкай панікі, папярэджвалі настаўніцы.**

Шкаляры любілі вызначаць, у каго лепшая самапіска. Самымі шыкоўнымі лічыліся кітайскія, з залатымі пёрамі. Зрэшты, з маўклівай згоды настаўніц неўзабаве перайшлі на асадкі з закрытым пяром. Бацькі падаравалі мне на дзень нараджэньня шыкоўную асадку за 2 рублі 20 капеек. Пакарыстаўся ёю толькі адзін дзень. Ідучы са школы, сталі барукацца з адным ёлупнем, бацькоўскі падарунак трэснуў і запэцкаў школьны пінжак.

А ў восьмай клясе, без усялякага дазволу, усе гамузам сталі пісаць шарыкавымі асадкамі. Яны так імкліва ўвайшлі ў жыцьцё, што сёньня здаецца: імі заўсёды пісалі ў школе, і не было ніякіх драўляных асадак ды пёраў «шышачка» й «зорачка».

---

* *Слухач Ц.:* Бачу, у чарніле Мудроў не разьбіраецца.
*Рэдакцыя:* Дасылаем тэлефон суседа з восьмай кватэры.

Пачатак 1970-х быў для майго пакаленьня часам апраметных п’янак. I ня дзіва, што на зьмену малагабарытным тэчкам, зь якімі хадзілі на заняткі студэнты й школьнікі, прыйшлі, у адпаведнасьці з тэорыяй дыялектычнага матэрыялізму, ёмістыя дэрматынавыя кайстры. Іх называлі францускім словам *sac de voyage**.

## Сакваяж

Мне й самому давялося цягацца ў інстытут з сакваяжам. Адметнасьцю дэрматынавай кайстры было тое, што ў яе лезла восем пляшак «чарніла». Ад такога цяжару мэталёвая дуга, да якой мацавалася ручка, прагіналася, і гэта сур’ёзна ўскладняла студэнцкае жыцьцё. **Інтэрнатаўскія вахтары кожнага вечара сьвідравалі позіркамі сакваяжы й, калі прагін быў на два пальцы, спынялі студэнта й пыталіся, што той нясе.**

Таму, шыбуючы па «чарніла», прыхоплівалі яшчэ й тубус. Тубус, калі яго несьці разам з сакваяжам у адной руцэ, прыкрываў шчыліну, да таго ж у яго можна было дадаткова ўпіхнуць дзьве пляшкі.

Самы танны сакваяж каштаваў 9 рублёў. У студэнтаў была традыцыя — дарыць яго на дзень нараджэньня аднакурсьнікам. Грошы зьбіралі ўсёй групай у складчыну.

Прайшло пару гадоў, і замест чорных дэрматынавых кайстраў у моду ўвайшоў іх мадэрнізаваны варыянт — сьветла-брунатны сакваяж з цупкага скурзаму. Каштаваў ён 14 рублёў. Самымі моднымі былі сакваяжы югаслаўскай вытворчасьці. **Іх выраблялі са скурзаму, які меў фактуру кракадзілавай скуры, і насілі такія сакваяжы выключна міністры, кіраўнікі прадпрыемстваў і дырэктары ўнівэрмагаў.**

З цупкімі сакваяжамі ня толькі хадзілі на заняткі, але й езьдзілі да бацькоў у вёску. Адтуль, вядома, везьлі шматы сала ды іншыя прысмакі. Сакваяж ад таго дэфармаваўся, і, што самае страшнае, ад перагрузу ў яго часьцяком адлятала ручка.

Адзін наш студэнт вярнуўся ад бацькоў з мацюгамі на вуснах і ў абдымку з напакаваным сакваяжам: ручка адарвалася дарогай. Потым з дапамогай пасатыжаў прымацаваў яе нержавейным дротам — і, чарговы раз цягнучы напакаваную кайстру, падзёр дротам новую балёньневую куртку.

У сярэдзіне 1970-х у руках самых прасунутых беларусаў зьявіліся дыпляматы. Гэта была вельмі модная рэч. І пыльныя кладоўкі ды антрэсолі тою парою папоўнілі некалі модныя сакваяжы.

---

* *Слухач Ц.:* Ш… Чырыдзя… Куйзатэ… Ле… Фонсусе… Дадушэў… Ныча… Лавек.
*Рэдакцыя:* Калі ласка.

У сярэдзіне 1970-х кабеты дружна нацягнулі на галовы парыкі, ці, пабеларуску, сызвалосьнікі. **Гэта быў апошні крык моды, зьлёгку прыдушаны высокім коштам згаданай жаночай акрасы.** Каштаваў парык 60 рублёў, ледзь не палову сярэдняга заробку. Нават кабеты з шыкоўнымі валасамі стрыгліся, каб зручней было насіць сызвалосьнік.

## Парык

Спачатку парыкі набыць было амаль немагчыма. Па іх езьдзілі ў Рыгу, а потым ужо наш Навапалацак стаў ці не галоўным пастачальнікам дэфіцытнага тавару. Яго прывозілі польскія будаўнікі, што будавалі нафтаправод Полацак — Мажэйкяй. Везьлі парыкі ня толькі рабочыя, але й інжынэрна-тэхнічныя работнікі. У адной спэцыялісткі, апавядалі, на мытні сканфіскавалі коўдру, пашытую з парыкоў.

Кабеты любілі пытацца адна ў адной: чыёй вытворчасьці парык? **«Маляйзія», — казала адна. «А ў мяне тайваньскі», — з гонарам адказвала сяброўка.** Дзе тыя краіны знаходзяцца, кабеты слаба ўяўлялі. Часам парыкі перафарбоўвалі. Фарбавалі, у асноўным, іранскай хной. Райпрамкамбінаты арганізавалі тады адпаведную паслугу.

**А вось вясковыя бабці такую моду сустрэлі ў штыхі.** Яны былі перакананыя,



што валасы для парыкоў зразалі зь мёртвых жанчын. Прынамсі, я на ўласныя вушы чуў такую плётку.

З парыкамі зьвязана шмат гумарных і драматычных гісторыяў. Адну зь іх распавяла калега. Надарылася яна на адной з загарадных базаў адпачынку. Мужчына сярэдняга веку пазнаёміўся ўвечары з маладзіцай, дзеля працягу знаёмства яны ўзялі напракат лодку й выплылі на сярэдзіну возера. Калі сьцямнела, мужчына палез цалавацца, а новая знаёмая зь невядомай прычыны пачала адбівацца. Лодка хітнулася, і маладзіца зваліласяў ваду. **У апошні момант залётнік схапіў яе за валасы, роспачна пацягнуў і зьдзер з галавы парык. Ад жаху — падумаў, што зьняў скальп, — залётнік нырцануў у азёрнае прадоньне.** Трымаючыся за перакуленую лодку, парачка доўга гарлала й была ўратаваная мясцовымі рыбакамі. Злашчасны парык наступнага ранку прыбіла да берагу, і яго выцягнулі з вады вясковыя хлопцы. Потым бегалі ў ім, нацубіўшы на стрыжаныя галовы.

На пачатку 1980-х мода на парыкі мінула. Кабеты зразумелі, што лепей мець на галаве хай і рэдкія, ды ўласныя валасы.

Пэўны час парыкі надзявалі на нябожчыц, а потым і ад гэтага адмовіліся: няёмка было паўставаць перад Усявышнім у зьбітым набакір парыку*.

-------------

* *Слухачка Т.:* Рэкамэндуем парыкі са славянскіх валасоў, імітацыя скуры галавы на шоўку, ад 400 у.а. Гл. http://your-style.ru
*Рэдакцыя:* Амін.

«Альбом сямейны» ўжо амаль прагучаў у этэры, калі я зь лёгкім адчаем згадаў пра падушачкі — цукеркі, якіх даўно ўжо не прадаюць і якія каштавалі 50 капеек за кілё.

## Падушачкі

Падушачкі ляжалі ў крамах у драўляных скрынях, і ўлетку часьцяком зьліпаліся ў камяк. Скрыні, дарэчы, былі абабітыя мэталёвымі стужкамі, аб якія прадавачкі ўвесь час абрывалі канцы халатаў. Ведаю гэта, бо мая маці працавала ў краме.

З таго часу запомнілася сцэнка. Прыходзіць які смаркаты бэйбус, цягне манэтку й просіць даць «канхэт». А манэтка тая ўжо выйшла з абарачэньня, бо надоечы грошы памянялі на новыя. **Маці ўздыхне ды сыпане на вагі пяток ліпучых, з прыліплымі на іх варсінкамі радна падушачак.** Дый як не сыпанеш, калі ў бэйбуса бацька п’яніца і ў хаце не бывае лішняй капейчыны.

Маімі ўлюбёнымі цукеркамі былі ірыскі **«Залаты ключык»** коштам рубель сорак за кіляграм. Яны былі мяккія й таялі ў роце. Потым іхную рэцэптуру зьмянілі, ірыскі сталі нясмачныя й такія цягуткія, што, па сьведчаньні пэнсіянэраў, зрывалі з зубоў каронкі.

Пэнсіянэры любілі пацешыць сябе «Дзюшэсам», «Барбарысам» ці якой іншай кіславатай карамэлькай. А людзі заможныя аддавалі перавагу «Масцы», «Калейдаскопу», «Мішку на Поўначы». **Шакалядныя «Труфэлі» былі не па кішэні й заможным (па тадышніх мерках) людзям, бо каштавалі 8 рублёў за кіляграм.**



Зрэдку даводзілася пакаштаваць **«Gotinu»** (пабеларуску — «Кароўку»). Гэта былі танныя, але, як на мой густ, даволі смачныя цукеркі рыскай фабрыкі «Uzvara». Мы тады дзівіліся — чаму нашая «Камунарка» не выробляе такога смакоцьця? А яшчэ мы, падлеткі, любілі грызьці брыкецікі какавы з цукрам — быў такі паўфабрыкат. Каштаваў ён усяго 8 капеек, таму й не залежваўся на паліцах.

**Не магу не згадаць і пра такое смакоцьце, як арэхавая халва ў круглых бляшанках.** Яна прадавалася рэдка, і яе любілі дарыць на дзень нараджэньня. Халву зьядалі, а ў бляшанках гаспадыні трымалі гузікі, голкі ды іншую драбязу.

Ня маючы грошай на цукеркі, мы іх самі выраблялі. Чэрпалі лыжкай цукар і трымалі над газавай фаеркай, пакуль той не растане й не пераўтворыцца ў брунатны ледзянец. Аднойчы я сапсаваў так мэльхіёравую лыжку, і бацька задаў мне лазьню.

Шмат што забылася, сьцерлася з памяці, а вось тое, як у дзяцінстве смактаў цукерку й потым языком прыдушваў яе, адчуваючы салодкі смак павідла, памятаю. І смактаў я тады танную падушачку*.

- - - - - - - - - - - -

* *Слухач Ч.:* Ці раскрыў Мудроў тайну — як павідла трапляла ў падушачкі?..
*Рэдакцыя:* Яны на дрэвах растуць. Астатнія 1 392 082 адказы гл. у інтэрнэце.

У першыню шарыкавую асадку я пабачыў у 1966 годзе. І ня толькі пабачыў, але й патрымаў у руках. Бацька аднаго зь сябраў быў на стажаваньні ў Ангельшчыне й прывёз адтуль шарыкавую самапіску. На той час яна ўжо не пісала, але ўяўляла для нас вялікі інтарэс.

## Асадка шарыкавая

На асадцы быў каляровы малюнак — дзьве кабеты ў купальніках і з парасонамі ў руках. **Варта было асадку павярнуць, як купальнікі спадалі — і кабеты паўставалі голымі.** Я разоў дваццаць разьдзеў даўгалыгіх брытанак, і толькі тады пацікавіўся — як жа гэтая халера піша? З асадкі тырчэў невялічкі шпянёк з шарыкам на канцы, і адкуль там лілося чарніла, было невядома. Сябрук таксама ня мог нічога растлумачыць, адно паведаміў, што ў асадцы трэба мяняць нейкія стрыжні, і пішы хоць усё жыцьцё.

Праз год мая цётка, што жыла ў Піцеры, падаравала мне шарыкавую асадку. Без кабет, вядома. Набыла па блацэ, і афіцыйна яна каштавала 3 рублі 80 капеек — грошы, як для такой рэчы, даволі вялікія. У школе шарыкавымі асадкамі пісаць не дазвалялі. Але я яе браў на ўрокі й любіў, пад зайздросныя позіркі аднаклясьнікаў, пстрыкнуць стрыжнем.

Аднойчы ўзяў асадку ў школу, а стрыжань выцек, перапэцкаўшы школьную форму. Гэта была маленькая трагедыя. Стрыжань потым вымыў, паклаў да лепшых часін. **Хадзілі чуткі, што хутка ў горадзе адчыніцца пункт запраўкі шарыкавых асадак.**



Пункту так і не адчынілі, але згаданыя самапіскі неўзабаве зьявіліся ў продажы — бралі іх адразу некалькі штук. Яны былі з даўгім стрыжнем, і пасты хапала на цэлы месяц. Балазе, у школе дазволілі імі карыстацца.

Потым зьявіліся каляровыя стрыжні, а таксама шматстрыжневыя асадкі. Спачатку на чатыры колеры, а потым і на ўсе восем. Былі яны тоўстыя, а таму нязручныя. Дый карысталіся імі нядоўга, бо штосьці ў іх заклінівала, і ў выніку вытыркаўся толькі адзін стрыжань.

Тым часам вытворцы пачалі экспэрымэнтаваць з формай і вагой. Зьявіліся цяжкія **эбанітавыя асадкі** таўшчынёй 45 мілімэтраў, **асадкі зь лямпачкамі й з компасамі**, але гэныя дзівосы мала хто купляў.

Адначасова, выяўляючы клопат пра дабрабыт савецкіх людзей, урад зьнізіў цэны на стандартныя шарыкавыя асадкі. Дагэтуль яны каштавалі 70 капеек, а пасьля ўцэнкі — 35. Потым казалі, што тая ўцэнка паспрыяла развалу Саюзу, бо бюджэт не атрымаў значных сумаў.

Так што на рытарычнае пытаньне «Хто адкажа за развал Саюзу?» ёсьць канкрэтны адказ: шарыкавая асадка*.

- - - - - - - - - - - - -

* *Слухач Р.:* ...! .....!! ......!!! ..........!!!! ......................!!!!!
*Рэдакцыя:* Менавіта так Мудроў і разваліў Савецкі Саюз. Гл. таксама с. 4—213.

У «Альбоме сямейным» адбіліся падзеі, постаці й рэчы, што надарыліся, дзеялі й былі ва ўжытку ад пачатку 60-х да сярэдзіны 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Памежнымі знакамі той эпохі стаў палёт Гагарына й выбух заводу збройнага плютонію ў Чарнобылі.

Гэта была пара юнацтва, самая шчасьлівая пара ў маім жыцьці і ў жыцьці майго пакаленьня.

Вось ён, герой таго часу, гушкаецца, смаркаты й шчасьлівы, на драўляным коніку. Герою шэсьць гадоў. На ім сіняя матроска й кароткія майткі. А вось ужо пасталелы, падрослы за год на шэсьць сантымэтраў, шыбуе па вуліцы з кнігаю пад пахай. Што за кніга? Ну вядома ж, «Васёк Трубачоў ды яго таварышы».

Тым часам з вулічнага рэпрадуктара вырываецца на прасьцяг натужлівы голас: «А если, понимаете, империалисты и дальше не успокоятся, то могут получить по мягкому месту». Зычны голас патанае ў шквале аплядысмэнтаў. Савецкі кіраўнік Мікіта Хрушчоў дае дыхту амэрыканцам. Насьпявае Карыбскі крызіс.

«Пройдзе некалькі гадоў, і вы, сёньняшнія піянэры, будзеце будаваць самае цудоўнае грамадзтва на Зямлі — камунізм!» — гучыць ужо зь іншага рэпрадуктара, усталяванага ў актавай залі школы. Гэтым разам зычны голас перарываецца нэрвовым сіпеньнем настаўніцы: «Я цябе зараз выведу адсюль!» Ідзе ўсесаюзная піянэрская радыёлінейка.

У Даласе забіваюць прэзыдэнта ЗША Кенэдзі; Хрушчова скідаюць з пасады; менскае «Дынама» гуляе ў фінале кубку СССР па футболе; у далёкім Ташкенце надараецца землятрус; усё прагрэсіўнае чалавецтва сустракае 50-ю гадавіну савецкай улады; на экраны выходзіць фільм «Фантамас»; па Празе, сінім дымам спавіўшы Вацлаўскі пляц, рушаць савецкія танкі.



«Казахстан может дать и два миллиарда пудов», — гукае Леанід Ільліч. Ды герой ня чуе генсэкаўскага мармытаньня. Ён сядзіць прыціснуўшы вуха да магнітафона й захоплена лыпае вачыма. «Yesterday, all my troubles seemed so far away», — шапялява азываецца маг.

Здаецца, гэта было ўчора: магнітафон «Дайна», транзыстар «ВЭФ», песьні бітлоў, даўгія валасы. І вось ужо нехта сівабароды, са ссунутымі на кончык носу «хамэлеонамі», керхае й стрыманым голасам чытае нататкі пра рэчы дэфіцытныя калісьці й сьмешныя сёньня. Э-ээ, дык гэта ж наш герой вылез з-пад крушні пражытых гадоў і чытае з паперкі чарговы ўспамін. Дзьверы радыёстудыі расчыняюцца, і пройма гоніць паперку па стале.

Гэта восеньскі вецер уварваўся ў прачыненыя дзьверы й перагарнуў апошнюю старонку «Альбому сямейнага».

## Апошняя старонка «Альбому»

## Memorabilia

**Сваe**



**Народныя забаўкі**





**Гарадзкія легенды**



**Архаізмы**

**Стыль**

*Прычоскі*



*Галаўныя ўборы*







*Адзеньне*



*Абутак*

**Літаратура**

*Творцы*



*Творы*







*Пэрсанажы*

**Музыка**

*Выканаўцы й гурты*







*Кампазытары*



*Творы*

**Спорт**

**Газэты**



**Часопісы**







**Радыё**



**Тэлебачаньне**

**Тэхніка**

# Зьмест

**Фатаграфіі з натуры**